

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 5 мая 1989 г. № 18 (3480) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**




# СЛУЧЧЫНА ВЯСКОВАЯ, СЛУЧЧЫНА ВЯСНОВАЯ

**Рэпартаж з семінара-нарады творчых работнікаў**

Нямала на беларускай зямлі куточкаў вабных, дагледжаных, якія здаўна славяцца руплівасцю хлебаробскіх рук. Ды Случчына і сярод іх вызначаецца. Нездарма яшчэ сам Кузьма Чорны казаў, што слуцака заўсёды лёгка пазнаць, асабліва, калі трапіўся ён табе на базары. Прыглядвайся ўважлівей: напаткаўся чалавек, які, палуднуючы, трымае ў руцэ вялізны скрыль сала і малюпасенькі кавалачак хлеба, памылкі быць не можа — ён з тутэйшых краёў. Ды і хіба мог слуцак нават у самыя неспрыяльныя часы не дазволіць сабе такое задавальненне, калі зямля тамашняя надзіва ўрадлівая. «Хоць на хлеб заместа масла маж», — жартуюць слуцакі, маючы на ўвазе мясцовыя чарназёмы.

Аднак зямля зямлёй ды мала што б дала яна, каб не працавітасць людзей, не іх уменне гаспадарыць. І вось слуцкія гаспадаркі і раней эканамічна моцныя, сёння як бы пераўжываюць другое нараджэнне, паскоранымі тэмпамі рухаюцца наперад.

Невыпадкова, што семінар-нараду творчых работнікаў «Праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця і ўкараненне новых форм гаспадарання на вёсцы» Мінскі абком партыі вырашыў правесці менавіта на Случчыне. Такія паездкі ў Слуцкі раён, у тым ліку і па ініцыятыве абласной партыйнай арганізацыі, практыкаваліся і раней, тым не менш гэтую нельга аднесці да звычайных, што праводзіліся раней, у добра вядомыя ўсім нам часы.

На гэты раз прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў БССР, Саюзаў мастакоў, кінематаграфістаў рэспублікі, Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, супрацоўнікі рэспубліканскіх перыядычных выданняў атрымалі магчымасць пабываць не толькі ў перадавых гаспадарках. Ды і ўся паездка менш за ўсё насіла фармальны, афіцыйны характар, а, наадварот, была дзелавой, творчай, насычанай жывымі сустрэчамі і размовамі.

Скіраванасць на дзелавітасць надала гаворка сакратара Мінскага абкома партыі К. Дзягілева. Кузьма Кузьміч ужо ў аўтобусе пачаў своеасаблівую экскурсію, расказаў аб тым, як жывуць і працуюць хлебаробы Міншчыны сёння, калі ў галіне сельскай гаспадаркі адбываюцца значныя пераўтварэнні, прывёў лічбы, якія, як кажуць, сведчаць самі за сябе. Вобласць па паказчыках уваходзіць у першую шасцёрку абласцей краіны (сюды адносяцца Маскоўская, Ленінградская, Харкаўская, Кіеўская, набліжаецца Данецкая).

Сакратар абкома не абышоў увагай і нявырашаныя пытанні, тыя клопаты, якімі жыве партыйная арганізацыя Міншчыны. Так, пакуль што ў мінчан, не кажучы ўжо пра жыхароў сталічнай вобласці, бедны садавіна-гароднінны стол. Тут далекавата да навукова абгрунтаваных норм. Ёсць і некаторыя іншыя праблемы, што патрабуюць да сябе комплекснага падыходу, тэрміновага вырашэння. У тым жа — дзелавым, заклапочаным — духу загаварыў з удзельнікамі семінара і першы сакратар Слуцкага гаркома партыі З. К. Ломаць, які разам з сакратаром гаркома К. В. Шпакоўскай і старшынёй Слуцкага райвыканкома В. Ф. Арлоўскім сустрэў гасцей на мяжы раёна.



Першы сакратар Слуцкага гаркома партыі Зянон Кузьміч ЛОМАЦЬ: «Праца, жыццё і прыгажосць заўсёды павінны ісці побач. Прыгажосць дапамагае працы».

Зянон Кузьміч чытачам «ЛіМа» вядомы, газета пра яго расказвала. Чалавек энергічны, ініцыятыўны, поўны планаў і задум, ён аптыміст па натуры. Партыйны работнік, так сказаць, новай фармацыі. Цікавіцца літаратурай, дбае аб развіцці культуры, падтрымлівае цесныя кантакты з многімі літаратарамі. Пастаянна трымае ў полі свайго зроку пытанні сацыяльна-бытавога зместу.

Уласна кажучы, на іх ён і засяродзіў асноўную ўвагу ў час паездкі. Расказваў пра вырашэнне жыллёвага пытання, якое ў горадзе, у адрозненне ад вёскі, стаіць яшчэ вельмі востра. Праўда, цяпер пашыраецца кааператыўнае будаўніцтва, ахвотней далучаюцца да гэтай важнай справы кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый. Шмат робіць гарадская партыйная арганізацыя па паляпшэнні медыцынскага абслугоўвання насельніцтва. Тут свае праблемы. У раёне працуе некалькі ўчастковых бальніц, але становішча іх незайздроснае. Цяжка і з кадрамі: на сённяшні дзень не хапае 80 урачоў. Але кіраўніцтва раёна глядзіць у заўтра аптымістычна. Мяркуецца ў бліжэйшыя паўтара-два гады ўчастковыя бальніцы пераабсталяваць. Між іншым, як адзначыў З. К. Ломаць, па медыцынскаму абслугоўванню ды і па іншых пытаннях людзі могуць выказаць свае заўвагі, прапановы ў час прамых ліній, якія рэгулярна — прытым у выхадныя дні — праводзяць партыйныя і савецкія работнікі горада і раёна. Практыкуюцца і адкрытыя пасяджэнні бюро Слуцкага гаркома партыі.

Дапаўняючы Зянона Кузьміча, К. В. Шпакоўская гаварыла пра ідэалагічнае забеспячэнне перабудовы, работу мясцовых палацаў і дамоў культуры, сельскіх клубаў. І, вядома ж, школы. Вынікала, што ў раёне адбываюцца пазітыўныя змены ў выкладанні беларускай мовы і літаратуры, хоць пакуль што ёсць і такое: яшчэ ў самім Слуцку з дзесяці школ няма ніводнай, у якой бы выкладанне вялося па-беларуску.



Старшыня калгаса «Ленінскі шлях» М. ВАСІЛЕВІЧ расказвае пра свае клопаты і планы.

(Працяг на стар. 2).

## 9 Мая—свята Перамогі



# НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ...

ГЭТЫ ЗДЫМАК я ўбачыў на стале нашага рэдакцыйнага мастака. «Стой, стой,— вырвалася ў мяне,— дык жа гэта Іван Шмея...» Мастак перавярнуў фотаздымак, прачытаў: «І. Шмея, кавалер трох ордэнаў Славы. Горад Дзяржынск».

Яшчэ і яшчэ раз углядаўся ў знаёмы твар, адчуваючы незразумелую радасць ці то ад таго, што не падвяла памяць (прыкінуў, што не бачыў Івана Сцяпанавіча не менш як трыццаць гадоў), ці то ад усведамлення, што ёсць людзі, якіх не бярэ старасць. Сапраўды, Шмея быў амаль такі ж, якім бачыў яго, калі ў пяцідзесятыя гады працаваў у Дзяржынску.

Нечаканымі для мяне на здымку былі тры ордэны Славы на пінжаку Івана Сцяпанавіча. Не ведаў я, што ён такі герой, хоць папрацаваў у дзяржынскай раёнцы восем гадоў і пісаў пра яго не адзін раз. Пра што пісаў? Пра тое, што Іван Сцяпанавіч адзін з лепшых штампоўшчыкаў мясцовага механічнага завода, што захапляецца футболам (вакол яго на стадыёне заўсёды ўецца дзятва), што добра іграе на гармоніку, малюе карціны і нават выстаўляў іх на абласной і рэспубліканскай выстаўках самадзейных мастакоў. А вось тое, што з'яўляецца кавалерам трох ордэнаў Славы...

Паехаў у Дзяржынск, да Івана Сцяпанавіча. Дом свой ён збудаваў уласнымі рукамі. У ім чыста, утульна. Сцены пакоя, дзе мы вядзём гаворку, увешаны карцінамі: партрэты жонкі, сваякоў, пейзажы, напісаныя ў ваколіцах Дзяржынска. Кінуўся ў вочы і чамусьці ўсхваляваў, навеяў на душу смутак зімовы абразок: санная дарога, наздраваты, як бывае на прадвесні, снег, паабапал кусты вербалозу...

Прагаварылі мы ў той дзень з Іванам Сцяпанавічам не адну гадзіну. Чалавека ва ўзросце цягне на ўспаміны, мо таму Іван Сцяпанавіч так падрабязна расказваў пра сябе. Слухаў я, і праходзіла перада мной чужое жыццё з яго ўзлётамі і падзеннямі, зямнымі радасцямі і турботамі.

І. Шмея выцягнуў з шафы і паклаў перада мной фотаальбом. Перабраўшы ў ім некалькі картак, падаў адну, на якой быў сярэдніх гадоў мужчына з сур'ёзным, нават суровым тварам. «Бацька»,— вымавіў мой субяседнік.

**...У адзін з летніх месяцаў 1937 года да Вані, які гуляў з аднагодкамі ў футбол, падбег хлопец з іхняе вуліцы і, адазваўшы яго ўбок, зашаптаў на вуха: «Твайго бацьку зараз арыштавалі, сам бачыў»...**

**Так у адно імгненне раскалолася яго жыццё на — «да» і «пасля». Шчаслівае, бестурботнае да бацькавага арышту, і поўнае няшчасця — пасля.**

**Працаваў Іванаў бацька старшынёй Дзяржынскага райвыканкома, быў чалавекам вядомым — актыўны ўдзельнік грамадзянскай вайны, узнагароджаны персанальнай зброяй, член партыі з 1918 года.**

**— Думаю, не даравалі яму частых прыездаў у Дзяржынск Чарвякова і Галадзеда, якія з павагай ставіліся да бацькі, раён быў у рэспубліцы на добрым рахунку,— кажа Іван Сцяпанавіч. Потым, хвілінку памаўчаўшы, сячэ рукой: — А мо і не з-за іх, у той час лепшых камуністаў нібы касой касілі...**

**Жонка Івана Сцяпанавіча, зайшоўшы ў пакой і пачуўшы апошнія словы мужа, сумна ўсміхаецца:**

**— Мы ж з Іванам даваенныя суседзі, я дзяўчом яшчэ тады была, а помню, як адразу пачалі праследаваць сям'ю Шмеяў. Малых Іванавых сясцёр павыганялі з дзіцячага садзіка, сам ён вымушаны быў кінуць школу і пайсці працаваць. А маці іх пайшла па хатах мыць людзям бялізну — трэба ж было жыць, карміць дзяцей...**

**На вайну Шмея трапіў так. У канцы чэрвеня 41-га, калі немцы падкатваліся пад Мінск, дайшоў ён пехатою да Магілёва, знайшоў ваенкамат і, не сказаўшы, што з'яўляецца сынам «ворага народа», папрасіў накіраваць на фронт.**

**— Мне гэты падман з бацькам, ведаеце, калі адгукнуўся?— усміхаецца Іван Сцяпанавіч.— Пасля вайны ўжо, у 46-ым, калі пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Дзяржынск. Атрымалася так, што ў арміі ў партыю мяне прыняць не паспелі, хоць рэкамендацыі ўсе былі. Тыя рэкамендацыі я і прывёз дахаты, пачаў афармляцца ў партыю. Аднойчы ж выклікае мяне інструктар райкома Кузняцоў (ён, здаецца, і цяпер жывы) і пачынае мяне лаяць, чаму ў аўтабіяграфіі не ўказаў, што бацька быў рэпрэсіраваны. Завялі на мяне цэлую справу. Але караць мяне неяк не адважыліся. Усё-такі я быў ўчарашнім франтавіком, кавалерам трох ордэнаў Славы. Так што ў партыю, нарэшце, прынялі.**

Невялікіх ваенных чыноў дамогся ў вайну Іван Сцяпанавіч:

# СЛУЧЧЫНА ВЯСКОВАЯ, СЛУЧЧЫНА ВЯСНОВАЯ

(Пачатак на стар. 1).

**Першы прыпынак — калгас «Чырвоны Кастрычнік». Каб колькі гадоў назад, наўрад ці павезлі б сюды гасцей. Тым больш, што паказчыкі ў ім ніжэй сярэдніх па раёне, калгас сёй-той называе адстаючым. Праўда, не будзем забываць, што калгас з паказчыкамі «ніжэй сярэдніх» і «адстаючы» па мерках Слуцкага раёна. Для іншых жа раёнаў ён быў бы калі не адзін з лепшых, дык ва ўсякім разе адносіўся б да кандыдатаў у лепшыя.**

**На тэрыторыі калгаса знаходзіцца Руднянскае вадасховішча плошчай 400 гектараў. На возеры ёсць лодачная станцыя, яно паступова ператвараецца ў любімае месца адпачынку.**

**Далей ад возера — малочнатаварная ферма «Рудня» гэтага калгаса. З расказу З. К. Ломаця ўдзельнікі семінара ўжо ведалі, што на лепшых фермах раёна створаны спрыяльныя ўмовы не толькі для працы, але і для адпачынку людзей. Працуюць душавыя, ёсць саўны, медпункты і г. д.**

**Саўнай руднянцы, праўда, яшчэ пахваліцца не могуць, а ў астатнім... Прыгожыя, утульныя пакойчыкі на ферме... Кабінеты спецыялістаў, памяшканні для адпачынку, чырвоны куток, тэлевізар. На падлозе дываны і дывановыя дарожкі. Чысціня і ў памяшканнях, дзе ўтрымліваецца жывёла. Ну і, вядома ж, сімпатычныя, вабныя гаспадары — яшчэ зусім маладыя, па-сучаснаму апрануты старшыня І. Пятровіч, загадчыца фермы І. Цюляндзіна...**

**Па дарозе ў вёску Замосце — цэнтральную сядзібу «Чырвонага Кастрычніка» — З. К. Ломаць павёў далей гаворку пра раён. Робіцца ўсё, каб у кожнай вёсцы стварыць дом сацыяльных паслуг, у тым ліку і ў такіх населеных пунктах, якія з лёгкай рукі некаторых «добразычліўцаў» аднеслі да неперспектыўных. У гэтых вёсачках людзей перыядычна прымае ўрач, сюды рэгулярна прыязджае перасоўны магазін, будуць адкрывацца гасцёўні.**

**Для ажыццяўлення гэтай і іншых задум, гаварыў першы сакратар, патрэбны падрыхтаваныя, высокакваліфікаваныя кадры. Шлях жа да ведаў пачынаецца, як вядома, са школы. У Слуцкім раёне працуе 20 сярэдніх школ, не закрылі, як у іншых месцах, і пачатковыя.**

**Замосцкая сярэдняя школа... Дырэктар школы В. В. Цімошак расказала аб паўсядзённых клопатах мясцовых педагогаў. Яе ў нечым дапаўняў старшыня калгаса «Чырвоны Кастрычнік» І. І. Пятровіч. У гэтым нічога дзіўнага. Школа і калгас якраз бакі ўзаемна зацікаўленыя. Выкладчыкі радуюцца, што ў педагагічных навучальных установах займаюцца іх выпускнікі. Калгас ганарыцца, што сёння стыпендыятамі гаспадаркі з'яўляюцца 18 чалавек, якія навучаюцца ў рознапрофільных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных сельскагаспадарчых установах. Гэта дало добры плён — толькі чатыры спецыялісты ў калгасе, у тым ліку і сам старшыня, не мясцовыя.**

**Гасцей, найперш пісьменнікаў, непакоіла, што робіцца ў Замосцкай сярэдняй школе па паляпшэнні выкладання беларускай мовы і літаратуры, па пераводзе школы на родную мову. Справа зрушылася з месца, бо ёсць у школе людзі, пасапраўднаму ўлюбёныя ў родную мову і літаратуру. Як філолаг Л. Е. Лешчанка, як выкладчык хіміі М. М. Мяцельскі, які таксама добра ведае літаратуру, цікавіцца ёй, хораша размаўляе па-беларуску. Скардзіліся, праўда, настаўнікі, што вельмі мала паступае ў школу метадычных дапаможнікаў па беларускай мове і літаратуры, слаба камплектуецца школьная бібліятэка беларускай літаратурай, асабліва гэта тычыцца твораў, якія вывучаюцца па праграме. Скажам, на ўсю школу ёсць толькі два экземпляры «Трывожнага шчасця» І. Шамякіна, адзінкавыя экземпляры твораў В. Быкава і г. д. За апошні час бібліятэка з дапаможнікаў атрымала толькі адзін альбом «Францішак Багушэвіч».**

**Занепакоенасць зразумелая... Але ж зноў — калгас, як сказаў яго старшыня, і тут гатовы дапамагчы, выдзеліць грашовыя сродкі на набыццё неабходнай літаратуры.**

**Далей маршрут семінара пралёг у калгас імя Кірава. Здаўна славяцца Казловічы. Нават на слуцкай зямлі і сам калгас, і ў прыватнасці, яго цэнтральная сядзіба прыкметна вылучаюцца сярод іншых. Вядома, час, як кажуць, не стаіць на месцы. Ёсць сёння на Случчыне і іншыя гаспадаркі, якія дагналі кіраўцаў, а ў нечым і перагналі, але кіраўцы па-ранейшаму застаюцца для іх прыкладам і арыенцірам. Рабіць так, як робяць у Казловічах, працаваць так, як працуе Лямешчанка і яго падначаленыя.**

**Сяргей Дзмітрыевіч Лямешчанка — ён ужо трыццаць гадоў узначальвае калгас імя Кірава — чалавек вядомы не толькі ў раёне, але і ў рэспубліцы. Герой Сацыялістычнай Працы, па сутнасці, старэйшына беларускага старшыньскага корпуса. Яму хутка восемдзесят, ды па-ранейшаму нястомны ў працы.**

**Знаёмячы з поспехамі калгаса, Сяргей Дзмітрыевіч многае гаварыў пра ўжо здзейсненае. Што ж, поспехаў не абмінеш. Яны даюць аб сабе знаць, калі знаёмішся з самімі Казловічамі, гэткім аграгарадком у яго лепшым сэнсе. Калі наведваеш Палац культуры — далёка не ў кожным раённым цэнтры ёсць такі... Калі ўяўляеш, якім прыгожым, прасторным, а галоўнае патрэбным калгаснікам, перш за ўсё моладзі, будзе спартыўны комплекс, які ўзводзіцца ў калгасе.**

**У Казловіцкім Палацы культуры — адсюль, з гэтага Палаца, разносяцца па ўсёй краіне песні, што выконвае Казловіцкі народны хор, якому ўжо больш за пяцьдзесят гадоў, — адбылося абмеркаванне праблем развіцця сучаснай сельскай гаспадаркі, тых задач, якія стаяць перад працаўнікамі вёскі ва ўмовах перабудовы.**

**На сустрэчы былі запрошаны не толькі кіраўцы, але і прадстаўнікі іншых гаспадарак. Закраналіся і пытанні падраду, арэнды. Думкі, да якіх, думаецца, варта прыслухацца, бо нарадзіліся яны не ў кабінеце, а на самім пярэднім краі, дзе вырашаецца праблема забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання, а прадпрыемстваў сельскагаспадарчай сыравінай.**

**С. БУРАК,**
**арандатар, калгаснік калгаса імя Красіна:**

**— На падрадную арганізацыю працы перайшлі, па сутнасці, выпадкова. Нездарма ў народзе кажуць: не было шчасця, дык няшчасце дапамагло. Жонка мая працавала ў паляводстве, а тут трапіла ў аварыю, нагу скалечыла. Цяжка стала хадзіць на поле. Успомніў я, што ў нашым калгасе ёсць будынак, у якім раней знаходзілася свінаферма. Адрамантавалі гэтую будыніну і ў верасні 1987 года пачалі ў ёй гадаваць свіней. На адкорме знаходзіцца 400—450 жывёлін. Трымаем і парасят на дарошчванні. Прывагі на дарошчванні і адкорме ў сярэднім складаюць да 478 грамаў у суткі. На адным адкорме — больш 500 грамаў. Калі пачнём гадаваць сваіх парасят, відаць, нам выгадней будзе працаваць. А так гэта пакуль што першыя крокі... Так што пра вынікі гаварыць ранавата.**

**А. МАЛОЦЬКА,**
**кіраўнік арэнднага калектыву па вырошчванню цёлак аграфірмы «Рачкавічы»:**

**— Ферма цёлак у нас і раней была, але, не сказаць, каб надта справы на ёй ладзіліся. Мяркуйце самі: трактары, якія прывозілі корм, адносіліся да трактарнай брыгады. Тыя, хто прывозіў яго, і хто быў на адкорме, не былі аднолькава зацікаўлены ў выніку працы. Здаралася і так, што жывёла галодная заставалася. Ці то трактар сапсуецца, ці галалёд, ці трактарыст на работу не выйдзе. І вынік — прывага ўсяго 230 грамаў у суткі. За зіму цяляты — без перабольшання — даходзілі. Цяпер у нашай брыгадзе чатыры асноўныя чалавекі, чатыры трактары... Калі неабходна, прафесіі сумяшчаем. Я — не толькі брыгадзір, а і трактарыст, асеніза-**



Старшыня Слуцкага райвыканкома В. АРЛОЎСКІ.



Загадчыца фермы «Рудня» калгаса «Чырвоны Кастрычнік» І. ЦЮЛЯНДЗІНА.



Кіраўнік арэнднага калектыву аграфірмы «Рачкавічы» А. МАЛОЦЬКА.



Настаўніца Замосцкай сярэдняй школы Л. ЛЕШЧАНКА.



Старшыня калгаса імя Дзяржынскага Л. САЛАВЕЙ.

пачаў яе радавым чывонаармейцам — скончыў старшым сяржантам. Ды ці не такія, як ён, вынеслі тую вайну на сваіх плячах?

Ледзь паспяваў я запісваць у блакнот франтавыя дарогі Шмеі. Восень 41-га, страшныя дні адступлення: Магілёў, Смаленск, Вязьма, Гжацк... Пад Гжацкам яго цяжка паранілі ў галаву. Пяць месяцаў прабыў у шпіталі, потым зноў на фронт. Трапіў у Сталінградскае пекла, прымаў удзел у акружэнні арміі Паўлюса. Быў Шмея спачатку знішчальнікам танкаў, потым разведчыкам — здабываў у блізкім тыле немцаў-«языкоў»...

Іван Сцяпанавіч называе ўсё новыя і новыя мясціны, дзе яму давялося ваяваць: Данбас, Мелітопаль, Перакоп, Севастопаль...

— Пра тое, што было ўчора, магу забыцца,— гаворыць ён,— а з вайны, паверыце, помню ці не кожны эпізод.

У 44-ым апынуўся ў Беларусі. Удзельнічаў у баях за вызваленне Віцебска, фарсіраваў Заходнюю Дзвіну: «Пераплывалі раку пад шалёным агнём, хто як мог — хто на лодцы, хто трымаючыся за бервяно...» За гэтую аперацыю І. Шмея быў узнагароджаны медалём «За адвагу». Потым былі Лепель, Паставы, нарэшце, Літва. Тут Іван Сцяпанавіч «зарабіў» свой першы ордэн Славы. За што? Узяў з хлопцамі ў палон обер-лейтэнанта і 30 салдат. Да другога ордэна Славы ён быў прадстаўлены за тое, што прывалок з варожага тылу фашысцкага капітана. Было гэта ўжо ва Усходняй Прусіі ля горада Цільзіт. Ордэнам Славы І ступені Іван Шмея быў узнагароджаны за ўдзел у штурме Кёнігсберга.

Пра адзін з эпізодаў кёнігсбергскай эпапеі Іван Сцяпанавіч расказваў з усмешкай. Аказваецца, у Кёнігсбергу быў вялікі заапарк, і калі нашы падышлі да горада, гітлераўскае камандаванне загадала выпусціць звяроў з клетак, мяркуючы, відаць, гэтым напалохаць савецкіх салдат. «Смех і грэх, — расказвае Шмея.— Глядзім —ідуць у наш бок звяры: львы, тыгры, яшчэ нейкія. Залезлі мы пад танкі, рагочам, адзін аднаго падколваем: маўляў, глядзі, каб той леў цябе не з'еў. А загад, дарэчы, быў строгі — звяроў не чапаць. Ну, прайшлі яны міма, а мы наперад, на штурм...»

Шмея паказвае мне фатакартку, з якой весела ўсміхаюцца чацвёра маладых салдат. «Гэты загінуў, і гэты, і гэты...», — сумна гаворыць Іван Сцяпанавіч.

Перамогу ён сустрэў у Гдыні...

«Дарагі Іван Сцяпанавіч! На памяць аб нашай агульнай з вамі дружнай працы над фільмам «Ішоў салдат...» пасылаю вам гэтую кніжку і сардэчна віншуем Вас ад імя ўсёй нашай кінагрупы з наступаючым днём Перамогі. К. Сіманаў». І яшчэ адзін аўтограф Канстанціна Міхайлавіча Сіманава беражна захоўвае Іван Сцяпанавіч. Паказаў мне кнігу К. Сіманава «Ад Халхін-Гола да Берліна», дзе рукой аўтара напісана: «Івану Сцяпанавічу Шмею на добрую памяць. К. Сіманаў. 6 чэрвеня 1974 года».

Як пазнаёміўся мой гасцінны гаспадар са знакамітым пісьменнікам? Усё, аказваецца, адбылося вельмі «проста» — Канстанцін Міхайлавіч Сіманаў запрасіў Шмею здымацца ў сваім дакументальным фільме «Ішоў салдат...» Іван Сцяпанавіч расказваў мне падрабязнасці сваіх сустрэч з пісьменнікам, на кватэры якога ішоў запіс салдацкай споведзі...

У сорак сёмым годзе былы салдат пабраўся з былой суседскай дзяўчынкай, якая к гэтаму часу ператварылася ў прывабную дзяўчыну. У іх два, даўно ўжо дарослыя, сыны. Адзін, Юрый, партыйны работнік, другі, Яўген — дырэктар раённай кінафікацыі. Сам Іван Сцяпанавіч 33 гады адпрацаваў на мясцовым механічным заводзе, потым быў дырэктарам Дзяржынскай паляўнічай гаспадаркі, хоць, як прызнаўся, сам ніводнага разу ў паляванні ўдзелу не прымаў...

Цяпер Іван Сцяпанавіч на пенсіі, з'яўляецца членам прэзідыума раённага Савета ветэранаў вайны і працы. Кажа, што турбот хапае, бо арганізацыя немалая, аб'ядноўвае больш за тысячу чалавек.

Самая вялікая ў яго жыцці радасць — унукі, якіх у Івана Сцяпанавіча трое. Як яны любяць свайго дзядулю, відно, думаю, з гэтага здымка.

Кажуць, жыццё пражыць — не поле перайсці. Праўду кажуць. Асабліва, калі такое жыццё, як у Івана Сцяпанавіча Шмеі.

**М. ЗАМСКІ.**

---

**тар. Трымаем жывёлу на глыбокай посцілцы, гной зграбаем бульдозерам. Прадукцыйнасць працы ўзрасла ў два разы, прывагі склалі 432 грамы.**

**Г. КАСЫМАКУНАВА,**
**цялятніца калгаса**
**імя У. І. Леніна:**

**— Даўно працую на ферме. Калі яшчэ зусім малой была, маме ахвотна дапамагала. Пасля заканчэння шасці класаў пайшла працаваць на ферму. Пра якія поспехі можна было тады казаць. Прывагі — і смех, і грэх — у курэй, відаць, куды большыя былі, чым у нашых цялят. Цяпер жа працуем утрох. Кожныя суткі жывёла дабаўляе на 800—900 грамаў. І вось што заўважыла: адлучуся на які дзень — змяншаецца прывага.**

**В. ХМУР,**
**кіраўнік арэнднага**
**калектыву цэха**
**па перапрацоўцы**
**садавіны і гароднiны**
**калгаса імя С. М. Кірава:**

**— Нашаму, так званаму, падсобнаму цэху нямнога-нямала споўнілася дваццаць гадоў. Раней выпускалі да 40 відаў прадукцыі, а таксама выраблялі мясцовы «Сідр», які карыстаўся вялікай папулярнасцю. Цяпер выпускаем 20 відаў кансерваў розных гатункаў, гэта недзе на 300 тысяч рублёў у год. Што змянілася, калі перайшлі на арэнду? Ды многае, калі ўлічыць, што раней нікога ў нашым цэху не цікавіў канчатковы вынік працы. Цяпер жа зарплата кожнага залежыць ад прыбытку, а прыбытак, зразумела ж, ад самой працы, ад таго, як будзем выкарыстоўваць так званыя рэзервы. Яны ж нават і ў нашым калгасе ёсць. Калі ласка: у адным з падвальных памяшканняў ствараем цэх, дзе будзем вырошчваць шампіньёны. А гэта — новыя грошы ў калгасную касу і, канечне, павелічэнне нашых заробкаў.**

**В. КАВАЛЬЧУК,**
**намеснік старшыні РАПА**
**па эканоміцы:**

**— У адрас РАПА ў апошні час гучыць нямала крытыкі, абвінавачваюць іх у розных грахах. Але ж РАПА ўзніклі не самі па сабе, а былі створаны самімі гаспадаркамі. У нашым раёне — па ініцыятыве Савета калгасаў і саўгасаў Случчыны. Што тычыцца арэнды, дык прыжывецца яна лепш там, дзе слабейшыя гаспадаркі. У нас жа калгасы эканамічна моцныя, таму наўрад ці можна гаварыць аб шырокім пашырэнні падраду. Быў, напрыклад, такі выпадак. У адным з калгасаў нават далі, як кажуць, ад варот паварот прыезджым «арандатарам». Маўляў, і самі справімся.**

**Л. САЛАВЕЙ,**
**старшыня калгаса**
**імя Дзяржынскага:**

**— Мая думка такая: арэнда патрэбна ў слабых гаспадарках. Там, дзе механізм адладжаны, у гэтым асаблівай неабходнасці няма. У калгасе імя Дзяржынскага людзі працуюць добра, зарплата высокая. Напрыклад, свінарка атрымлівае ў месяц 503 рублі, даярка—405, механізатар —350, палявод — 177... Высокія заробкі і ў іншых катэгорый сельскіх працаўнікоў. У перспектыве далейшае паляпшэнне ўмоў працы.**

**...Гаварылі, выступалі гаспадары. Пыталіся госці, задавалі пытанні, якія тычыліся самых розных аспектаў жыцця і працы сучаснай вёскі, у тым ліку ці выкарыстоўваюцца ў гаспадарцы коні. Аказваецца, у калгасе імя Дзяржынскага налічваецца 330 коней (110, для параўнання, трактароў). Умоўна параўноўваючы, 3 кані на аднаго... сталёвага каня!**

**І калгас імя Арджанікідзе — а гэта быў яшчэ адзін аб'ект семінара — гаспадарка эканамічна моцная, са слуцкім размахам. Старшынюе тут былая заатэхнік, мілавідная Ліля Міхайлаўна Савановіч. Не сказаць, каб яна атрымала ў спадчыну слабы калгас, але ж і сама вельмі шмат зрабіла, каб справа ішла яшчэ лепш. Прыгожыя жылыя дамы, дабротныя пабудовы грамадскага і культурнага прызначэння, Палац культуры. Кожнае крэсла ў Палацы каштуе больш чатырохсот рублёў. Ды і не абы-якія крэслы, а венгерскія.**

**У час сустрэчы, якая адбылася ў кафэ Вясейскай сярэдняй школы, пра сваё жыццё і працу гаварылі сама Л. Савановіч, дырэктар школы Ф. Адзярыха, старшыня прафкома калгаса Т. Пенязь і іншыя. Зноў жа, як і ў іншых гаспадарках, адчувалася, што людзі гэтыя, хоць і розных прафесій, але ні на мінуту не забываюць, што жывуць у адной вёсцы і што ад іх агульных намаганняў залежыць, як развівацца гаспадарцы ў далейшым. Ці не таму і ў Вясеі школа адчувае да сябе пастаянную ўвагу і падтрымку з боку кіраўніцтва калгаса?! Усё гэта —і кафэ, і спартыўная зала зроблены сваімі сіламі. І ў тым, што вучні могуць атрымліваць на перапынках марожанае, прытым недарагое, таксама заслуга калгаса...**

**Здавалася б, стольki цудаў на слуцкай зямлі нагледзеліся ўдзельнікі семінара, што наўрад ці змогуць чым здзівіцца. Ды вось дзівіліся і ў калгасе «Ленінскі шлях», у Лучніках, і самому будынку праўлення, і выдатным домікам-катэджам, ды і, вядома, Палацу культуры, будаўніцтва якога завяршаецца. У Лучнікі нават ходзіць гарадскі маршрутны аўтобус № 4.**

**Пра сённяшні дзень гаспадаркі, пра яе планы расказалі старшыня М. І. Васілевіч, спецыялісты калгаса. У гутарцы закраналіся і пытанні вядзення падсобных промыслаў. Хутка пачне ў калгасе працаваць свой мясакамбінат. Забралі памяшканні старога Слуцкага мясакамбіната, адрамантавалі, плануюць у суткі перапрацоўваць да пяці тон мяса. Працуе кансервавы цэх, і амаль усе яблыкі перарабляюцца на пюрэ, якое пастаўляецца заводам. Неўзабаве ў калгасе пачне працаваць лінія па перапрацоўцы бульбы. Мяркуецца штогод атрымліваць 50 тон прыпраў, 6—7 тон чайных напіткаў, травы для якіх будуць высявацца на калгасных палетках. Пашырыцца калгасная звераферма, наладзіцца выраб скур, а, значыць, патрэбна і свая шавецкая майстэрня. Сталярны цэх? Без яго калгасу таксама не абысціся...**

**Ды галоўнае — сельскагаспадарчая прадукцыя... Летась у «Ленінскім шляху» атрымана з гектара 51 цэнтнер збожжавых, да 400 бульбы, цукровых буракоў. На 100 гектараў сельгасугоддзяў — 1500 цэнтнераў малака, 270—мяса.**

**Здавалася б, не так далёка ад'ехаліся ад Мінска, але, як быццам, адкрылі для сябе нейкі малазведаны свет. Усё для большасці ўдзельнікаў семінара было надзвычайным, цікавым, а то нават і новым. І натуральна, што было шмат пытанняў. Узнікалі ажыўленыя размовы, успыхвалі спрэчкі. Зацікаўленасць праблемамі развіцця сучаснай сельскай гаспадаркі праяўлялі не толькі пісьменнікі-публіцысты (прыгадваюцца перш за ўсё шматлікія пытанні К. Цвіркі, Л. Левановіча, У. Паўлава, І. Чыгрынава, Г. Пашкова, У. Федасеенкі і іншых), але і кінематаграфісты на чале са старэйшынам дакументальнага кіно І. Вейняровічам, і мастакі, і акцёры. Ды і партыйныя работнікі ўступалі ў дзелавыя дыскусіі.**

**Гучалі не толькі пытанні, але і выказваліся пэўныя практычныя парады, канкрэтныя прапановы. Напрыклад, свае паслугі кіраўнікам гаспадарак у справе афармлення палацаў, клубаў, школ прапанавалі мастакі. Яны ж згодны таксама дапамагчы ў рэстаўрацыі, аднаўленні помнікаў гісторыі і культуры, якіх нямала на Случчыне. Такой думкі прытрымліваюцца сакратар праўлення Саюза мастакоў БССР А. Даўгяла, вядомы скульптар І. Міско, С. Салохін, У. Пашчасцеў і іншыя.**

**Застаецца дадаць, што ў семінары, акрамя названых партыйных работнікаў, самы актыўны ўдзел прынялі загадчык сектара літаратуры і мастацтва ідэалагічнага аддзела ЦК КПБ А. І. Бутэвіч, загадчык ідэалагічнага аддзела Мінскага абкома партыі А. Я. Стрыжэвіч, загадчык сектара культуры ідэалагічнага аддзела абкома А. М. Рабіцава.**

**Па агульным прызнанні гэтая паездка на Случчыну была карыснай, цікавай.**

**Уладзімір КРУК (фота),**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».**

---

**Больш месяца прайшло пасля 26 сакавіка, калі большасць выбаршчыкаў зрабіла свой грамадзянскі выбар. Неўзабаве народныя дэпутаты СССР збяруцца на свой першы з'езд.**

**Але прайшоўшыя выбары па-ранейшаму горача абмяркоўваюцца людзьмі. І гэта зразумела. Бо многія няпростыя пытанні, што ўзніклі ў ходзе выбарчай кампаніі, застаюцца па-ранейшаму актуальнымі і вымагаюць адказу.**

**Не раз пісалася ў друку, што сярод дэпутатаў, да прыкладу, мала рабочых, працаўнікоў сяла, кааператараў. Але ж і прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі ў нашай рэспубліцы, скажам шчыра, было вылучана зусім мала. Сярод дэпутатаў ад тэрытарыяльных і нацыянальна-тэрытарыяльных акруг Беларусі не аказалася ніводнага пісьменніка, мастака, журналіста, правазнаўцы, сацыёлага — гэты пералік можна працягваць.**

**Ясна, што ўрокі выбараў патрабуюць грунтоўнага і ўсебаковага асэнсавання. Некаторыя ж публікацыі ў нашым рэспубліканскім друку, калі гаворка ідзе пра вынікі перадвыбарчай барацьбы, на жаль, грашаць пэўнай тэндэнцыйнасцю, спрошчанасцю падыходаў.**

**Прапануем увазе чытача нататкі пісьменніка-публіцыста Я. Будзінаса, які выкладае свой, магчыма, часам суб'ектыўны, погляд на падзеі.**

**Яўген БУДЗІНАС**

# АД ПОЗНЯЙ ВОСЕНІ ДА РАННЯЙ ВЯСНЫ

**Развагі пасля выбараў**

У памяці яшчэ свежыя мінулыя выбары, рэпартаж з «галоўнага» выбарчага ўчастка краіны і саркастычныя развaжанні тэлегледачоў аб тым, што прасцей: паднесці «выбаршчыка нумар адзін» да урны ці наадварот — урну да яго. Вось і цяпер яшчэ па старой завядзёнцы тайна былі выбраны, а дакладней, прызначаны акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі, ціха-мірна прайшлі першыя вылучэнні афіцыйна прапанаваных кандыдатаў і раптам...

Выбух страсцей, эмоцый, спрэчак, сутыкненняў. Мітынгі і сходы; плакаты, лістоўкі і пікеты добраахвотных агітатараў, фантастычная актыўнасць паўтарамільённага горада, які яшчэ зусім нядаўна здзіўляў краіну спакоем і размеранасцю грамадскага жыцця.

І галоўнае — непрадказальны вынік выбараў. Асабліва — паражэнне першага сакратара Мінскага гаркома партыі У. Р. Галко.

Праўда, узнікае пытанне: а чаму, уласна, вынік непрадказальны? Ці не таму, што мы проста адвыклі ад натуральнай хады нашага жыцця, перасталі верыць у непазбежнасць прычынна-выніковых сувязей, змірыліся з думкай, што можна кіраваць усім і не лічыцца з логікай грамадскага жыцця?

Перадвыбарчая кампанія. Ці належыць першаму чалавеку ў горадзе выставіць сябе ў ёй радавым кандыдатам, які нібы не адказвае за ўвесь яе ход, за захаванне правілаў сумленнай барацьбы? А тут якраз не абышлося без выдаткаў.

Выбарчы закон хоць і не гарантаваў дэмакратычнасці выбараў, але і не выключаў яе. І гэта забяспечыла выбух грамадскай ініцыятывы. Кандыдатаў пачалі вылучаць «самасційна». І адразу ж яны былі падзелены на афіцыйных, з падтрымкай, і няўгодных, якім чыніліся ўсялякія перашкоды, аж да зрыву сходаў па іх вылучэнні.

Пікам кампаніі сталі акруговыя перадвыбарчыя сходы. Цэнтрам — сход Мінскай — Маскоўскай тэрытарыяльнай акругі, дзе выстаўляўся галоўны кандыдат. Пра гэты сход (як і пра іншыя) гаворыцца, што ён быў залішне заарганізаваны. Мне падаецца гэта спрашчэннем. Таксама, як і спасылкі на адсутнасць вопыту. Перастараліся, маўляў, арганізатары, вельмі ўжо хацелі, каб усё прайшло гладка і добра. Вось і не правялі сходаў па месцы жыхарства, каб не трапіў у залу «выпадковы», «з вуліцы» народ, вось і паставілі ля кожных дзвярэй ахову, як у бункеры (каб дабрацца да свайго месца ў зале, трэба было цэлых пяць разоў прад'явіць адразу тры дакументы), вось і запоўнілі першыя рады гарадскім і раённым актывам, які стварaў «шумавую заслону», вось і прыбралі з залы мікрафон, вось і прызначылі прэзідыум, не пачуўшы прапаноў з залы (на пытанне аднаго з удзельнікаў сходу да старшыні, хто ён такі, той адказаў: «Якое гэта мае значэнне? Будзем лічыць, што я проста шавец»), вось і не абвясцілі ніводнага з вострых пытанняў галоўнаму з кандыдатаў, вось і ўзнялі на смех ідэю тайнага галасавання (да слова, дарэмна, таму што выкладчыка ІФК Семянюка потым ледзь з партыі не выключылі за тое, што ён адкрыта галасаваў за Зянона Пазняка, праўда, не на гэтым сходзе, а на Фрунзенскім акруговым, які праходзіў па той жа схеме і з не меншай напружанасцю — бо З. Пазняк, вылучаны там, — галоўны з «няўгодных» кандыдатаў), вось і не далі выступіць прадстаўнікам «няўгодных», вось і...

Дастаткова было проста зірнуць збоку на сход, каб зразумець: усё рабілася тут у лепшых традыцыях нядаўніх часоў, а заарганізаванасць насіла строга накіраваны характар мэце — працягнуць праз рэшата сходу афіцыйных кандыдатаў, адсекчы ад выбараў «выпадковых», выкарыстоўваючы ўвесь арсенал адпрацаваных дзесяцігоддзямі антыдэмакратычных метадаў і прыёмаў, уключаючы нават спробу дыскрэдытаваць сапернікаў.

Няма падстаў падазраваць, што падрыхтоўка да сходу праходзіла з удзелам ці нават пад кіраўніцтвам У. Р. Галко. Хутчэй за ўсё, і «справу Манаева», пра якую паведамлялі газета «Труд» і «ЛіМ», узнялі, і многія іншыя ініцыятывы праявілі яго падначаленыя, аказаўшы тым самым свайму кандыдату кепскую паслугу. А тое, што Уладзімір Рыгоравіч не здагадаўся хоць штосьці спыніць сваёй уладай, што, як кандыдат у дэпутаты, седзячы на сходзе побач са старшынёй, ён ні разу не заявіў пратэст, а пасля сходу быў хутчэй задаволены яго ходам, чым засмучаны, многіх прымусіла насцярожана і з сумненнем паставіцца да той часткі яго праграмы, дзе гаворка ідзе пра справядлівасць, плюралізм і сцвярджэнне прававых норм.

Супраць лому няма прыёму, гаворыць народная прымаўка. Але дамагаючыся ламавымі прыёмамі перамогі, арганізатары сходу захапіліся (па традыцыі ўсё тых жа старых часоў) поспехам мерапрыемства, забыўшы аб яго мэтах, аб бліжэйшай перспектыве — аб выбарах. Да слова, гэтак жа забыўшы ў азарце і пра больш аддаленую перспектыву — аб маючых адбыцца выбарах у рэспубліканскі і мясцовыя Саветы. Невыпадкова ўжо цяпер яны вымушаны дамагацца... не, не перамогі, а адтэрміноўкі намечанай на восень выбарчай кампаніі.

Дэманстрацыя сілы непазбежна выклікае неадэкватную рэакцыю. Тыя, хто не атрымаў

**(Працяг на стар. 4).**

# МЕРАЙ ДРУЖБЫ

Аляксандр Пухаеў з Паўднёвай Асеціі не так вядомы, як, скажам, перакладчыкі-тлумачы нашай паэзіі Я. Хелемскі, Р. Лубкіўскі, Э. Матузявічус... Але адметным у яго рабоце з'яўляецца тое, што і ён, каўказец, перакладае творы нашых пісьменнікаў з арыгінала. Ён у свой час склаў зборнік вершаў сучасных асецінскіх паэтаў «Трубіць алень», што выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У анталогіі беларускай паэзіі «Песня абпаленая вайной» ён данёс да асецінскага чытача творы К. Крапівы, П. Глебкі, П. Панчанкі, К. Кірэенкі, Р. Барадуліна... Да стагоддзя нашых класікаў А. Пухаеў выпусціў зборнік лірыкі Я. Купалы «Летняя раса», друкаваў вершы Я. Коласа.

Беларускія матывы (а паэт неаднаразова прыязджаў да нас) даўно і натуральна ўвайшлі ў творчасць А. Пухаева. Беларусь паэт назваў «вясновай песняй» і прысвяціў ёй нямала сваіх твораў.

Нядаўна дарога братэрства зноў прывяла Аляксандра Спірыдонавіча ў наш край. На гэты раз ён прыязджаў па выдавецкіх справах. Завітаў і ў штотыднёвік. На пытанне, над чым ён працуе зараз, адказаў:

— «Узышоў» на трэцюю вяршыню беларускай паэзіі — да 100-годдзя М. Багдановіча пераклаў кнігу яго цудоўных вершаў. Выпусціць яе ў 1991 годзе наша выдавецтва «Ірыстон» («Асеція»).

— Аляксандр Спірыдонавіч, скажыце, як вы перакладаеце, як пераадольваеце моўны бар'ер?

— Тут у мяне ёсць надзейны і дакладны тлумач. Гэта — мая жонка, яна беларуска, мой жывы слоўнік. Дарэчы, мой сын-студэнт вучыцца на матчынай радзіме — у Віцебску... І ўсё ж прызнаюся, што перакладаць афарыстычнага і філасофскага М. Багдановіча было надзвычай цяжка. Мне імпануюць думкі М. Танка аб тым, што пераклад можа мець адступленні ад арыгінала, але ён мусіць гучаць натуральна, быць другім арыгіналам. Даруйце за адступленне. Зараз працую над укладаннем (разам з Міколам Гродневым) і перакладам анталогіі беларускай прозы, кніга памерам 25 друкаваных аркушаў выйдзе ў 1992 годзе.

— Паважаны Аляксандр Спірыдонавіч, вы даўно працуеце намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Фідзіуаг» («Вяшчун»). Як часта вы адводзіце яго старонкі братнім літаратурам?

— Даволі часта. Вас, напэўна, перш-наперш цікавіць прадстаўніцтва беларускіх аўтараў. Скажу, што яны ў нас частыя госці. Ды і кнігі выходзяць. Наш чытач пазнаёміўся з аповесцямі В. Быкава «Воўчая зграя» і «Дажыць да світання» ў перакладзе на асецінскую мову. Калі ласка, і самы свежы прыклад творчага яднання. У лютым гэтага года часопіс «Фідзіуаг» змясціў апавяданні В. Быкава, А. Асіпенкі, Я. Сіпакова, вершы Р. Барадуліна і Ю. Свіркі.

Думаем і надалей абменьвацца літаратурнымі старонкамі з часопісамі «Полымя» і «Беларусь». Нядрэнна было б далучыць сюды і паважаны «ЛіМ», які я чытаю рэгулярна. Хочацца пазнаёміць нашых чытачоў з беларускімі народнымі казкамі і гумарам. Закончу кароткае інтэрв'ю сваімі радкамі пра навядзенне і ўмацаванне мастоў дружбы між нацыямі, народамі, краінамі: «Пачуццё гэтай еднасці — дружбы аснову, Як прысягу, у сэрцы сваім я таю. Дружбу я вымяраю не словам, не словам — Мерай дружбы душу выбіраю сваю».

С. ЮР'ЕЎ.

**Яшчэ некалькі гадоў назад рэдка можна было пачуць спрэчкі аб перадачах Беларускага тэлебачання: многія з іх, нават тыя, што не ў плыні «прынятага» тады накірунку спрабавалі асвятляць пэўныя праблемы, нават прызначаныя для шырокай аўдыторыі, не выклікалі ў гледачоў цікавасці, або ўспрымаліся хутчэй як вузка-асветніцкія, чым папулярныя. Таму вялікая колькасць людзей заставалася фактычна «за бортам» беларускага тэлеэкрана. Сёння сітуацыя іншая. Толькі і чуеш: «Ці бачылі «Ліру»?», «Ну як вам новы «Крок»?» Сказаць, што ўсе гледачы проста-такі захапляюцца навінкамі рэспубліканскага тэлебачання — значыць, пакрывіць душой. Але аб іх гавораць, спрачаюцца: іх глядзяць, і з кожным разам усё большае кола людзей.**

**Адна з рэдакцый рэспубліканскага тэлебачання, перадачы якой знаходзяцца сёння ў цэнтры ўвагі грамадскасці, — рэдакцыя, дзе ствараюцца «Ліра», «Спадчына», «Тэатр і час»... Мы гутарым з галоўным рэдактарам рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Вольгай Міхайлаўнай Іпатавай.**

# КАБ НЕ ГЛЯДЗЕЛІ, ЯК НА ФОКУСНІКАЎ...



**На пытанні нашага карэспандэнта адказвае галоўны рэдактар рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання Вольга ІПАТАВА**

**— Для таго, каб творчы калектыў знайшоў свой твар, які б не сорамна было паказаць людзям, патрэбны немалыя намаганні. Літдрамрэдакцыя, здаецца, такі твар займела. Але ўспомнім, што зусім нядаўна яна трывала займала пазіцыю аўтсайдэра ў спісе дзесяці рэдакцый студыі Беларускага тэлебачання. Што змянілася за апошні час у вашым невялікім творчым калектыве?**

— Мне ў пэўным сэнсе пашанцавала: мой прыход у рэдакцыю супаў з пачаткам перабудовы. Многае стала рабіць лягчэй, нешта, наадварот, ускладнілася. Прынамсі, па-старому — калі кожная больш-менш смелая думка «выманціроўвалася», калі за рызыку можна было заплаціць дарагой цаной, — працаваць стала немагчыма. Дый па ўсёй краіне павеялі новыя — натхняльныя, часам ашаламляльныя — павевы, загаварылі аб рэвалюцыі... Ці ж маглі пісьменнікі, мастакі, увогуле інтэлігенцыя — людзі, якія ў многім падрыхтоўвалі перабудову, — застацца ўбаку?! Але тады, тры гады назад, калектыў рэдакцыі знаходзіўся ў даволі цяжкім стане. Можна назваць, пэўна, шэраг прычын гэтага. Мне падалося, што такое становішча перш за ўсе — вынік глыбокай незадаволенасці супрацоўнікаў сваёй жа дзейнасцю, нявер'я ў магчымасць сказаць, нарэшце, нешта такое, што літаральна ўскалыхне гледачоў. Адсюль — адсутнасць пэўнай ідэі, дзеля якой ты стаў займацца гэтай справай. Вызначыць гэтую ідэю, зорку твайго шляху, аказваецца, не так проста. Для гэтага патрэбны пэўныя змены не толькі ў асабістым поглядзе на сваю дзейнасць, але і ў яе арганізацыі.

**— У чым выявіліся гэтыя змены тры гады назад?**

— Па-першае, калі за справу бяруцца людзі хоць з колькі-небудзь актыўным вобразам мыслення, яны не могуць, не маюць права не падвергнуць сур'ёзнаму, калі хочаце, жорсткаму аналізу дзейнасць іх папярэднікаў. Такі аналіз работы літдрамрэдакцыі паказаў, што перамены патрэбны — і ў тэматыцы, і ў ў кадравых пытаннях. Па-другое, мы павінны былі ўрэшце вызначыць цвёрды прынцып сваёй работы: на першы план ставіць фарміраванне і ўзняцце ўзроўню нацыянальнай, эстэтычнай свядомасці нашых гледачоў. І гэта не проста прапаганда нацыянальнай культуры, перагортванне старонак нашай гісторыі, а разумнае, інтэлігентнае асвятленне самых вострых і складаных момантаў сучаснага літаратурна-мастацкага жыцця рэспублікі.

**Радкі з ліста ў літдрамрэдакцыю:**

*«Что за ажиотаж с белорусским языком? Что вы всем его навязываете? Зачем калечите наших детей? Лучше бы открыли больше детсадов да спецшкол с изучением иностранных языков». (Г. Харнанава, Мінск).*

**— У рэдакцыю прыходзіць шмат пісьмаў, такой колькасці не бачыла яна ніколі. Мяркуючы па водгуках, якія выказваюць гледачы ў сваіх лістах, большасць з іх з лепшымі пачуццямі павярнуліся тварам і сэрцам да вашых перадач. Але часам, як вядома, лыжка дзёгцю псуе бочку мёду. Ці не выклікаюць такія вось допісы, як працытаваны, пачуццё роспачы, сумненні, адчай?..**

— Ведаеце, не. Гэта занепакойвае, але ніякіх сумненняў, адчаю — менавіта ад такіх лістоў — не ўзнікае. Яны хутчэй падказваюць накірунак, які трэба больш паглыблена вывучаць.

А ўвогуле лічу, што на такую сітуацыю трэба глядзець дыялектычна — у тым сэнсе, што час эмоцый прайшоў; патрэбны карпатлівы аналіз, глыбокае асэнсаванне прычын і вытокаў, пошук з іх улікам цалкам канкрэтных спосабаў разрыву гэтага замкнёнага кола. Мы ж цяпер толькі пажынаем плён таго, што «нацыянальнае» доўгі час не мела іншай, як «нацыяналістычнае», афарбоўкі. Да таго ж самі беларусы імкнуліся хутчэй стаць «больш культурнымі» — «гарадскімі»... Недаацэнка беларускай культуры прыняла ў наш час такія маштабы, што яна, культура, стала фактычна дэнацыяналізаванай. Дык ці могуць за некалькі гадоў многія «акультураныя» людзі ўсвядоміць, што побач з замежнымі мовамі павінна быць месца — і больш пачэснае — роднай, што чалавек, няхай ён і паліглот, не стане сапраўдным інтэлігентам, асобай, не ведаючы сваёй, бацькоўскай мовы і культуры. Дарэчы, бянтэжыць нас павінны не злосныя допісы раздражнёных людзей, якія, хутчэй за ўсё, далёкія ад нашых праблем, а падобныя думкі тых, хто якраз павінен займацца асветніцкай дзейнасцю. Вось прыклад. Не так даўно мы, пісьменнікі, былі на Днях літаратуры ў сярэдняй школе ў Бягомлі. У час гутаркі Пятрусь Макаль спытаў прысутных, чаму ўсе запіскі на рускай мове. І настаўнік (не вучань) адказаў: «Что ж нам, ради вас язык выучить?» Дык вось, пакуль людзі, настаўнікі ў тым ліку, будуць рабіць гэта «дзеля нас», мы не дасягнем нават сярэдняга ўзроўню адукаванасці. А наша задача, у сваю чаргу, — дабіцца таго, каб гледачы пачалі вывучаць роднае слова, свае родныя вытокі.

**— У сувязі з гэтым пагаворым аб кадравым пытанні. Не сакрэт, што падрыхтоўка нашых журналістаў (як і настаўнікаў, рэжысёраў, культасветработнікаў) — менавіта ў плане культурна-гістарычнай і моўнай адукаванасці — прымушае жадаць лепшага. А паколькі кожная перадача — твар усяго калектыву студыі, узнікае небяспека «праславіцца» невукамі...**

— Гэта, мусіць, самае балючае на сённяшні дзень пытанне. Я кажу не канкрэтна пра рэдакцыю: у нас, здаецца, склаўся пэўны калектыў аднадумцаў, людзей, якія хочуць і могуць тварыць, якія ведаюць сваю культурную спадчыну. Але гэта мала суцяшае: на працу ў рэдакцыю, асабліва такую, як наша, людзей знайсці вельмі няпроста. Выпускнікі рэспубліканскіх навучальных устаноў, якія прыходзілі сюды раней, у большасці сваёй проста не мелі патрэбы ў роднай мове, не кажучы ўжо аб гісторыі. І працавалі яны з горам напалам. Цяпер так не будзе, не павінна быць... Аднак сіла інерцыі і сёння вялікая: многія кандыдаты ў супрацоўнікі тэлебачання па-ранейшаму ўпэўнены ў тым, што «пранясе», што на такую «дробязь», як няведанне мовы, не звернуць увагі. Вось зусім нядаўні выпадак. Прыйшла да мяне дзяўчына прасіцца на свабоднае месца адміністратара рэдакцыі. У час нашай гутаркі яна глядзела на мяне так здзіўлена, быццам я фокуснік, што на радасць гледачоў вымае стужкі з рота. Я не вытрывала: «Скажыце шчыра, — прашу яе, — вы што, упершыню бачыце не экраннага, а жывога чалавека, які размаўляе па-беларуску?» — «Да», — адказвае. — «А хто вы па нацыянальнасці?» — цікаўлюся. — «Белоруска»... На гэтым наша размова скончылася...

**— Тым не менш, мяркуючы па лістах у рэдакцыю, гледачы выказваюць сваю павагу менавіта журналістам, якія складаюць і вядуць перадачы.**

**Радкі з ліста:**

*«На вашым прыкладзе я пераканаўся ў вялікай карысці для справы, калі за яе бярэцца журналіст са сваёй пазіцыяй і які ведае, што сказаць людзям і што трэба самому яшчэ пачуць і даведацца». (А. Яджарскі, юрыст, Мінск).*

— Я ўжо сказала, што літдрамрэдакцыя мае калектыў аўтараў самастойных, думаючых. Справа ж, канечне, не толькі ў веданні мовы і гісторыі, а і ў журналісцкім сумленні і здольнасцях. Зноў жа гавару пра Беларускае тэлебачанне ўвогуле. Часцяком нашы паважаныя тэлежурналісты перш за ўсё глядзяць на старшыню: што ён скажа, як паставіцца да той ці іншай праблемы, асабліва ў нацыянальных пытаннях. Трэба ж, каб кожны мог рызыкнуць, узяўшы адказнасць на сябе. А то дзе ж мы зробім смелыя перадачы, калі ніводная рэдакцыя не насмелілася зняць ні мітынг у Курапатах, ні падзеі 30 кастрычніка... Такім чынам, лічу самастойнасць і незалежнасць мыслення найважнейшымі прафесійнымі, ды і грамадзянскімі, якасцямі журналіста, разам з адукаванасцю (што не роўна адукацыі). Думаю, што мае маладыя калегі — у літдрамрэдакцыі асноўная частка маладых супрацоўнікаў — такімі якасцямі валодаюць. Вячаслаў Ракіцкі, Уладзімір Сцепаненка, Людміла Хейдарава (Паўлікава), Галіна Суша адразу па прыходзе ў рэдакцыю актыўна ўключыліся ў пошук ёю свайго аблічча. Рэжысёры Уладзімір Траццякоў, Галіна Краўчанка, Алена Каламіец нібыта набылі «новае дыханне».

Колькі слоў пра рэжысёраў. Звычайна ім, выпускнікам тэатральна-мастацкага інстытута, не хапала ведаў па нацыянальнай культуры, смаку да яе; яны дрэнна арыентаваліся ў сучасным культурным працэсе, калі гутарка заходзіла аб беларускай яго частцы. Але ж толькі ў нацыянальных творах мастацтва можна лепш за ўсё выявіць сваё «я», знайсці трапны вобраз сучаснасці. Вазьміце, да прыкладу, цікавыя, хоць і небясспрэчныя, пастаноўкі А. Гутковіча «Алімпіяда» па І. Пташнікаву, Г. Краўчанкі «Сачыненне на вольную тэму» па рамане А. Кудраўца, В. Мацюшэўскага «Дыхайце эканомна» па п'есе А. Макаёнка...

Адчуўся паварот увагі на мясцовыя, нацыянальныя праблемы і ў перадачах, так бы мовіць, грамадска-гістарычнага плана. Нашы аўтары — ужо не пасіўныя назіральнікі, якія робяць, што ім скажуць: яны самі шукаюць, даследуюць. І знаходзяць. Напрыклад, Г. Суша і А. Каламіец — без усякага загаду — зрабілі перадачу аб раскопках у Курапатах, узяўшыся за гэтую тэму адразу ж пасля артыкула ў «ЛіМе» (аднак з 50 хвілін адзнятага матэрыялу ў эфір выйшла толькі... 18, не па нашым жаданні). Г. Краўчанка была ініцыятарам і арганізатарам «Ліры» аб Чарнобылі, у якой прынялі ўдзел акадэмік Я. Веліхаў, мастак М. Савіцкі, пісьменнікі А. Адамовіч і І. Шклярэўскі, В. Ракіцкі, кандыдат мастацтвазнаўства, — наш генератар ідэй. Менавіта з яго прыходам з'явілася перадача «Тэатр і час», не падобная на сваіх папярэдніц па смеласці думак, глыбіні аналізу...

**— Аднак зрабіць вострую, цікавую перадачу — яшчэ не значыць паказаць яе ў эфіры. Узяць хоць бы інфармацыю аб лёсе перадачы пра раскопкі ў Курапатах. Чаму так здараецца і ад каго гэты лёс залежыць?**

— Нашы перадачы заўсёды знаходзяцца пад пільным кантролем. Мы гэта, як кажуць, патыліцай адчуваем. Яшчэ тры гады назад нашы так званыя куратары калі і глядзелі перадачы літдрамрэдакцыі, дык вельмі і вельмі рэдка. Цяпер — глядзяць і ўважліва. З аднаго боку, трэба толькі ганарыцца, але з іншага — такая апека нас надта ж дасаджае, калі не сказаць перашкаджае, бо самыя цікавыя моманты перадач выклікаюць і самае актыўнае процідзеянне. Вечарам, калі збіраюся глядзець тую ці іншую перадачу нашай рэдакцыі, я зусім не ўпэўнена, ці будзе яна, нават калі няма нагоды хвалявацца. Вось прыклад: з ужо прынятага спектакля «Я, Іван Дамінікавіч» У. Забэлы нам «параілі» выразаць некаторыя эпізоды — за дзень да эфіру! Мне давялося проста адваёўваць верш Купалы «Прарок»...

На нядаўнім пасяджэнні калегіі Дзяржтэлерадыё БССР я гаварыла, што дапамога нам «зверху» зводзіцца толькі да кантролю: не паспелі запісаць перадачу — ужо «цікавяцца», што менавіта ў ёй будзе; пачынаюцца інспектарскія праверкі — адзняты матэрыял карпатліва звяраецца з мікрафоннымі папкамі. Гэтую б энергію накіраваць, скажам, на паляпшэнне стану нашай гістарычнай навукі, ды мала яшчэ на што! Паверце, такая «ўвага» зусім не спрыяе плённай творчай дзейнасці.

**— Адна з нямногіх перадач рэспубліканскага тэлебачання, якая літаральна з дня свайго нараджэння стала папулярнай у гледачоў і якой рэдакцыя абавязана асноўнай колькасцю пісьмаў, — «Ліра». У чым, на вашу думку, яе поспех?**

— «Ліра» з самага пачатку задумвалася як востра-публіцыстычная перадача, якая б не толькі адлюстроўвала штодзённыя змены нашага жыцця, але і патрабавала сваімі выступленнямі пэўных дзеянняў: гаварыльні нам ужо хапіла па макаўку. Мы аднымі з першых узнялі многія хвалюючыя пытанні, якія тычацца нашай мовы, гісторыі, нашай грамадскай свядомасці, здароўя, нарэшце, — духоўнага і фізічнага таксама. Напэўна, гледачоў прыцягвае менавіта тое, што мы — не без іх дапамогі — стараемся быць заўсёды на хвалі часу. Не ўсякі раз атрымліваецца, канешне, так, як хочацца: падзеі ў апошнія гады толькі і паспяваюць змяняць адна адну, а перадача робіцца даволі доўга і марудна. Безумоўна, спакайней жыць, калі падрыхтоўваецца зацверджаная пяць месяцаў назад праграма — на яе запланавана тэхніка, з ёю не звязаны лішнія клопаты. А пазапланавая — гэта амаль заўсёды скандал. Але мы свядома ідзём на парушэнне графіка, на бясконцыя клопаты. У

**(Працяг на стар. 6).**

# КАБ НЕ ГЛЯДЗЕЛІ, ЯК НА ФОКУСНІКАЎ...

(Пачатак на стар. 5).

іншым выпадку мы проста страцім свайго гледача, слухача, чытача, а ў рэшце рэшт — аднадумцаў. Дарэчы, хачу падкрэсліць і іншае ў рабоце нашай рэдакцыі — мы ўжо выходзілі са спектаклямі, перадачамі на саюзны экран, усесаюзны глядач змог адчуць музычнасць беларускай мовы, даць ацэнку нашай рабоце. Лісты сведчаць: «Ліру» глядзяць на Украіне, у Расіі.

**— Але, згадзіцеся, свайго гледача маюць не ўсе перадачы. Папулярнасць такіх праграм, якія робяцца, так бы мовіць, у публіцыстычным рэчышчы, усё больш узрастае. Сярод іх, дарэчы, і некаторыя перадачы, якія асвятляюць развіццё літаратурнага і тэатральнага працэсу рэспублікі. Але нельга ўнесці ў гэты спіс праграмы, якія тычацца выяўленчага мастацтва...**

— ...што таксама звязана з недахопам ведаў: у гэтай сферы нашы рэдактары аказаліся проста некампетэнтнымі. З новага года рубрыку ўзяўся весці Уладзімір Сцепаненка, мастак па прафесіі. Не ўсё ў яго пакуль што атрымліваецца. Але перадача «У жывапісе, графіцы, скульптуры», якая да апошняга часу была даволі аморфным стварэннем, пачала набываць рысы, якімі вызначаюцца нашы лепшыя «Ліры». Аднак трэба сказаць, што з людзьмі кампетэнтнымі ў нас увогуле неадназначныя адносіны: маю на ўвазе спецыялістаў — мастацтвазнаўцаў, пісьменнікаў, гісторыкаў. Першы тур нашых складанасцей — дамовіцца з чалавекам аб яго ўдзеле ў перадачы. Гэта не заўсёды проста, бо да нашай рэдакцыі хто-ніхто ставіцца, як да «прыватнага сакратара». Не забуду выпадак, калі на сумеснай калегіі Саюза пісьменнікаў БССР і рэспубліканскага тэлебачання кінулі папрок, што мы асмеліліся запісваць фрагмент у адзінаццаць вечара, не шануючы пісьменнікаў. Сакратар СП БССР нават спытаў: «Хто каго абслугоўвае, мы вас або вы нас?» Чаму пытанне ставіцца такім чынам? Я ўпэўнена: мы павінны быць саюзнікамі, бо робім адну справу.

Другі тур пачынаецца на студыі. Тэлебачанне — такая рэч, што трэба звяртаць большую ўвагу на эмацыянальны бок перадачы, чым на інфармацыйны, каб людзі глядзелі і ім не было сумна. Таму бывае недастаткова толькі пэўных думак, фактаў. Удзельнікі перадачы павінны бачыць тое, пра што яны пішуць, аб чым гавораць,—слова музыку, вобраз. Мала хто здольны на гэта ад нараджэння, але не ў тым справа. Цяжэй, калі вядомыя людзі раздражняюцца, злуюцца з нагоды тых ці іншых нашых прапаноў, заўваг і г. д.

Але, бясспрэчна, больш тых, хто з ахвотай і шчырым энтузіязмам ідуць да нас, прымаюць нашы прапановы, нягледзячы на занятасць, дапамагаюць нам. Бо сапраўды, мэта ў нас, людзей творчасці, адна: дабіцца таго, каб людзі ведалі і шанавалі сваю зямлю, сваю спадчыну, каб нават малыя дзеці не глядзелі на нас, як на фокуснікаў.

Праблем і нявырашаных пытанняў у рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм беларускай студыі тэлебачання хапае. Але бываюць у супрацоўнікаў рэдакцыі дні, калі і праблемы перастаюць быць невырашальнымі, і пытанні, здаецца, вось-вось знікнуць, і натхненне з'яўляецца — самай высокай ноты. Бываюць — калі прыходзяць у рэдакцыю лісты, як той, што даслаў у рэдакцыю амаль непісьменны стары са Случчыны, якога ці не ўпершыню прымусіла напісаць на тэлебачанне «Ліра». Ліст гэты заканчваецца такімі словамі: «Я цяпер з вялікай цікавасцю гляджу беларускую праграму...»

Гутарку вяла М. **КРАПАК.**

*Крытыка, бібліяграфія*

**Выдадзены летась энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» — другая на Беларусі і чацвёртая ў Савецкім Саюзе персанальная энцыклапедыя (пасля лермантаўскай, шаўчэнкаўскай і купалаўскай). Узровень гэтай энцыклапедыі, як і папярэдняй купалаўскай, вызначаецца не толькі дасведчанасцю і сумленнасцю яе стваральнікаў, але і наяўнасцю пэўных, да гэтага часу неправадоленых ідэалагічных догмаў. Рэцэнзія Э. Іофе і нататкі У. Конана, дзе расказваецца, як вялася праца па стварэнні энцыклапедыі, думаецца, дапамогуць нашым чытачам аб'ектыўна ацаніць значэнне і змест гэтага даведніка.**

## МОЖНА РАДАВАЦЦА, АЛЕ...

ГЭТА праца фактычна з'яўляецца падрахункам развіцця скарыназнаўства ў краіне. У энцыклапедычным даведніку 728 артыкулаў. Тут змешчаны артыкулы пра ўсе выданні Ф. Скарыны, дзе даецца аналіз структуры выдання і паліграфічных асаблівасцей выканання, гісторыя знаходкі і яе вывучэння, інфармацыя аб наяўнасці выдання ў кнігазборах краіны і за мяжой. Чытач знойдзе цікавыя звесткі пра кожную з кніжных гравюр, пра мастацкае аздабленне выданняў, іх графічную арнаментыку.

На мой погляд, выключную каштоўнасць маюць артыкулы, прысвечаныя гістарычным дзеячам і геаграфічным мясцінам, якія неаднаразова сустракаюцца ў тэкстах скарынаўскіх прадмоў і пасляслоўяў. Зацікавяць чытачоў і абагульняючыя артыкулы пра кнігавыдавецкую, асветніцкую, літаратурную дзейнасць Францыска Скарыны, у якіх разглядаюцца яго філасофска-этычныя, дзяржаўна-прававыя, эстэтычныя погляды.

Можна толькі здагадвацца, колькі часу, сіл і энергіі было затрачана, каб сабраць інфармацыю пра сваякоў і знаёмых Ф. Скарыны, пра дзяржаўных, палітычных і грамадскіх дзеячаў, вучоных XVI стагоддзя, з якімі ён сустракаўся ці мог сустракацца. Тут можна вылучыць матэрыялы А. Грыцкевіча пра апошняга гросмайстра Тэўтонскага ордэна, першага герцага Прусіі Альбрэхта Брандэнбургскага, пра дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Гаштольда, Я. Неміроўскага — пра польскага друкара і выдаўца Еранімa Віетара, В. Шматава — пра нямецкага гуманіста і пісьменніка Гартмана Шэдэля. Цікава чытаюцца і артыкулы пра мясціны, дзе жыў, вучыўся, працаваў або пабываў Ф. Скарына.

Асабіста маю ўвагу прыцягнулі матэрыялы, прысвечаныя асвятленню сацыяльна-палітычнага і культурнага жыцця ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Заходняй Еўропе ў XV—XVI стст.

Добра зрабіла рэдакцыйная калегія энцыклапедычнага даведніка, змясціўшы артыкулы аб стане кнігадрукавання ва ўсім усходнеславянскім свеце, пра папярэднікаў і прадаўжальнікаў спраў беларускага першадрукара.

Перад намі біяграфічныя звесткі даследчыкаў жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны, кароткая характарыстыка іх укладу ў развіццё скарыназнаўства.

Адной з вартасцей энцыклапедыі з'яўляецца шырокі паказ увасаблення вобраза першадрукара ў літаратуры, выяўленчым, тэатральным і музычным мастацтве, кінематаграфіі, філатэліі і філакартыі.

Важна і каштоўна, што ў пачатку кнігі змешчаны фотаздымкі ўсіх прадмоў і пасляслоўяў Ф. Скарыны і іх адаптаваны тэкст, а ў канцы даведніка — дакументы і літаратура аб жыцці і дзейнасці Ф. Скарыны, імянны паказальнік, паказальнік артыкулаў.

Рэдакцыйнай калегіі энцыклапедыі ўдалося стварыць высокакваліфікаваны аўтарскі калектыў з ліку беларускіх вучоных, вучоных Масквы, Ленінграда і Львова, пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў і мастацтвазнаўцаў.

Здавалася б, выхаду скарынаўскай энцыклапедыі можна было б толькі радавацца. Праўда, асобныя моманты творчага шляху Ф. Скарыны пакуль засталіся неасветленымі з-за іх нераспрацаванасці і адсутнасці дакументальных звестак, але гэту акалічнасць нельга сёння паставіць у віну аўтарскаму калектыву энцыклапедыі. У той жа час нельга не бачыць у энцыклапедычным даведніку і пэўных недахопаў.

Слова «энцыклапедычная» ў літаратурным сэнсе азначае навучанне па **ўсім** курсе ведаў. Яшчэ раз паўтараю: па ўсім. Чым жа тады можна растлумачыць, што ў даведніку няма нават упамінання аб даследаваннях І. Агіенка «Гісторыя літаратуры рускай» (т.1, Львоў, 1887), «Друкарска Трійця» (Летопісь, 1924, Берлін. № 12), «Історія українського друкарства» (т. 1, Львов, 1925); А. Навіцкага «Аб першапачатковым перакладзе св. пісання на славянскую мову» (Кіеў, 1837), І. Чыстовіча «Нарысы гісторыі заходнерускай царквы» (т. І, СПб., 1882), А. Бадзянскага «Аб маіх пошуках у Познанскай публічнай бібліятэцы» («Чтения в Обществе истории и древностей», № 1, 1846), М. Запольскага «Доктар Францыск Скарына» («Минский листок», 1888, № 44), С. Ольгіна «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова. Даследаванне П. У. Уладзімірава» («Филологические записки», 1888, вып. V), А. Ярэмчанка, «Франціск-Георгій Скорина. Його життя та литературна и видавнича діяльность» («Литературно-науковий вістнік», 1923, кн. XI), К. Бястужава-Руміна «Руская гісторыя» (т. II, вып. І, СПб., 1885), Д. Іллаваўскага «Гісторыя Расіі» (т.III, М., 1890), М. Ражкова «Агляд рускай гісторыі з сацыялагічнага пункту погляду» (ч.II, М., 1905), В. Келтуяла «Курс гісторыі рускай літаратуры» (ч. І, кн. 2, СПб., 1911), Я. Петухова «Руская літаратура. Старажытны перыяд» (Изд. 2, Юрьев, 1912), М. Сперанскага «Гісторыя старажытнай літаратуры» (Изд. 2, М., 1914).

Асобна хацелася б спыніцца на даследаваннях У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага, А. Харэвіча, У. Пічэты, А. Станкевіча.

У. Ігнатоўскі ў сваім «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» (Мн., 1919) шмат увагі аддае дзейнасці Ф. Скарыны. На яго думку, зыходзячы з развіцця беларускага друку, з якім звязана дзейнасць Ф. Скарыны, можна лічыць эпоху XVI стагоддзя эпохай высокай культуры Літоўска-Беларускай дзяржавы.

Вельмі шкада, што з поля зроку аўтараў скарынаўскай энцыклапедыі выпаў артыкул У. Пічэты «Францішак Скары-

## НАТАТКІ ЗАЦІКАЎЛЕНАГА ЧЫТАЧА

МНЕ ДАВЯЛОСЯ ўдзельнічаць у падрыхтоўцы Скарынавага энцыклапедычнага даведніка не толькі ў якасці сааўтара, але і ў ролі аднаго з навуковых кансультантаў. Кансультанты тут мелі дарадчы голас, канчатковае рашэнне прымае Галоўная рэдакцыя «БелСЭ» і рэдкалегія адпаведнага яе выдання. Практычна ўсім нам прыходзілася рэцэнзаваць аўтарскія матэрыялы і рабіць заўвагі па адрэдагаваных артыкулах, папярэдне сабраных і размножаных у форме шэрагу ратапрынтных «макетаў». Да гонару рэдактараў «галіновых» рэдакцый трэба сказаць, што яны пасля аналізу нашых заўваг унеслі шмат паправак у тэкст. Іх добрасумленнасці, далікатнай настойлівасці і працавітасці мы абавязаны тым, што энцыклапедычны даведнік пра нашага асветніка і першадрукара ўсё ж «адбыўся». Сёння трэба шчыра сказаць: наша навуковая грамадскасць не была гатова да такога комплекснага і фундаментальнага выдання.

Памятаю, чатыры гады таму назад Алесь Петрашкевіч у якасці намесніка галоўнага рэдактара «БелСЭ» запрасіў да сябе невялікую групу літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і іншых спецыялістаў, якія мелі пэўны вопыт у даследаванні «эпохі Ф. Скарыны» (большасць з нас былі «скарыназнаўцамі», так бы мовіць, па сумяшчальніцтве), і падзяліўся сваёй думкай пра Скарынавую энцыклапедыю. Наша нешматлікая «каманда» ахвотна падтрымала гэтую ідэю, аднак кожнаму з нас думалася: праз гадоў дзесяць, можа, што і атрымаецца. Між тым задумка ініцыятараў была, можна сказаць, еўрапейская па свайму маштабу, «прадпрымальніцкая» ў добрым значэнні гэтага слова: не даць часу паміж праектам і яго рэалізацыяй расцягнуцца на доўгія гады, адразу ўзяцца за справу, не чакаючы, пакуль энтузіязм астыне, абяцанкі забудуцца і, як гэта ўжо неаднойчы было ў нас, братоў-славян, усё скончыцца добрымі пажаданнямі.

Неяк пазней А. Петрашкевіч казаў, што яго ідэя сяму-таму здавалася авантурай. З апанентамі А. Петрашкевіча нельга было пагадзіцца, але зразумець іх можна. Энцыклапедыі, як правіла, пішуцца на аснове закончаных, комплексных, дакументальна «абстаўленых» даследаванняў, а іх якраз і не хапала. Праўда, Інстытутам літаратуры АН БССР праводзілася каардынацыя рэспубліканскіх даследаванняў па навуковай праграме «Ф. Скарына—вялікі беларускі асветнік, выдатны дзеяч славянскай культуры», і гэта крыху абнадзейвала. Але ж праграмна-мэтавае планаванне яшчэ як след не прыжылося ў нашых грамадазнаўчых і гуманітарных навуковых установах, іх структура і традыцыйная форма дзейнасці не прыстасаваны для таго, каб аператыўна змяняцца, ствараць часовыя групы высокакваліфікаваных спецыялістаў для выканання ў кароткія тэрміны чарговых даследаванняў, на якія ўзнікае попыт.

Адным словам, пры «БелСЭ» стварылася часовая «нефармальная група» даследчыкаў, якія паводле сваёй кваліфікацыі маглі быць карыснымі для запланаванай энцыклапедыі. Але ж «БелСЭ» пры цяперашнім статусе — звычайнае выдавецтва. Яно не мае ў сваім складзе навуковых супрацоўнікаў, якія маглі б весці даследаванні ва ўсіх кнігасховішчах і архівах нашай краіны і за яе межамі, каб рыхтаваць артыкулы, часта нявыгадныя для запрошаных аўтараў. Трэба ведаць спецыфіку аўтарскай работы над энцыклапедычнымі выданнямі: тут часам лёгка даюцца вялікія артыкулы, калі яны пішуцца на аснове раней апублікаваных даследаванняў або завершаных планавых рукапісаў. Калі ж патрэбна здабываць новыя факты, абгрунтоўваць новыя ідэі, то і артыкул на адну-дзве машынапісныя старонкі забярэ ў аўтара тыдні, а то і месяцы.

Сёння не шмат знойдзецца ідэалістаў і энтузіястаў, якія ахвотна бяруцца за такую, з усіх бакоў «стратную» для сябе справу. Гадоў з дзесятак таму назад, калі рыхтаваліся энцыклапедычныя даведнікі «Янка Купала» і пяцітомная «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», былы прэзідэнт АН БССР Мікалай Аляксандравіч Барысевіч разаслаў дырэктарам акадэмічных інстытутаў ліст, у якім ад імя Прэзідыума АН БССР прасіў ствараць спрыяльныя ўмовы для тых супрацоўнікаў, што маглі б актыўна папрацаваць для гэтых выданняў. Прыхільнасць кіраўніка акадэміі да гэтай высакароднай справы ў свой час паспрыяла згуртаванню аўтарскага актыву «энцыклапедыстаў».

Але прайшоў час, і прэзідэнцкі ліст, які, дарэчы, нікога ні да нічога не абавязваў, даўно забыўся. Сёння некаторыя навуковыя ўстановы не толькі не лічаць сябе ў чымсьці абавязанымі выдавецтву «БелСЭ», але аб'ектыўна, хоць і не наўмысна, адхінуліся ад яго. Актыўная праца іх супрацоўнікаў у выданнях «БелСЭ», трэба прызнацца, ніколі не лічылася дасягненнем акадэмічнай навукі. Апошнім жа часам «энцыклапедычныя» артыкулы праходзяць бадай што незаўважанымі. Мне вядомы факт, калі адзін супрацоўнік, які меў у сваім гадавым актыве каля сотні такіх «малых», а, значыцца, і самых працаёмкіх публікацый, быў выключаны з кандыдатаў на сціплую прэмію па выніку года на той падставе, што яго артыкулы — няпланавыя і «ганарарныя». Але ж ганарар за такія «мікрадаследаванні» па стандартных расцэнках не пакрывае аўтару нават тэхнічных расходаў на іх падрыхтоўку.

Кіраўнікам навуковых устаноў варта было б ведаць: амаль усё лепшае, што выдадзена ў БССР за апошнія 10 — 15 гадоў у галіне культуры, у гуманітарных і грамадскіх навуках, падрыхтавана выдавецтвам «БелСЭ». Ва ўсякім выпадку, пяцітомная энцыклапедыя мастацкай культуры Беларусі, аднатомнікі «Янка Купала» і «Францыск Скарына» цікавяць усіх адукаваных людзей, а не толькі тых, хто піша чарговую дысертацыю або манаграфію для «карпаратыўнага» самасцвярджэння.

Адным словам, калі становішча з «аўтарскім корпусам» для «БелСЭ» не палепшыцца, то я параіў бы кіраўнікам у галіне культуры пераўтварыць гэтае выдавецтва (яно добра паказала сябе ў рэальных справах) у навукова-выдавецкую ўстанову, якая мела б у сваім складзе, апрача рэдактараў, аддзелы або групы навуковых супрацоўнікаў для аператыўнага забеспячэння даследчымі матэрыяламі запланаваных выданняў. Гэта быў бы крок да спа-

на і яго праца» («Савецкая Беларусь» 24—25 снежня 1925 г.). Вучоны называе першадрукара прадстаўніком беларускага гарадскога гуманізму, які належаў да «мяшчанскага сярэдне-заможнага стану».

У. Пічэта адзначае, што Скарына хацеў даць дапаможнік для навучання славянскай грамаце братоў-беларусаў. Многія царкоўна-славянскія словы ён замяніў словамі жывой народнай гутаркі. Ацэньваючы заслугі Ф. Скарыны, У. Пічэта падкрэслівае: «...Перакладаць біблію на беларускую мову — гэта азначала ўтвараць новую беларускую мову, апрацоўваць тэрміналогію, тварыць новыя словы. Ня дзіва, што ў перакладах Скарыны няма адзінства, няма сістэмы. Тым не менш пераклад біблії на беларускую мову меў велізарнае значэнне, бо гэтым быў зроблены пачатак утварэння беларускай літаратурнай мовы, а разам з тым былі вызначаны шляхі для далучэння Беларусі да таго нацыянальна-культурнага руху, якім была ахоплена ўся Заходняя Еўропе...»

Цікавыя назіранні і вывады зрабіў А. Харэвіч у артыкуле «Скарына і яго эпоха» («Полымя», 1925, № 7). Скарына для Харэвіча з'яўляецца прадстаўніком гуманістычнага свету, прадстаўніком эпохі, цесна звязанай з рэфармацыйным рухам.

Удалай спробай навукова-папулярнай характарыстыкі дзейнасці беларускага першадрукара з'яўляецца работа А. Станкевіча «Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі. 1525—1925» (Вільня, 1925). У цэнтры даследавання — жыццё і дзейнасць Скарыны ў Празе і Вільні. А. Станкевіч выказвае думку аб тым, што гуманістычны рух у Італіі і Заходняй Еўропе аказаў уплыў на беларускага першадрукара. Трэба дадаць, што гэта ўвогуле правільная гіпотэза нічым не даказана. Без усялякіх спасылак А. Станкевіч сцвярджае, што «бессмяротны Дантэ, слаўны Петрарка, Бакачо і іншыя вялікія паэты, патрыёты сонечнай Італіі, прадвеснікі гуманізму, былі добра знаёмы Скарыне і служылі яркім прыкладам для яго культурнаасветнай дзейнасці». Заслугоўвае ўвагі заключны раздзел работы А. Станкевіча, прысвечаны ацэнцы дзейнасці Скарыны, вывад аўтара аб тым, што «Скарына сваімі кнігамі прылучаў Беларусь да агульнаеўрапейскай культуры».

Да сённяшняга дня не страціў сваёй каштоўнасці артыкул В. Ластоўскага «Доктар Францішак Скарына (1525—1925)». («Крывіч», Коўна, 1925, № 21). Услед за Карскім Ластоўскі лічыць Францыска Скарыну «культурнейшым чалавекам сваіх часоў, які нічым не ўступаў тагачасным заходнееўрапейскім дзеячам ні розумам, ні энергіяй, ні сваімі шырокімі помысламі». Важна, што аўтар артыкула дае агульную характарыстыку выданняў Скарыны з пункту погляду іх тэхнікі выканання і мастацкасці. У канцы работы Ластоўскага прыведзены ўзоры скарынаўскіх бібліятэчных перакладаў.

Аўтары і рэдакцыйная калегія энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» не выкарысталі шматлікіх прац беларускага савецкага вучонага В. К. Зайцава і нават ні разу не ўпамянулі яго імя. Сярод цікавых своеасаблівых даследаванняў гэтага аўтара хацелася б адзначыць раздзелы «Францыск Скарына» (у кн. «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры», т. I, Мн., 1968), артыкулы «Ф. Скарына і еўрапейская Рэфармацыя» (у кн. «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры», т. I, Мн., 1968), «Ф. Скарына ў Падуі» («Весці АН БССР». Серыя грамад. навук, 1968; № 4), «Аб светапоглядным арыентацыі Францыска Скарыны» («Нёман», 1968, № 10), «Францыск Скарына ў свеце еўрапейскай Рэфармацыі» (Тэзісы дакладаў навуковай канферэнцыі, прысвечанай 450-годдзю беларускага кнігадрукавання. Мн., 1967), аўтарэферат неабароненай доктарскай дысертацыі на тэму «Францыск Скарына і гуманістычная думка ў Беларусі XV—XVI стст.» (Мн., 1970).

У сваіх даследаваннях В. Зайцаў выказаў шэраг каштоўных, арыгінальных думак, зрабіў даволі грунтоўныя вывады, якія ў некаторых выпадках разыходзяцца з меркаваннямі іншых вучоных. Нельга забываць, што па многіх прынцыповых пытаннях ён першым даў ацэнкі ў савецкім скарыназнаўстве.

Як падкрэслівае В. Зайцаў, з імем Скарыны мы звязваем новы этап развіцця гуманістычнага і рацыяналістычнага светапогляду ў беларусаў, этап, які вызначаў шляхі далейшага руху беларускай літаратуры XVI ст. На яго думку, Скарына сваімі ідэямі прадвызначыў цэлае стагоддзе ў гісторыі культурнай і грамадскай думкі Беларусі. Выданне ім Бібліі на мове, даступнай роднаму народу, з'яўляецца, піша Зайцаў, глыбока рэфармацыйным актам. Хоць Скарына і не належаў да пратэстанцкага руху, але невыпадкова пазней некаторыя даследчыкі звязвалі дзейнасць беларускага першадрукара з пратэстанствам.

Кваліфікаванага, зацікаўленага чытача не можа задаволіць непаўната шэрагу артыкулаў энцыклапедычнага даведніка. Так, у артыкуле Г. Галенчанкі аб савецкім гісторыку У. Пічэце ўказваецца, што ён быў аўтарам першай абагульняльнай гістарыяграфічнай працы «Scoriniana», нарыса «Культура Беларусі ў XVI ст.» (дакладней, «Культура Беларусі XVI ст.». — **Э. І.**), артыкулаў пра Адраджэнне на Беларусі, развіццё кірыліцкага кнігадрукавання XVI—XVII стст. Але гэтага недастаткова.

Тут нават не ўпамінаюцца такія работы вучонага, як «Францішак Скарына і яго працы» (1925), «Гісторыя беларускага народу. Курс беларусазнаўства» (1918 — 1920), «Утварэнне беларускага народа» (1946), «Гісторыя Беларусі» (1924) і інш., дзе асвятляюцца розныя пытанні, звязаныя з жыццём і дзейнасцю беларускага першадрукара.

У артыкуле Г. Галенчанкі нічога не гаворыцца аб тым, што Пічэта разглядае такія пытанні скарыназнаўства, як месца і час выйсця выданняў Скарыны, іх мова. Не ўпамінаецца, што Пічэта быў старшынёй рэдакцыйнай камісіі і аўтарам уступу да юбілейнага зборніка «Чатырохсотлеццe беларускага друку.1525—1925 гг.».

Засмучае, што А. Варатнікова ў артыкуле пра гісторыка У. Перцава выпучыла адно агульнавядомыя факты ў даследаваннях вучонага. А што тычыцца яе артыкула пра Я. Дылу, то ў ім нават не ўпамінаецца, што Я. Дыла быў відным дзяржаўным дзеячам БССР і таленавітым вучоным — наркомам працы ў складзе Часовага рабоча-сялянскага ўраду Беларусі (1919), старшынёй Дзяржаўнай планавай камісіі БССР, дырэктарам Інстытута мастацтвазнаўства.

Некалькі слоў пра артыкул В. Ф. Шалькевіча «Чатырохсотлецце беларускага друку». Па-першае, тут дапушчана памылка ў даце. Трэба 1525—1925, а не 1521—1925. Па-другое, у артыкуле не адзначаецца, што адказным рэдактарам гэтай кнігі быў праваздейны член Інстытута беларускай культуры Аркадзь Смоліч, што зборнік падрыхтаваны да друку рэдакцыйнай камісіяй у складзе: старшыні — Уладзіміра Пічэты, сакратара — Васіля Друшчыца і членаў — Язэпа Дылы, Зміцера Жылуновіча, Язэпа Лёсіка і Міколы Шчакаціхіна. Па-трэцяе, было б добра, каб у артыкуле адзначалася, што вокладка зборніка выканана па малюнку настаўніцы Віцебскага мастацкага тэхнікума Марыі Лебедзевай, а застаўкі, канцоўкі і загалоўныя літары па малюнках Марыі Лебедзевай і настаўніка таго ж тэхнікума Міхаіла Эндэ.

Адным з недахопаў энцыклапедыі з'яўляецца і тое, што ў шэрагу артыкулаў аўтары блытаюць пытанні бібліяграфіі і гістарыяграфіі. Асабліва гэта бачна на прыкладзе артыкула «Гістарыяграфія скарыназнаўства».

Аднак, нягледзячы на недахопы, выхад энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» — найлепшы падарунак вучоных і пісьменнікаў, выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя», беларускай грамадскасці напярэдадні 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны.

**Э. ІОФЕ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

---

**лучэння навукі з літаратурным і культурна-мастацкім жыццём.**

**Не сакрэт: шмат для каго ў нашых грамадазнаўчых (а, мабыць, таксама іншых) навуковых установах «застойны» перыяд усё яшчэ працягваецца, творча-актыўных людзей там мала, для большасці навука стала пажыццёвай рэнтай: хоць на ёй надта не разбагацееш, але пражыць бязбедна да пенсіі можна. Я не эканаміст, не ведаю наконт матэрыяльных страт, а вось страты маральныя — відавочныя. Выхаваўся тып «вучонага», нават «прафесара» белікаўскага тыпу, які хоча аднаго: «абы ціха» (беларускі адпаведнік рускага «кабы чего не вышло»). Сваю актыўнасць гэтыя «вучоныя» зрэдку ўсё ж выяўляюць, але толькі тады, калі ўзнікае патрэба кагосьці задзяўбсці і выкінуць, бо яго думкі і ўчынкі не адпавядаюць звычкам калянавуковых куратнікаў. Ці патрэбна здзіўляцца, што ў такіх умовах традыцыйны этыкет абароны дысертацый (асабліва ў галіне грамадазнаўства) для слабых душ і людзей з сярэднімі здольнасцямі ператварыўся ў школу «навуковага» канфармізму? Адным словам, патрэбна і тут рэальная перабудова.**

**Большасць канкрэтных заўваг Э. Іофе да энцыклапедычнага даведніка слушныя. Праўда, рэцэнзенту не ўдалося даць комплексную і канцэптуальную ацэнку Скарынавай энцыклапедыі, ён абмежаваўся фрагментальным аналізам гісторыка-фактуальнага яе пласта. Ці абавязкова пералічваць у ёй усе публікацыі, якія мелі дачыненне да першадрукара? Мне здаецца, у энцыклапедыі важна не так пералічэнне эмпірычных фактаў, як іх абагульненне і крытычная ацэнка, выяўленне духоўнага сэнсу з'яў жыцця і культуры. Іншая справа, калі пэўная частка іх не папала ў даведнік па прычынах, якія мне ўжо прыходзілася тлумачыць. Або, скажам, кан'юнктурныя пропускі, на якіх рэцэнзент «падлавіў» нашых энцыклапедыстаў. Камусьці з мясцовых архітэктараў застою не імпанавалі па толькі ім вядомых прычынах імёны У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага, А. Луцкевіча, яшчэ сяго-таго. І вось рэдкалегія выкінула імёны людзей, якія даследавалі спадчыну Ф. Скарыны, цікава пісалі пра яго. Э. Іофе называе яшчэ шэраг даследаванняў пра беларускага першадрукара былога супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР Вячаслава Зайцава. Ужо ж яго, мабыць, ведалі кіраўнікі «БелСЭ» і члены рэдкалегіі, чыталі ці слухалі яго папулярныя лекцыі. Але ў свой час В. Зайцаў ваяваў з застойным ладам жыцця, з дагматызмам, выкрываў (праўда, часам у экстравагантных формах) «янычараў»球 рознага рангу. З адчаем сучаснага Дон-Кіхота кідаўся ён на шматгаловага змея-бюракрата ад палітыкі, ідэалогіі і навукі, пакуль «антаганіст», як апавядаюць казачнікі, не замкнуў яго «ў каморы».**

**Не, не знойдзе чытач імя Вячаслава Зайцава ў энцыклапедычных даведніках. І хоць набіраюць сілу перабудова і галоснасць, але рэальнасць (асабліва наша, беларуская) — не чарадзейная казка, дзе «разумныя» і «дурні» ў фінале мяняюцца месцамі. А, можа, сёння яшчэ не развязка драматычнага сюжэта? Можа, наш Дон-Кіхот вернецца ў навуку, абароніць сваю неабароненую доктарскую дысертацыю і нават пападзе ў энцыклапедыю? Хто ведае...**

**Я ў адрозненне ад рэцэнзента Э. Іофе нясу сваю долю адказнасці за навуковы ўзровень энцыклапедычнага даведніка, аднак усё ж зраблю некалькі заўваг агульнага характару. Галоўным чынам таму, што прапановы, якія рабіліся ў час падрыхтоўкі рукапісу, на жаль, рэдкалегія не захацела бо не мела магчымасці прыняць.**

**Фотавыданне арыгінальных твораў Ф. Скарыны, яго прадмоў і пасляслоўяў да ўсіх яго ных кніг — бясспрэчны ўклад энцыклапедыстаў у навуку, у крыніцазнаўства. Заўважым, што зроблена гэта імі ўпершыню. А вось паралельны адаптаваны тэкст — паўтор ужо пройдзенага этапу ў скарыназнаўстве. На каго гэтая адаптацыя разлічана? Спецыяліст аддасць перавагу фотакопіям арыгінала, а для неспецыяліста сэнс лексікі, сінтаксісу і стылістыкі твораў Скарыны на добрую палову страчаны. Ці не лепш было б выдаць паралельны пераклад на сучасную беларускую мову?**

**Тады спецыяліст глядзеў бы на верхнюю частку старонак, дзе змяшчаецца арыгінальны тэкст, аматар жа чытаў бы знізу думкі асветніка. Пасля таго, як Уладзімір Анічэнка выдаў складзены ім «Слоўнік мовы Скарыны», такі пераклад — не праблема. У варыянце ж, якому аддала перавагу рэдакцыя, адаптацыя ўспрымаецца спецыялістам як непатрэбнае дубліраванне, застаючыся ў той жа час амаль што «эзатарычным» (закрытым) тэкстам для звычайнага чытача. Тут важны таксама прыярытэт: калі б «БелСЭ» ўпершыню выдала арыгінальныя творы асветніка на сучаснай беларускай мове, то гэта быў бы яшчэ адзін крок наперад ў скарыназнаўстве.**

**Другая мая прапанова датычылася справы ўсяго жыцця беларускага асветніка-першадрукара—Бібліі, кніг Старога і Новага запаветаў, якія ён перакладаў і выдаваў, хрысціянскіх кананічных песень, што ўвайшлі ў ягоную «Малую падарожную кніжку». Кнігі гэтыя пісаліся на працягу тысячагоддзя і ў высокамастацкай, часта паэтычнай форме раскрылі драматычны шлях станаўлення духоўнасці. Вярнуць чытачу гэтыя залатыя зярняты чалавечай душы — значыць далучыць яго да высокай маральнай, эстэтычнай і нават побытавай культуры. Сёння гэтаму ўсё яшчэ перашкаджае вульгарны атэізм, які шмат «папрацаваў» на агульнае паніжэнне культурнасці ў нашым грамадстве.**

**Пазнаёміўшыся з энцыклапедычным даведнікам, чытач не можа не заўважыць, што ён амаль не закранае сюжэтаў, вобразаў, сімвалаў, урэшце, самой фабулы Скарынавых кніг (апрача, зразумела, яго кароткіх каментарыяў да іх у прадмовах). Пры абмеркаванні плана даведніка спачатку думалася, што артыкулы пра кожную кнігу першадрукара будуць комплекснымі, прынамсі, з дзвюх частак — кнігазнаўчай і літаратуразнаўчай. Тады была б магчымасць хоць у малой ступені паглыбіцца ў мастацкі і філасофскі свет біблейскіх кніг, пра якія так узнёсла пісаў Ф. Скарына. Пазней на нейкім этапе абмеркавання вырашылі абмежавацца апісаннем гэтых кніг толькі як помнікаў кніжнай культуры. Гэтую працу на добрым прафесійным узроўні выканаў маскоўскі кнігазнавец Я. Л. Неміроўскі. Асобна апісаны не толькі ўсе 23 кніжкі Скарынавай Бібліі, Псалтыр, Апостал, але і кожная з 21-й кніжак і брашур, аб'яднаных у «Малую падарожную кніжку». І гэта наогул правільна, бо кожная з кніг — помнік беларускай кніжнай культуры. Аднак падрабязна апісваючы гісторыю знаходкі і сацыя-культурнага быцця кожнай з 46-ці кніг, даследчык не мог не паўтарацца, бо лёс гэтых кніг шмат у чым агульны, асабліва ў блізкіх па сваім функцыянальным прызначэнні творах «Маладой падарожнай кніжкі». Паўтарэнняў можна было б пазбегнуць адпаведнай кампаноўкай матэрыялу, напрыклад, аб'яднаннем блізкіх паміж сабой выданняў, гісторыя якіх у асноўных рысах паўтараецца, у пэўныя комплексы ці «абоймы». Але гэтага не зрабілі. І цяпер у шмат якіх кнігазнаўчых артыкулах паўтараюцца не толькі асобныя сказы, але і цэлыя абзацы. Асабліва гэта кідаецца ў вочы там, дзе артыкулы ідуць адзін за другім, або размешчаны паралельна («Акафіст святому Міколу», «Акафіст святому Пятру і Паўлу», «Канон Ісусу», «Канон Крыжу Гасподню» і інш.).**

**Усё гэта надае паасобным старонкам кнігі сумнаватую аднастайнасць з пункту гледжання чытача-неспецыяліста, не вельмі заахвочвае яго «ўвайсці» ў прыгожы і ўзнёслы свет Скарыны. А для спецыялістаў гэтае апісанне Скарынавых кніг — не першапублікацыя, бо яны ўжо чыталі добрае даследаванне таго ж Я. Л. Неміроўскага («Выданні Ф. Скарыны: Зводны каталог і апісанне»), апублікаванае ў кнізе «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў» (Мінск, 1988). Апрача таго, паўторы — гэта нерацыянальнае выкарыстанне плошчы энцыклапедычнага даведніка. Адсюль і пропускі, якія, на маю думку, тлумачацца таксама наіўнай боязззю Бібліі, вобліка Ісуса Хрыста, рэлігійнай тэматыкі наогул. Мне давялося сутыкнуцца з гэтым «атэістычным» комплексам ужо пасля таго, як вырашана было абысціся без літаратуразнаўчага і філасофскага аналізу Скарынавых кніг. Па дамоўленасці з супрацоўнікамі галіновых рэдакцый «БелСЭ» я напісаў для даведніка шэраг кароткіх артыкулаў пра біблейскія фабулы шматлікіх сюжэтных ілюстрацый да Скарынавых кніг. Адна частка гэтых артыкулаў у скарочаным выглядзе дайшла да чытача, другую ж частку нехта з «рэдактараў над рэдактарамі» так «рэдуцыраваў», што аўтару прыйшлося адмовіцца ад свайго аўтарства.**

**Сустракаюцца (праўда, зрэдку) безнадзейна анахранічныя аўтарскія канцэпцыі, напрыклад, у артыкуле «Езуіты».**

**Парадуемся высокаму паліграфічнаму і мастацкаму ўзроўню выдання: тут нашы кніжкі наблізіліся да рэнесанснай эпохі беларускага асветніка.**

**Я спыніўся на некаторых праліках пры падрыхтоўцы да друку гэтага бясспрэчна карыснага і смелага выдання галоўным чынам таму, што ведаю пра намер яго стваральнікаў — перавыдаць кніжку на рускай мове для ўсесаюзнага чытача. Але ж, мне здаецца, наперадзе больш цікавая перспектыва — ажыццявіць факсімільнае выданне ўсіх кніг вялікага ўсходнеславянскага першадрукара.**

**Уладзімір КОНАН.**

Паэзія

Валянціна АКОЛАВА



# ПАЖАР СЛЯЗЫ

**Лірычная хроніка аднаго дня — 27 красавіка 1986 года**

**1.**

Дачарнобыльскі май бараўлянская славіць бальніца.
На зямлі Беларусі — світальныя плачуць вятры.
І ў чырвоным сугліне расой збінтаваны суніцы.
Зноў дыміцца ў крыві зеляніны агарак лясное зары.

Крэмень з каменем зблытае бераг палескі кручасты.
І вясновыя ружы схаваюць ад роспачы твар...
Вось чаму, паляшук, твае думкі пра гордае шчасце
Не прымае вачэй маіх сініх, балесны да крыку,
пажар.

Штосьці ў свеце, зраднёным — па самых вялікіх
рахунках! —
Дачарнобыльскім днём і святлом палыновае
атам-вады,
Перацэнена сёння: пакутна, адчайна і хутка...
І цярплівая Вечнасць ад ранаў свае не хавае сляды.

**2.**

Мяне праклялі адзінота і жаласць.
Я з імі — нічыйная, бераг пяску...
Ды ходзяць суседзямі радасць і зайздрасць.
І цыніка позірк з'яўляецца скуль?

Калі? Ад якога пажару без дыму
Зямля запаліла чаромхі зару?
Стамілася з векам і я ад ідылій,
Ды грошай за шчырасць з сяброў не бяру.

Ручай ад Нямігі — як просінь заліва.
Вясна астравамі ў каханне плыве.
— І хто з нас на міг, ці на Вечнасць шчаслівы? —
Чарнобыль не скажа і грому ў траве.

**3.**

Змяя паўзла паўз Прыпяць па зелені дарожнай.
І пырскалася ядам смяротным асцярожна.
Пярэстаю спіною, як скураю з каросты,
Кранапася палыну, што быў надзіва рослы.

Шыпела, як вуголле. Стагнала, як пяць ранаў,
І нервы белых пятаў вышуквала старанна.
Жыццё з травы збівала, як праўда з вуснаў крыкі.
І Беларусі ранак — да гневу быў бязлікім.

Бездапаможна-млосным, як цыніка спагада:
З атручаным даверам і чорна-прыкрай праўдай.
Змаўчаць бы. І ні слова — пра яд змяіны, гнуснасць...
Калі б у чалавецтва адсутнічала лютасць.

І подласць. І мяшчанства. І віртуознасць жалю...
Змяя паўзла паўз Прыпяць, не шкадавала джала.

**4.**

Жартую. З іроніяй, смехам сяброўства,
Няўжо ў майго суму такое сіроцтва?!
Цыркачкай праходжу ля згорбленых спінаў,
Ля зрэнак абрываў. І душ каляінаў.
Не верыцца: твары сяброў, нібы маскі.
Хіба патрабуе сумленне падказкі?
Лаяльнасць адносін. Пачварства выгоды,

Віктар ТРЫХМАНЕНКА



# ТВАЯ ПРАЎДА, МАЯ...

АПАВЯДАННЕ

Трэці дзень Вячаслаў працаваў на страсе, перакрываючы матчыну хату шыферам. Здаецца, хутка ўсё будзе ў парадку. Добра і тое, што дождж не перашкодзіў. Вядома, перш, чым сарваць старую, заімшэлую гонту, Вячаслаў перачытаў прагноз надвор'я на тыдзень, нават прагледзеў карту-схему ў «Известиях», хоць сіноптыкам і не надта трэба верыць.

Але надвор'е — пазайздросціш! Жнівеньская цяплынь як бы разлілася наўкола. Нават не адчуваецца, што раніцай ужо было марозна.

Адпачыўшы крыху, выпіўшы сцюдзёнай вады прама з вядра, выцягнутага са студні, хацеў быў зноў лезці на страху, але ўбачыў, як абапёрся на штыкеціны пажылы, па ўсім відаць гарадскі чалавек — той самы, што ўсе гэтыя дні праходжваўся вуліцай ды даваў розныя парады. «Вось не дасць сёння закончыць...», — з прыкрасцю падумаў Вячаслаў. Але ж не адвернешся, калі да цябе з добрым словам.

— Дзень добры.., — адказаў ён на прывітанне.

—Стаміўся, нябось, адпускнічок-работнічак? — Мужчына вышчарыў жаўтаватыя зубы. — Выходзь, пасядзім, пакурым.

- З задавальненнем, хоць і не куру, — адказаў Вячаслаў.

— Ты, магчыма, яшчэ і не п'еш? — здзівіўся той.

— Уявіце сабе.

— Бач ты! Можа, і з жанчынамі не знаешся... акрамя ўласнай жонкі?

— Амаль здагадаліся: не жанаты пакуль што.

Вячаслаў выйшаў за веснічкі. Парукаліся.

Не па-вясковаму, не па ўзросту быў апрануты мужчына у трыкатажнай «бобачцы» і ў джынсах, а на твары сівая шчаціна, магчыма, тыднёвай свежасці. Карычневая ад густога загару лысіна — быццам скураны шлем на галаве.

«Дзед» — так яго Вячаслаў назваў у думках — дастаў цыгарэту з прыгожага пачка з лацінскімі літарамі, закурыў.

— Н-да-а... — працягнуў. — А я, значыць, назіраю, да Марыі Францаўны сын прыехаў, гвардыі капітан з двума ордэнамі. Няцяжка здагадацца, што ў водпуск, цяпер ужо зразумела, чаму п'е вадзічку. Крыху дзіўна, што ні дня не адпачыў, а адразу за страху ўзяўся — так цяперашняя моладзь не робіць. Сам я між іншым таксама з выпадку водпуску вырашыў зазірнуць у родную вёску, хоць у мяне тут цяпер ні кала, ні двара.

— Яшчэ працуеце? Не на пенсіі?

— А калі і пенсіянер, дык што, ляжаць з газетай на канапе, ногі задраўшы? Працую крыху.

— Пры справе, канечне, лепей.

— Аднак пазнаёмімся, — успомніў мужчына. — Аляксандр Міхайлавіч Мурашка.

— А я Вячаслаў... Уладзіміравіч. Для вас проста Слаўка...

«Дзед» перапыніў яго:

— Прозвішча можаш не называць, яно гэткае ж, як і ў мяне. Тут паўвёскі Мурашкі.

Размова не клеілася, хоць і прыселі на лавачку. Ды і пра што, уласна кажучы, гаманіць людзям, вельмі розным, якія толькі што пазнаёміліся. Хвіліны маўчання гатовы былі зацягнуцца, ды адно пытанне старога, відаць, добра пацёртага жыццём, адразу ўсё ажывіла.

— Як я разумею, ты верталётчык, Слаўка? — «Дзед» быццам пранізваў сваімі выцвілымі вачыма Слаўкаву пераносіцу.

— А па чым відаць? — пытаннем на пытанне адказаў Вячаслаў.

— Не бяруся тлумачыць, чым адрозніваюцца верталётчыкі ад пілотаў, напрыклад, знішчальнікаў, але яно ёсць, адрозненне.

— І ў які бок?

— Ты не крыўдуй, але... не ў лепшы.

— Ніякай крыўды быць не можа. Мяне іншае зацікавіла, Аляксандр Міхайлавіч: адкуль у вас такі позірк праніклівы?

— А адтуль... — «Дзед» паказаў рукой у неба.

—Ляталі ў маладосці?

— На «яках».

— Ваявалі ў Айчынную, Аляксандр Міхайлавіч?

— І на фронце быў і яшчэ далей...

— Не зразумеў.

— Зразумееш, Слаўка. Што-кольвечы раскажу, але пазней. Спачатку пра тых, хто цяпер лятае. Ордэны ў Афганістане заслужыў.

— Ага.

— Колькі баявых вылетаў?

— Паўтары сотні... калі акругліць.

«Дзед» злёгку абняў яго за плечы, дыхнуў у шчаку тытунём.

— Пазайздросціць можна, як у цябе ўсё добра і якая біяграфія чысценькая: з баявым вопытам лётчык, малады і здаровы.

Скасавурыўшыся на зняможанага, з зямліста-цёмным тварам «Дзеда», Вячаслаў не знайшоў, што адказаць. Той сам пачаў:

— А мне ваяваць давялося нядоўга, Слаўка. Зрабіў толькі трыццаць два баявых вылеты. Праўда, правёў дванаццаць паветраных баёў, двух заваліў — «месера» і «юнкерса». На трыццаць трэцім вылеце... Ён пажаваў сківіцамі. — Ты чуў прымаўку: менш узвода не дадуць, далей фронту не пашлюць? Мяне лёс-злодзей паслаў далей. Куды, спытаешся? У палон, у нямецкія канцлагеры.

— Збілі, мабыць, у паветраным баі...— выказаў з ноткамі жалю і спагады меркаванне Вячаслаў.

— Ну так... Табе неаднойчы давodзілася чытаць падобныя гісторыі: падбілі машыну, лётчык выкінуўся з парашутам, але ў момант прызямлення ўдарыўся аб нешта і быў узяты ў палон у бяспамяцтве. Са мной не тое атрымалася. Мой камандзір звяна расстрэльваў мяне на зямлі з пісталета, ды не дабіў...

— Гэта як?! — Вячаслаў нават уздрыгнуў.

— А ты паслухай. На вайне калі-нікалі так павернецца і так скруціць, што загадзя прыдумаць немагчыма.— Была прыкурана чарговая цыгарэта, і сівы дымок павіс у паветры воблачкам. — Групавы паветраны бой, значыць. Дзве васьмёркі нашых «якаў» і прыкладна столькі ж «месершмітаў». Круцімся-верцімся на касых петлях ужо мінут пятнаццаць, яны нас на гарызантальны манер спрабуюць зацягнуць, мы іх цягнем на вертыкаль. Колькі і якіх збілі — гэта потым ужо, у данясеннях ды зводках, у паветры не да падлікаў. Бой расчляніўся на клубкі, абедзве нашы эскадрыллі проста рассыпаліся. Пасля ўсяго ўжо слізгаем мы парай з камандзірам звяна — капітан Бураўцаў такі быў — і адчуваем абодва, што арыенціроўка страчана. Што такое страціць арыенціроўку ў паветры, ты ведаеш. Хоць і не зусім! Верталётчык, калі пачне блукаць, можа завіснуць на адным месцы і прыглядацца не спяшаючыся. Гэта ж зусім немагчыма на знішчальніках, там трэба абдумваць усё на хуткасці: што ўбачыў пад крылом, не распазнаў, яно пранеслася. Трэба помніць і тое, што гаручае канчаецца. Нясёмся дзікай парай, пад намі лясіста-балоцістая мясцовасць, рэчка, пустыя праселкі — ні чорта не пазнаём. Раптам вялікая паляна са слядамі колаў і капанірамі на ўзлесках — па ўсім відаць аэрадром! Бураўцаў хіснуў крыламі двойчы — «заходзім на пасадку з малога круга» — прызямліваемся адзін за другім. Зарульваем да бліжэйшага капаніра, вылазім з кабін. Што такое: з-за землянога вала капаніра скалазубыя рожы выглядаюць, да нас не спяшаюцца... А здалёку, бачым, бягуць ланцужком салдаты ў касках вуглаватых, з аўтаматамі наперавес. Маланкай мільганула: на аэрадром праціўніка селі. «Камандзір, крычу яму, тут немцы!» Быццам сам ён не бачыць, не разумее. Ён павярнуў да мяне не твар, а маску мелам выбеленую, сам нервова рве з кабуры свой «ТТ». І ні слова не кажучы, згоды не пытаючы, страляе ў мяне. Адразу ж і сабе выстраліў у вісок. Я прыкмеціў гэта, падаючы. Ён цаляў мне ў сэрца, а раніў у плячо ды і то лёгка, здзіўляюся, як прамазаў з трох крокаў. Сябе ж — напавал. Нас вучылі жывымі ворагу не здавацца, так што зрабіў ён усё правільна.

Аляксандр Міхайлавіч замоўк, і Вячаслаў заўважыў, уздыхнуў:

— Рашэнне ўвогуле дык камандзірскае.

— Пра нямецкія канцлагеры расказваць не буду, — працягваў «Дзед». Вечарам падаеш у бараку на нары, а калі раніцой прачынаешся, здзіўляешся, што ты яшчэ і сёння жывы. — Зноў ён запнуўся, памаўчаў. Сказаў праз хвіліну глуха: — Пра нашыя лагеры... таксама не варта.

— Рэпрэсіравалі? — спытаў Вячаслаў мякчэй.

— Закаталі... — прабурчэў «Дзед». — Калі ў палон трапіў, дык значыць завербаваны.

— Але ж потым разабраліся?

— Увогуле, так. Але пакуль разабраліся, адзінаццаць гадоў прайшло. З сорак пятага па пяцьдзесят шосты на Калыме. Укалваў, замярзаў, падыхаў. Зноў выжыў, чорт пабяры!

— А цяпер вы як, Аляксандр Міхайлавіч?

— Як і іншыя, так і я. Маю невялікую пенсію. Працаваў вадзіцелем трамвая, хоць крыху, разумееш, «пілатаваў». А як стукнула шэсцьдзесят, прапанавалі ў ахову, я пайшоў. Ёсць жонка, хворая старая, дарослыя дзеці, унукі. Што было, тое было, мінулага не вернеш. Пачаў ваяваць, як усе, збіў два самалёты праціўніка, адзін з іх, між іншым, бамбардзіроўшчык, за што прадставілі да ўзнагароды. Атрымалася, аднак, так, што ні пра якія ўзнагароды ніхто нават не заікнецца, ды і сам я не ўспомню. Чаго крыўдую, дык таго, Слаўка, што пасведчанне ўдзельніка вайны не даюць, як усім.

— Але чаму, Аляксандр Міхайлавіч? — усклікнуў Вячаслаў. — У ваенкамат трэба звярнуцца, да самога ваенкома.

— Звяртаўся. Начальнік аднаго аддзялення, тлусценькі такі маёр, узяўся віляць, мазгі пудрыць. Няма, маўляў, падстаў выдаваць пасведчанне. Калі ў апошні раз ішоў ад яго, ён з ухмылкай сказаў свайму таварышу, але так, каб я пачуў: «Калі гэты Мурашка і ўдзельнічаў, дык яшчэ трэба праверыць, на чым баку».

— Подлы чалавечак! — абурыўся Вячаслаў.

— Нават вельмі вялікая сволач. —

А вулей пчаліны змярцвелы на соты...
Жартую, як вусны ад жалю ратую.
Ці нервы Чарнобыльскім болем гартую.

**5.**

Траецкіх дахаў чарапіца...
Рэстаўрацыйная субота.
Дзень выпусціць з рукі сініцу,
Як ты свой лёс з майго употай.

Цаглін прараб не далічыўся...
Прывёз шафёр з Заслаўя гліну.
Скажы, хто з нас пералаўчыўся,
Над словам жаліцца: «Пакінуў...»

Нямігі нервы Свіслач краяць,
Зрываюць рэчышча бетона...
Чарнобыль сёння, нібы Троя...
Ці ў памяць боль прыходзіць толькі?

**6.**

А ў спешнасці, як грэшнасці, ёсць здрада і мана.
Якая ж у маўчання нязрушная сцяна.
Вышэй яе світання халодзезны агонь.
Снег падае з акацыі на Вечнасці далонь.
Ступлю ў нябыт Нямігі нястрымны крок назад.
І холад развітання вастрэй за край ляза.
Ты вучыш быць прыслужнай, пакорнай у жыцці.
А як мне праз Чарнобыль каля вясны прайсці.
Пытанні. Нараканні. Адказу не знайсці —
Снег белы ад акацыі пачаў слязой расці.

**7.**

Два камні ў Свіслач — твой і мой —
Ляцяць нароздараж — з маўчаннем.
Як снег — павольныя — зімой.
Як боль — нястрымныя — з адчаем.

Гульня надзей. Гульня вачэй...
Нямігі спыненыя крокі...
І хто, скажы, з нас быў лаўчэй
За май, які смяецца збоку?

Ён не даруе фальш, падман...
І на світальным промні стронцый.
Пад ногі веку ўпаў туман.
І засланіў сабою сонца.

І сэрца стук, што груз трымаў,
І лівень, што сухменю здрадзіў...
Я горыч выракла сама,
Бо слугаваць хацела праўдзе...

**8.**

Сад выкіпеў чаромхай і акацыяй.
Пялёсткаў бель схалодзіла сады.
Ты ў лёс зайшоў мой на палескай станцыі,
Бунтоўны і трывожна-малады.

Кастры травы зялёнымі падковамі
Кідаліся ў вясновы позірк мне.
Хто нас рассудзіць смехам і праклёнамі?
Хто нашу шчырасць страхам абміне?

Не знацца з тым, чаго і боль не зведае,
Не даравацъ скіфійцам горы зла...
І за расой ступаю моўчкі следам я,
Што дачарнобыльскай травой была...

**9.**

Вузельчык палыну, развязаны сонцам...
Навошта табе пра Чарнобыль і стронцый
Вось тут ля магілы Купалавай, дзеду?
Яшчэ дзве гадзіны міне да абеду...
Чувашскі акцэнт. Рускіх слоў недаборы.
Навошта пра фальш мы праўдзіва гаворым?
Пад ногі вясны блісне звон ад бляшанкі.
Вачам і турыстам так многа прыманкі.
І мала надзеі, што боль перагрэцца,
Трагедый не будзе, зрубцованых сэрцаў...
Стаім. Ледзянеем пад кіпенем сонца.
Дзядуня-батанік. Я. Мінск. Век на гронцы
Акацыі белай, да сквапнасці яркай.
І цяжка Зямлі, што ўдыхнула цыгарку
Атрутнага дыму. І праўду змаўчала...
Вяртаймася, дружа, хутчэй ад адчаю:
У гэты світанак палескі, вясновы...
Над Белаю Руссю дня толькі палова.
Зялёнага ценю рукой не крануцца —
І ў дзень дачарнобыльскі дням не вярнуцца...

г. Мінск, 1986 г.

пацвердзіў Аляксандр Міхайлавіч.

— Напішу я сам у райваенкамат.

— Ну і што з таго?

— У наш час, Аляксандр Міхайлавіч! На зварот воіна-інтэрнацыяналіста не зрэагаваць?

— Ай, кінь ты, Слава, мною займацца, я ўжо так дажыву. У цябе сваіх спраў хапае... — Заўсміхаўся. — Закончыць рамонт страхі. Жаніцца трэба.

Вячаслаў рассмяяўся.

— Пакуль што не запланавана, Аляксандр Міхайлавіч.

Чаму ж так... Колькі табе?

— Дваццаць восьмы пайшоў.

— Ха-ха! Перасцеў ужо агурочак. Ну і чаму ты так?

— Сам не ведаю.

Кінулі яны гэтую тэму... Як неперспектыўную. Стары Мурашка пачаў пра Афганістан і, асабліва не кідаючыся ў палітыку, цікавіўся, як там даводзілася дзейнічаць у паветры. Мурашка малады, відавочца і ўдзельнік вайны ўдалечыні ад роднай зямлі, сёе-тое расказваў. Розныя выпадалі заданні, верталёт гэта ж машына, здатная на ўсё, — дэсантнікаў высаджвалі ў горных цяснінах, і боепрыпасы дастаўлялі прама на агнявыя пазіцыі, і раненых вывозілі, часта таксама пад агнём. Пашанцавала: на ракету «стынгер» не напароўся, а то б крышка. Кулямётным агнём з зямлі яго «вяртушку» хрысціла неаднойчы, часам дацягваў да аэрадрома ўвесь прадзіраўлены, так сказаць, на сумленным слове. Там узнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі, а ўжо тут, праз тры месяцы пасля таго, як прыбыў з Афганістана, «дагнаў» яго другі ордэн і таксама — Чырвонай Зоркі.

Слухаючы яго ўважліва, «Дзед» думаў, відаць, і аб іншым, таму што як толькі Вячаслаў змоўк, сказаў з хрыплым уздыхам:

— Афганістан, Афганістан... Гора нашае! Колькі хлопцаў галовы склалі. Раней усё цішком дастаўлялі па адрасах цынкавыя труны, а цяпер ужо адкрыта пішуць, колькі забіта і колькі параненых — дзесяткі тысяч. Ды яшчэ больш трох соцень у душманскім палоне аказалася, магчыма, горш смерці.

— Так, цяпер лічбы абнародаваны, — кіўнуў Вячаслаў.

«Дзед» неяк сярдзіта заварушыўся на лаўцы.

— Няхай бы, калі ўводзілі войскі, абнародавалі! А то вырашаў адзін чалавек — што хачу, тое раблю.

Вячаслаў прамаўчаў, і «Дзед» не стаў філасофстваваць далей.

— На страху яшчэ палезеш? — запытаўся. А то да заўтра...

— Абавязкова палезу! — Вячаслаў узняўся. — Сёння закончу.

«Дзед» пайшоў было, але раптоўна спыніўшыся, здалёку запытаўся:

— А вось чаму мы, Слаўка, знешне падобны, не задумваўся?

— Папраўдзе сказаць.., — папярхнуўся Вячаслаў.

— Не ламай галаву, — прыйшоў на дапамогу Аляксандр Міхайлавіч. — Усе з адной вёскі, лічы, далёкія сваякі. Прозвішча адно маем. Мурашкі мы, мурашы... Працалюбы і ваякі — каму што наканавана. А лётчыкаў з нашай вёскі выйшла, ведаеш, колькі? Цэлая эскадрылля набярэцца.

— Гэта мне вядома, Аляксандр Міхайлавіч.

— Ну вось... Аднаго мяне, відаць, не ведаў. — Цяпер ужо ён пакрочыў не азіраючыся. Нешта пілоцкае пазнавалася ў яго хадзе, быццам накіроўваўся ён да знішчальніка, які стаяў непадалёку, памахваў планшэтам з палётнай картай.

Напрацаваўшыся ад душы, загнаўшы апошні цвік з шырокай плешкай, Вячаслаў не стаў адпачываць, а вырашыў прайсціся вёскай. Памыўся, выліўшы на сябе паўбочкі вады, што сагрэлася на сонцы, надзеў фірменную кашулю з пагонамі і пайшоў па вуліцы не спяшаючыся. У дварах нікога — усе яшчэ ў полі.

Думалася яму аб розным, найперш аб тым, што пачулася ад Аляксандра Міхайлавіча, як той сказаў, далёкага сваяка. Узнікла і такая думка: акрамя іншых кантактаў, лучыць яшчэ і пілоцкае братэрства. Неабыякавай, зусім невыпадковай была для яго біяграфія «Дзеда». Міжволі прыгадвалася, як лейтэнант Саша Мурашка зашпільваецца рамянямі ў кабіне вастраносага «яка», па зялёнай ракеце з КП узнімаецца ў паветра ў складзе, напрыклад, чацвёркі знішчальнікаў. Набіраюць яны вышыню тры тысячы і над пярэднім краем атакуюць клін «юнкерсаў», збіваюць адразу некалькі, аднаго завальвае Мурашка, пасля чаго *варожыя бамбёры* рассыпаюцца статкам, паспешліва скідваюць бомбы куды папала, уцякаюць назусім. Трыццаць два вылеты, дванаццаць паветраных баёў — у час Вялікай Айчыннай вопыт параўнальна невялікі, ды і лятаў у пары з «ведомым», чыя справа прыкрываць з хваста вядучага, але ж здолеў двух збіць, значыць валодаў майстэрствам. І хто ведае, калі б не той праклятьі палон... Магчыма, стаў бы з часам вядучым групы, камандзірам эскадрыллі, а то і вышэй пайшоў бы, здольныя лётчыкі на фронце хутка раслі. Пасля вайны служыў бы доўгія гады, узначальваў бы воінскія калектывы, цяпер мог бы зазірнуць у родную вёску палкоўнікам ці генералам, няхай і ў адстаўцы. А галоўнае, не было б у яго біяграфіі адзінаццаці гадоў, выкрасленых з жыцця, вырваных з крывёю. Разважаў аб усім гэтым Вячаслаў і быццам адчуваў і сваю віну — за тое, што «Дзед» трапіў у палон, а потым за калючы дрот да сваіх, за тое, што былому франтавіку нават зялёненькага пасведчання не даюць, за тое, што сам ён, гвардыі капітан Мурашка вязучы ў жыцці, што баявое хрышчэнне прайшоў у афганскім небе, нават не паранены і адзначаны ўзнагародамі...

Нечакана яго паклікалі:

— Дзень добры, Вячаслаў Уладзіміравіч!

Калі б не паздароўкаліся вось гэтак гучна-меладычна, ён мог бы і не заўважыць прыгожанькую вяскоўку, якая ішла «сустрэчным курсам» — відаць, і сапраўды найшло азарэнне.

— Дзень добры-ы-ы, — расцягнуў словы, не называючы яе па імені.

— Я дык вас даўно ведаю, Вячаслаў Уладзіміравіч, мы ж разам вучыліся ў школе. Толькі вы ў дзесятым, а я ў чацвёртым, гэткую маляўку, відаць, проста не заўважалі.

Былая «маляўка» стаяла цяпер перад ім маладой жанчынай, уся проста свяцілася прыгажосцю і шчасцем.

— А цяпер вы?

— Цяпер педагог гэтай самай школы, пасля інстытута сама папрасілася сюды... Ларыса Сяргееўна.

— Вельмі прыемна. — Ён паўтарыў *для таго, каб запомніць:* — Ларыса Сяргееўна.

Яна яшчэ і руку яму падала — пацісвуць яе тонкія пальчыкі, мабыць, трэба было больш пяшчотна.

— І што ж вы выкладаеце? — запытаўся.

— Я намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце.

— Цікавае супадзенне! — усклікнуў ён, быццам набываючы ўпэўненасць пасля раптоўнай сустрэчы. — Таксама «нам». Намеснік камандзіра эскадрыллі... па лётнай падрыхтоўцы.

Абодва бесклапотна засмяяліся.

— Цудоўна! Два «намы» лёгка змогуць дамовіцца. У мяне якраз дзелавая прапанова, і калі ёсць час, правядзіце мяне крыху, я ўсё вам раскажу.

Вячаслаў амаль страявым прыёмам развярнуўся на сто восемдзесят, і яны пайшлі поруч.

— Запрашаю вас заўтра, Вячаслаў Уладзіміравіч, на сустрэчу са школьнікамі, яны ў нас цяпер працуюць на прышкольным садова-агародным полі. Як удзельнік падзей, раскажыце пра Афганістан.

Асаблівага энтузіязму ў яго яе прапанова не выклікала.

— Што пра Афганістан. Вучні вашы ўжо самі начыталіся. Нашы войскі адтуль выведзены... Дзякуючы мудраму рашэнню. Лепш я раскажу ім, як пілатаваць верталёт. Школьнікі якога ўзросту?

— Два шостыя класы і адзін сёмы.

— Нармальна.

Пакуль ішлі да яе дома, абгаворвалі прыкладны план заўтрашняй сустрэчы. Больш гаварыла Ларыса, гаварыла толькі па справе, не перашкаджаючы, аднак, любавацца ёю. А паглядзець было на каго. Яшчэ б чвэртку гадзіны такой сумеснай дарогі і размова, упаўне, магчыма, перакінулася б на нешта іншае.

— Вось мой дом, — вымушана была сказаць яна. Павагаўшыся крыху, дадала: — Зойдзем? Пачастую чаем. Індыйскім!

Трэба было адказваць «так» ці «не». Не вагаючыся ні хвіліны. Але ён паспеў падумаць, што гэта прыкладна так, як ішоў аднойчы на верталёце ў цясніну і не ведаў, ці ўдасца адтуль вырвацца.

Адчуўшы яго нерашучасць, яна адступіла першай:

— Можна і іншым разам як-небудзь.

З таго часу, як памёр ад інфаркту бацька, а здарылася гэта больш дзесяці гадоў назад, Слава, які заўсёды лічыўся добрым сынам, асабліва адчуў любасць да маці. Пакуль быў у сям'і, усю хатнюю работу ахвотна выконваў, у канікулы, як і некаторыя старшакласнікі, садзіўся на трактар, на камбайн. З авіявучылішча, курсантам, часта прысылаў лісты, а лётчыкам стаў — штомесячна грашовыя пераводы. Водпускі ў яго, як правіла, надараліся, позняй восенню ці зімой — прыязджаў абавязкова. І тады Марыя Францаўна забывалася пра свае хваробы. Сёлета яму водпуск далі летам, дык ён замест таго, каб адпачыць, за страху ўзяўся.

Ён у яе адзін, яна ў яго адна — вось так разумеў Вячаслаў свае адносіны з маці.

Што яна сёння надумалася, невядома, але загаварыла з сынам, калі той вярнуўся дахаты, неяк нязвыкла. Бачыла ў акно, як яны з настаўніцай *прайшлі вуліцай*, а калі адкрыта, на вачах праводзіў дзяўчыну, дык магчыма... Калі так, дык была б вельмі задаволена: лепшай нявесткі не знойдзеш — і прыгожая, і разумная, і абы з кім не пойдзе. Засмяяўся, не пачырванеў, што адразу рассеяла матчыны здагадкі. Потым прамармытаў (таксама з усмешкай), што пакуль што нічога ў перспектыве не бачыцца. Калгасная пенсіянерка, старая хворая жанчына, Францаўна трываць не магла нейкага прывознага слоўца «перспектыўна-неперспектыўна». З-за яго і вёскі пусцеюць.

— Дваццаць восьмы год, а сям'і не маеш! — нацягнутым, як струна, голасам прамовіла маці. — Што, так і будзеш жыць на свеце адной сваёй службай?

Папракала халасцяцтвам і раней, але не так жорстка. Яму нават халаднавата стала ад такіх слоў.

— У нас, у верталётчыкаў, мама, не столькі службы, колькі звычайнай пілоцкай работы — людзей даставіць, грузы перакінуць, дапамогу аказаць, напрыклад, пры паводцы.

Гэта не было адказам на хваравітае для яе пытанне. Шаркаючы нагамі, стогнучы, выйшла на кухню, зноў вярнулася.

— Давай, пагаворым, Слаўка. Сам ты лепш маўчы, паслухай матчына слова.

Ён пагладзіў даланёй месца на дыване, куды запрашаў яе сесці.

Уздыхнула, сядаючы. Загаварыла, гледзячы не на сына, а прама перад сабою:

— Так яно атрымліваецца... Самому пад трыццаць, здаровы, моцны, пры добрых грашах, з бліскучымі знакамі на грудзях. Ніякіх табе клопатаў, ніякіх сямейных турботаў, вольны, як вецер. І папракаць як быццам няма за што — не п'е, не курыць. Што тычыцца розных танцаўгуляў, дык там, мабыць, у гарнізоне вашым дзевак хапае. Цяпер увогуле ў моду ўзялі: не жэняцца і да трыццаці, і да сарака, халасцякуюць у сваё задавальненне ды «чарніла» п'юць. Гарадскія, якія прыязджаюць пахваляюцца: у інтэрнаце пасцельную бялізну заўсёды мяняюць, у сталоўцы накормяць, усё адзенне, што ёсць, на плячах, зарплата ўся твая — дык на чорта тая жонка, дзеці? Глядзіш, і нашы вясковыя маладыя мужыкі туды ж, бабылямі ходзяць, старэюць, а жаніцца і не думаюць. — Пачакала, пакуль пройдзе задышка. — Выходзіць, не адзін ты такі, Слаўка. І, думаеш, не памыляешся? Памыляешся, сыночак мой дарагі, вельмі памыляешся... Мужчына на тое ён і мужчына, каб не толькі самому жыць у сваё задавальненне, а каб даць, забяспечыць жыццё сям'і. Калі жанчыне прызначана працягваць род чалавечы, дык мужчына павінен, як добры конь, упрэгчыся ў воз, зрабіць так, каб за яго плячыма было ўсім добра, жонцы і дзеткам.

Да паўночы Вячаслаў чытаў, а потым, выключыўшы святло, яшчэ доўга ляжаў з расплюшчанымі вачыма. У прадчуванні хуткага сну мяняліся малюнкі, якія нараджаліся ў свядомасці: ён праводзіць перадпалётную падрыхтоўку ў эскадрыллі, патрабуючы як мага стражэй з першакласных пілотаў... яго экіпажу даручана спецзаданне, якое па праву не кожнаму, і верталёт, набычыўшыся ў брыючым палёце, імкнецца наперад, па зямлі слізгае яго цень... Яны, верталётчыкі, *вяртаюцца гуртам з аэрадрома пасля* працы ў нябёсах, крочаць знарок не па бетоннай дарожцы, — а па зялёнай траве.

*III Усесаюзны фестываль народнай творчасці*

# Зберагчы душу народа

**«ЛіМ» расказваў пра абласныя Дні паказу дасягненняў народнай творчасці, якія доўжыліся ў сталіцы нашай рэспублікі два месяцы і былі прысвечаны 70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі. На шырокай нарадзе ў Палацы культуры Белсаўпрофа работнікі культуры — спецыялісты розных жанраў прафесійнай і самадзейнай мастацкай творчасці прааналізавалі вынікі фестывалю. Змяшчаем справаздачу з гэтай нарады.**

## БІЦЦА ЦІ МІРЫЦЦА?

Памятаеце беларускую народную казку пра цуду-юду, які перад паядынкам задаваў такое пытанне Удовінаму сыну і атрымоўваў адзін адказ: «Біцца»? Дык вось, ужо шмат гадоў запар пры абмеркаванні вынікаў тых ці іншых мерапрыемстваў, калі ў адной зале збіраліся работнікі культуры вышэйшага і ніжэйшага рангаў, першыя выступалі ў ролі бескампраміснай і злой істоты, другія—у ролі тых, на каго абрыньваецца ўвесь гнеў зласліўцы. На такіх нарадах такога пытання быць не магло, увесь ход заўсёды паказваў, што аб прымірэнні тут і гаворкі быць не можа. Бываючы на гэткіх нарадах, я заўважаў, як, па традыцыі заняўшы высокую трыбуну, суровае кіраўніцтва так крытыкавала калектывы мастацкай самадзейнасці, што ад тых толькі пыл курыўся. Тыя, хто прыехаў на пасяджэнне з абласных і раённых цэнтраў, увабраўшы галовы ў плечы, шапталі: «За што?» Больш вопытныя, якім чуць гэта было не ўпершыню, ціха тлумачылі: «Для прафілактыкі, каб іншыя баяліся, такі стыль работы».

На гэтай нарадзе такой наэлектрызаванасці паміж «вярхамі» і «нізамі» не існавала. Для мяне асабіста было вялікай нечаканасцю, калі міністр культуры БССР Я. К. Вайтовіч, адкрываючы нараду, парушыў завядзёнку і папрасіў выказвацца стрымана і слушна. Ён падкрэсліў, што трэба добразычліва разабрацца, на якім узроўні мы знаходзімся, даць адказ на пытанне, як напоўніць сапраўдным зместам работу ўстаноў культуры. Кіраўнік міністэрства адзначыў, што складанасці ў развіцці культуры — гэта наша агульная бяда, бо час застою і валюнтарысцкія метады кіраўніцтва і тут пакінулі пасля сябе вялікі след.

У такім жа разважлівым і дзелавым ракурсе было вытрымана выступленне начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры рэспублікі Т. Стружэцкага. Былі названы некаторыя лічбы. Так, напрыклад, у Днях культуры прынялі ўдзел 387 калектываў з агульнай колькасцю каля 7 тысяч чалавек, было арганізавана 38 розных выставак выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, адбылося 86 канцэртаў і творчых сустрэч. Найбольш шырока і цікава прайшлі Дні Гомельскай, Магілёўскай і Віцебскай абласцей (што датычыць рэкламы і насычанасці мерапрыемстваў, зместу заключных канцэртаў і прадстаўніцтва абласцей). З гэтых 387 калектываў толькі 40 было сельскімі (крыху больш за 10 працэнтаў). Абмежаваная была і геаграфія калектываў: пераважалі з абласных цэнтраў і гарадоў рэспублікі. Канешне, заўважыў Т. Стружэцкі, мы разумеем нашых таварышаў з абласцей: прасцей было ўзяць вядучыя калектывы з адпрацаваным рэпертуарам і без вялікай цяжкасці стварыць канцэртныя праграмы. Асабліва гэта характэрным было для Мінска. Куды ж падзеліся новыя, толькі што створаныя, са свежым арыгінальным рэпертуарам? Напэўна, толькі Гомельская вобласць неяк пастаралася стварыць цікавую праграму за кошт новых, у тым ліку і сельскіх, калектываў і выканаўцаў.

Без сумнення, сухія статыстычныя дадзеныя, хоць і дакладна падлічаныя, яшчэ не выяўлялі цэласнага малюнка таго, што адбывалася на сцэне. Менавіта пра гэта гаварылі спецыялісты, якія пабывалі на канцэртах.

## ЯК МЫ ТАНЦУЕМ...

Пра народныя танцы мы звычайна мяркуем як дылетанты, якія павярхоўна разбіраюцца ў спецыфіцы народнага танца: як хто ні станцуе — прыўкрасна! Не адзін раз даводзілася назіраць, як, выконваючы даўнейшы фальклорны танец, дзяўчаткі так высока падкідвалі свае лёгкія ножкі, што сукенка парасонам клалася ледзь не на плечы. «Цьфу ты, — злавалася знаўца народнай харэаграфіі, што неяк сядзела каля мяне ў зале, — такую безгустоўшчыну не часта і ўбачыш!» «Бра-ва! Ма-лай-цы!» — скандзіравалі пасля танца прыхільнікі маладых танцорак і так паліхвацку пляскалі ў ладкі, што аж звінела ў вушах.

Найлепш сказаў пра неабходнасць далікатных адносін да народнага танца мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР імя Г. Цітовіча М. Дрынеўскі:

— Аднаўляць народны танец трэба звышасцярожна, умела. Ад нашчадкаў засталося нам вельмі мала, а без любві да духоўных скарбаў свайго народа мы страчваем нават гэта. Наш беларускі народны танец быў у свой час арыгінальным і багатым на разнастайнасць формы і зместу, а прайшоў час, і сёння нам не хапае чысціні аўтэнтычнага фальклору. Даводзіцца канстатаваць, што народныя танцы ўсё часцей становяцца падобнымі адзін на другі.

На думку доктара мастацтвазнаўства, загадчыка кафедры харэаграфіі Мінскага інстытута культуры Ю. Чурко, сёння неабходна абавязкова падымаць узровень балетмайстарскага мыслення, без гэтага развіваць харэаграфію проста немагчыма. Кожная вобласць мае цікавыя калектывы мастацкай самадзейнасці, і тут важна, каб кожны раён рэспублікі развіваў тыя віды самадзейнасці, якія яму больш блізкія.

Крытычным было выступленне ветэрана беларускай народнай харэаграфіі Л. Аксютовіч:

— Наш народ мае больш за 250 народных танцаў, карагодаў, гульняў. Асабіста я прапанавала для энцыклапедыі некалькі дзесяткаў беларускіх танцаў, — сказала яна і тут жа задала прамое і слушнае пытанне: — Дзе гэтыя танцы вы сёння ўбачыце? Нашы харэографы звышнеразваротлівыя; ёсць багацейшы матэрыял пра народныя танцы, але ім мала хто цікавіцца...

## СПЯВАЕМ...

Вось яшчэ некалькі лічбаў для аналізу заключных канцэртаў. Найбольш шырока сярод розных жанраў былі прадстаўлены танцавальныя калектывы (67), харавыя (53), вакальна-інструментальныя ансамблі (46), аркестры народных інструментаў (15). Іншыя жанры самадзейнасці выглядалі бядней, напрыклад, калектывы цымбалістаў змаглі прадставіць толькі Віцебская і Мінская вобласці, горад Мінск. Такая ж сітуацыя склалася і з сімфанічнымі аркестрамі, іншымі інструментальнымі ансамблямі.

Такая «адметнасць» не магла прайсці не заўважанай. Дацэнт Белдзяржкансерваторыі Г. Ермачэнкаў у сваім выступленні зазначыў, што знікаюць некаторыя канцэртныя калектывы, раней добра вядомыя гледачу, а астатнія рэгіёны ў сваіх фальклорных нумарах вельмі падобныя адзін на другі. Рэдка мы бачылі вакальна-інструментальныя ансамблі, мала было духавых аркестраў, гаварыў прамоўца. Горш за ўсё тое, што амаль не адчувалася на сцэне сучаснай музычнай мовы, той цікавай інтэрпрэтацыі, якую мы заўсёды хвалім і падтрымліваем. Нечаканую «імправізацыю» народных спеваў мы чулі, але яна была настолькі мудрагеліста «апрацавана», што толькі дзіву даваліся. Вось на заключным канцэрце Дзён культуры Магілёўшчыны ансамбль Магілёўскага Палаца піянераў і школьнікаў выконваў шырокавядомую беларускую песню «Рэчанька». Кожны, каму давялося чуць гэту песню, зразумеў, што, акрамя слоў, ад песні нічога не засталося, так яе «апрацавалі» знаўцы беларускіх мелодый.

Гэту думку працягваў кампазітар А. Рашчынскі, які сказаў:

— Свядома ці не, але многія песні мы проста загубілі. Некаторыя фалькларысты і самадзейныя кампазітары перараблялі і перарабляюць іх так, як хочуць, хоць і ведаюць, што жыццём даўно створаны структуры народнай творчасці і яе жанры і што нам неабходна толькі іх зберагаць і развіваць. Узнікаюць часам спрэчкі аб тым, якім мастацтвам павінна займацца самадзейнасць: прафесійным ці народным? Вядома ж, самадзейнасць у першую чаргу павінна цікавіцца народнай творчасцю. У самадзейным мастацтве заўсёды відаць белыя ніткі безгустоўшчыны, калі яно пераймае прафесійнае мастацтва. На жаль, на канцэртах рэдка гучалі цымбалы, ліра, скрыпка, гармонік.

## ВУЧЫМСЯ...

На думку Т. Стружэцкага, галоўная мэта фестывалю дасягнута: самадзейныя артысты пакідалі Мінск адухоўленымі, удзячнымі за ўвагу, якую ім аказалі шэфы горада. Заслуга ў гэтым кіраўнікоў калектываў, работнікаў упраўленняў культуры і аблсаўпрофаў, метадычных служб.

Разам з тым, арганізацыя такога форумнага мерапрыемства — вялікі аўтатрэнінг для работнікаў культуры, які высвятляе шматлікія праблемы.

— Аснашчэнне канцэртаў тэхнікай нікуды не вартае, — гаварыў галоўны балетмайстар Белдзяржфілармоніі М. Дудчанка. — Як можна працаваць з апаратурай учарашняга дня? Але нават гэта не можа апраўдаць слабую рэжысуру, якую мы часта бачылі, дакладней, не саму рэжысуру, а яе кампіляцыйныя формы. Трэба вучыцца на спаборніцтвах і конкурсах, якія заўсёды даюць той ці іншы стымул. Але што мы бачым? Зніклі конкурсы ансамбляў, мы не праводзім святаў песні.

На адкрыццё Дзён культуры сваёй вобласці гродзенцы прывезлі ў Мінск цэлую групу вядомых людзей, але цікавай прэс-канферэнцыі не адбылося; госці меркавалі прывезці цікавую выставачную экспазіцыю, але, на жаль, яе не было каму ахоўваць. Зразумела, каб усе мерапрыемствы абласцей праводзіліся ў адным месцы, такіх праблем не ўзнікла б.

На думку дырэктара Гродзенскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы М. Копа, пажадана, каб фінансавыя арганізацыі знялі забарону на выкарыстанне пазаштатных кансультантаў, якія неабходны для правядзення рэгулярнай работы са спецыялістамі па народнай творчасці.

Аб праблемах, якія больш за ўсё хвалююць работнікаў абласных упраўленняў культуры, гаварыла дырэктар Брэсцкага АНМЦ С. Гуляева:

— Усе заклікаюць берагчы беларускую мову, культуру, фальклор... Але ж гэта мы ўсё выкарыстоўваем толькі для аздаблення. Мы, асабліва нашы дзеці, павінны жыць роднай мовай, ведаць багаты фальклор. Ёсць у нашай рабоце недахопы? Несумненна. Але мы працуем на водшыбе. А ці часта спецыялісты сталіцы Беларусі трапляюць да нас у госці? Не, яны жывуць далёка ад нас і не бачаць нашай работы.

Пра неабходнасць дакладнай інфармацыі аб праблемах народнай творчасці гаварыў намеснік галоўнага рэдактара «БелСЭ» імя П. Броўкі А. Петрашкевіч. Ён пазнаёміў прысутных з праспектамі «Энцыклапедыі беларускага танца» і «Энцыклапедыі самадзейных калектываў Беларусі», якія запланаваны да выдання.

## НА ЎСІХ І БЯДА АДНА

Падкрэсліўшы, што агляд народнай творчасці, які адбыўся ў Мінску, у нейкай ступені сведчыць пра адраджэнне беларускага фальклору, культуры і мовы, народны артыст БССР, рэктар Белдзяржкансерваторыі М. Казінец падрабязна гаварыў пра тыя праблемы, якія непакояць музычную грамадскасць рэспублікі. У 1987 годзе ў Віцебску адбылося вялікае свята — праводзіўся рэспубліканскі агляд-конкурс «Звіняць цымбалы», на які прыехала звыш 700 чалавек. Там выявіліся праблемы сённяшняга рэпертуару. Аналагічны фестываль у 1990 годзе мяркуецца правесці ў Гродне, дзе сваю праграму пакажа кожная вобласць. Але дзе ўзяць музычныя інструменты? Цымбалы Барысаўскай музычнай фабрыкі ў сваёй большасці не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Прамоўца ўнёс прапанову перадаць фабрыку ў распараджэнне Музычнага таварыства БССР, што можа паспрыяць паляпшэнню якасці выпускаемых інструментаў.

Настаў час, гаварыў М. Казінец, стварыць у рэспубліцы нотнае выданне, бо сёння ў нас залежы нотнага матэрыялу, які мы ніяк не можам надрукаваць, а яго чакаюць як прафесійныя, так і самадзейныя кампазітары. Тут мы значна адстаём ад суседніх рэспублік Прыбалтыкі, у якіх такая работа даўно пастаўлена на дзяржаўную аснову.

Чаму кіраўнікам самадзейных калектываў за работу па сумяшчальніцтву плацяць усяго палову стаўкі? Ці на карысць гэта справе?

— Сапраўды, адносіны некаторых кіраўнікоў да работнікаў культуры засталіся з часоў застою, — сказала фалькларыст Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра культуры М. Жабінская. — Прычына адна: нашы работнікі працуюць у невытворчай сферы, адсюль і ўсе беды. А, здавалася б, людзей, што працуюць на мізэрным акладзе і голым энтузіязме, мы павінны былі б цаніць, як нікога. Ды хіба толькі гэта? Адбываецца нівеліроўка народнай спадчыны, мы даўно страцілі аўтэнтычны фальклор. Парадокс, але ў нашай культуры часта працуюць людзі, далёкія ад ведання нацыянальных традыцый...

— Пры правядзенні вялікіх свят у нас назіраецца адна хвароба — колькасная стыхія адольвае якасную, — адзначыла галоўны рэдактар упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР Н. Загорская. — Таму канцэрты атрымаліся падобнымі. Да таго ж, вобласці прывезлі стары рэпертуар, які існаваў дзесяцігоддзямі. Вывад тут адзін: нашы метадычныя службы належна не працуюць з аўтарамі. Вялікая доля віны кладзецца і на міністэрства, якое сёння працуе практычна без рэпертуарнага аддзела. Для маральнага і матэрыяльнага заахвочвання людзей неабходна было б зацвердзіць штогадовыя прэміі Міністэрства культуры БССР.

**Ці патрэбна нам мастацкая самадзейнасць? З трыбуны ўсе галасуюць за яе развіццё, а што атрымліваецца на самай справе?.. — З гэтага пытання пачала сваё выступленне хормайстар народнага хору Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода А. Нікіціна. Штодзённая практыка паказвае, што ўсе афіцыйныя цыркуляры, што выйшлі ў мэтах паляпшэння работы мастацкай самадзейнасці, нічога не памянялі. Рытм работы ў мастацкіх калектывах вельмі высокі і напружаны, а работа гэтая — бясплатная, таму ніхто сёння, у часы гасразліку, яе не шануе. Не так даўно ўдзельнікаў самадзейнасці падтрымлівалі матэрыяльна, выплачваючы хоць нязначныя прэміі, цяпер іх адмянілі. У свой час было вырашана, што кожны калектыў мастацкай самадзейнасці павінен шэфстваваць над нейкім сельскім калектывам. Але трэба шчыра прызнаць, што патрэбна яно толькі для птушачкі: абавязковай умовай пры вылучэнні калектыву на званне народнага з'яўляецца гэтае самае шэфства. Ці не час набрацца смеласці і адмовіцца ад такой умовы?**

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

**Гаворка, такім чынам, закранула тыя пытанні, якія даўно і неадчэпна хвалююць работнікаў народнай творчасці. Праўда, гаворка ішла толькі пра калектывы мастацкай самадзейнасці, хоць паняцце «народная творчасць» значна шырэйшае: тут і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, і выяўленчае... Але аб праблемах гэтых відаў народнай творчасці — у наступным артыкуле.**

**Вячаслаў ЛАПЦІК.**

*Музыка*

# ПРАЗ МНОГІЯ ПЕРАШКОДЫ

**Штрыхі да творчага партрэта спявачкі Тамары ПЯЧЫНСКАЙ**



ВЯДОМА, што творчы лёс складваецца па-рознаму. Іншым разам нават не вельмі і таленавіты выканаўца, дзякуючы спрыяльным абставінам, а то і, не сакрэт, падтрымцы, атрымлівае прызнанне, робіць, як кажуць, сабе імя. Нярэдка бывае наадварот: сапраўдны талент вельмі цяжка прабівае сабе дарогу, не прэтэндуючы на дапамогу, сустракаючыся з самымі рознымі перашкодамі. Але настойлівасць у дасягненні мэты, адданасць мастацтву, мара пра любімую прафесію ўрэшце прыводзяць да перамогі.

Гэтак думала я, рыхтуючы нататкі пра Тамару Пячынскую. Менавіта ўласнай настойлівасцю, вялікай працавітасцю, упартасцю ў дасягненні мэты і, канечне, талентам, дадзеным прыродай, дасягнула яна прызнання. Так, шлях быў вельмі няпросты...

**Пачалося ўсё ў Омску, куды ў гады вайны эвакуіравалася сям'я Тамары. Дзяўчыне-пявунні адмовілі ў прыёме ў музычнае вучылішча. Першае сутыкненне з несправядлівасцю. А колькі іх было потым!..**

**Паступіла ў педінстытут, там кіраўніца вакальнага гуртка заўважыла прыгожы голас Тамары і ўзяла яе ў свой клас у музвучылішча. Праз тры гады ў Тамары была ўжо цвёрдая мэта: Кіеўская кансерваторыя. Ды тут яе зноў напаткала няўдача — не прынялі. Яшчэ год вучылася ў Омскім музвучылішчы, зноў паехала ў Кіеў, зноў не паступіла...**

Вышэйшую музычную адукацыю яна атрымала ў Свярдлоўскай кансерваторыі, дзе вучылася ў прафесара З. Шчолакавай. Вучылася выдатна, з собінаўскай стыпендыяй. Дыпломнай работай яе была партыя Амнерыс у оперы «Аіда». Потым тры гады асістэнтуры-стажыроўкі ў кансерваторыі, год работы салісткай Свярдлоўскай філармоніі. Але жыццё, здаецца, усё выпрабоўвала яе волю. У 1976 годзе Тамара Пячынская разам з мужам — прафесійным вайскоўцам—прыехала ў Мінск. Мара пра оперную сцэну, якая жыла ў душы яе са студэнцкіх гадоў, магла ажыццявіцца — маладая спявачка праслухалася ў нашым оперным тэатры. Але яе на працу ў ДАВТ БССР не ўзялі. Чаму? Наўрад ці хто адкажа на гэтае пытанне.

*Яна ўладкавалася ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю на кафедру канцэртмайстарскага майстэрства — ілюстратарам, мела і педагагічныя гадзіны на кафедры спеваў.* І вось рэжысёр С. Штэйн запрасіў Т. Пячынскую ў сваю новую пастаноўку —оперу «Сівая легенда» Д. Смольскага. Яна вельмі хутка вывучыла партыю Любкі і ўвайшла ў спектакль. Выступіла ў другім прэм'ерным спектаклі і потым на працягу трох гадоў выходзіла ў гэтай ролі на сцэну нашага тэатра.

**Перада мной тэатральная праграмка «Сівой легенды» ад 2 ліпеня 1978 года — гастрольны спектакль у Маскве. Там Т. Пячынская спела два спектаклі, мела поспех, водгукі ў прэсе. Але... (зноў «але») калі ў часопісе «Огонёк» з'явіўся матэрыял пра сталічныя гастролі беларускага опернага, у спектаклі «Сівая легенда» расхвалілі... іншую выканаўцу, якая не выступала ў ім, ды мела вядомае імя, высокае ганаровае званне.**

Праз нейкі час Т. Пячынская зрабілася салісткай Дзяржтэлерадыё БССР. Канечне, шкада, што Дзяржаўны тэатр оперы і балета БССР не ўзяў у свой штат гэту адметную спявачку і артыстку. Шкада, што яе гарачая мара пра оперную сцэну не здзейснілася. Але камерная музыка ў асобе Т. Пячынскай атрымала таленавітага інтэрпрэтатара. Высокі мастацкі густ, прыгожае лірычнае мецца-сапрана; глыбокае пранікненне ў свет пачуццяў, адлюстраваных у музыцы, — усё гэта паспрыяла ёй як камернай спявачцы.

Праца на радыё захапляе Тамару. *Пастаянны пошук* рэпертуару, запісы, выступленні на тэлебачанні, адкрытыя канцэрты, сустрэчы са слухачамі,— за ўсім гэтым цудоўны свет музыкі, без якога яна не ўяўляе свайго жыцця. Яе камерны рэпертуар надзвычай разнастайны: класіка, савецкая музыка, у асноўным творы кампазітараў Беларусі.

Т. Пячынская падрыхтавала і запісала семнаццаць вакальных цыклаў беларускіх аўтараў. Тыя, хто знаёмы з гэтым складаным відам вакальнага мастацтва, могуць уявіць сабе ўсю значнасць, маштабнасць і мастацкую каштоўнасць здзейсненага спявачкай. Высокай пашаны заслугоўвае яе работа. Кожны з выкананых ёю цыклаў — адметны музычна-паэтычны свет, яе выканаўчая інтэрпрэтацыя — таксама адметная. Згадаю тут вакальныя цыклы Д. Смольскага на вершы Гарсія Лоркі, А. Пашкевіч, А. Астрэйкі; Э. Тырманд на вершы Гарсія Лоркі, Э. Агняцвет; А. Багатырова на вершы Я. Купалы, Д. Лукаса на вершы Л. Украінкі...

Дарэчы, нашы кампазітары давяраюць Т. Пячынскай першае выкананне многіх сваіх твораў. Яна як бы ўрасла ў беларускую музыку, без якой не бачыць сваёй творчай працы. Запісаны на радыё рамансы М. Аладава, В. Залатарова, Ю. Семянякі, Я. Глебава, І. Лучанка. Спявачка ўдзельнічае ў запісе радыёварыянта оперы А. Багатырова «Надзежда Дурава». Зроблены запісы спектакля «Сівая легенда» на тэлебачанні, дзе Т. Пячынская выканала партыю Любкі, тэлеоперы «Марынка» Р. Пукста (тут яна выканала партыю Ганны). У планах — удзел у новай радыёоперы К. Цесакова «Палын — трава горкая».

Апошнім часам да яе пачалі звяртацца маладыя аўтары са шматлікімі просьбамі запісаць вакальныя цыклы: В. Іваноў, В. Сярых, А. Елісеенкаў, В. Кузняцоў, А. Хадоска і іншыя. Я *пацікавілася*, ці ўсё бярэ спявачка з таго, што ёй прапануюць? Ці ўсё прываблівае яе як музыканта? У адказ пачула:

**— Раней я не адмаўлялася ад прапанаваных твораў, напэўна, менш разбіралася. Ды, можа, і не хацелася пакрыўдзіць маладых аўтараў. Думала — паспрабую, можа, што добрае і атрымаецца... Цяпер больш пераборліва стаўлюся да музыкі маладых, не ўсё бяру для работы. Але добра разумею пачаткоўцаў: не ўсе іхнія творы, як кажуць, «дацягваюць», яны, напэўна, хочуць пачуць свае эксперыменты, а як жа гэта зрабіць, калі твор не прагучыць...**

А я дадам: хутчэй за ўсё, яны разважаюць так: калі майстар выканае, запіша, усё ж такі музыка будзе гучаць, а значыць — жыць... І, спадзяюся, *яны* ўдзячныя Т. Пячынскай, якая гэтак зычліва ставіцца да творчасці маладых.

Асобнае месца ў яе сэрцы займае музычная класіка. Запісаны творы П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, М. Мусаргскага, М. Глінкі, М. дэ Фалья, іншых аўтараў. Гэтыя запісы зроблены з канцэртмайстрамі Т. Міянсаравай і Л. Максімавай. Заслужаная артыстка БССР Тамара Міянсарава, якая доўгія гады працавала на Беларускім радыё, заўважае:

**— Мне давялося некалькі гадоў працаваць з Тамарай Пячынскай. Гэта чалавек надзвычай музыкальны, да працы яна ставіцца надзвычай сумленна. Гэта вельмі рэдкі выпадак: на рэпетыцыі яна прыносіла ўжо сапраўды гатовую рэч, усё было вывучана. Не даводзілася рабіць ёй заўваг, нервавацца. Толькі развучыць твор — і гэта ўжо музыка! Я лічу яе вельмі адоранай. Ведаю Тамару з таго часу, як толькі яна прыехала ў Мінск. Помню, як яе не ўзялі ў оперны тэатр. Вельмі шкада. Яе голас — мяккі, прыгожы, выдатныя артыстычныя здольнасці, эмацыянальнасць, яе тэмперамент, шчырасць, — усё гэта дало ёй магчымасць таленавіта праявіць сябе ў камерным рэпертуары...**

Нарэшце, з'явілася ў Т. Пячынскай упэўненасць у тым, што з аркестрам Дзяржтэлерадыё БССР яна будзе запісваць арыі сусветнага класічнага опернага рэпертуару: Іяанны («Арлеанская дзева»), Сантуцы («Сельскі гонар»), Марфы («Хаваншчына»), Кармэн. Будуць зроблены і здымкі на тэлебачанні...

Ці можна лічыць, што спявачка атрымала прызнанне? Калі мець на ўвазе аматараў музыкі, сапраўдных яе знаўцаў, — спадзяюся, што так.

*Але асабіста мне заўсёды* вельмі крыўдна за тое, што дагэтуль таленавітая спявачка не атрымала прызнання з боку, так бы мовіць, афіцыйнага. Хіба мала яна зрабіла для прапаганды беларускага музычнага мастацтва, робіць сёння і будзе рабіць? Вядома, яна не пяе песень, аснову яе рэпертуару складае сур'ёзная, высокая музыка. Дык жа гэтая галіна выканаўчай дзейнасці намнога складанейшая за песенную, даказваць гэта няма патрэбы. І калі ў канцэртных праграмах эфіру я чую, як прадстаўляюць іншых салістаў нашага радыё, з крыўдай думаю: калі ж і да прозвішча Тамары Пячынскай будзе дададзена некалькі ганаровых слоў? Яна іх даўно заслужыла.

**Алена РАКАВА.**

---

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# Вакол Мельпамены

**Вынікі фестывалю «Прыбалтыйская тэатральная вясна-89»**

У шосты раз сцэнічныя калектывы рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі аспрэчвалі бронзавую статуэтку Мельпамены — галоўны прыз традыцыйных «тэатральных красавікоў». Гаспадыняй фестывалю была сёлета Літва, на вільнюскіх падмостках з 16 па 25 красавіка і праходзіла творчае спаборніцтва, у якім удзельнічалі: Паневяжыскі драматычны тэатр (Літва) — «Сабор» Юст. Марцінкявічуса; Маладзёжны тэатр (Эстонія) — «Вышэйшы клас» Д. Паўнэла; Валміерскі драматычны тэатр (Латвія) — «Даўгава» Я. Райніса; Тэатр-студыя кінаакцёра (Беларусь) — «Гамлет» В. Шэкспіра; Акадэмічны тэатр драмы (Літва) — «Тут не будзе смерці» В. Кукуласа і Р. Тумінаса.

Выступаючы на цырымоніі закрыцця фестывалю, старшыня журы вядомы літоўскі рэжысёр Д. Тамулявічутэ падкрэсліла, што сёлета журы не імкнулася задаволіць усіх, а прынцыпова кіравалася выключна творчымі крытэрыямі. Так, напрыклад, не быў прысуджаны прыз за лепшую рэжысуру, зусім без узнагарод застаўся спектакль Валміерскага тэатра, адсутнічалі і «суцяшальныя» прызы грамадскіх арганізацый...

Бронзавая Мельпамена засталася ў Вільнюсе — галоўны прыз прысуджаны спектаклю «Тут не будзе смерці» (рэжысёр Р. Тумінас; дарэчы, сёлета ўпершыню разам з Мельпаменай пастаноўшчык атрымліваў і грашовую прэмію). Асобна ў гэтым спектаклі журы адзначыла сцэнографа В. Ідзелітэ і кампазітара Ф. Латэнаса. Не традыцыйна на гэты раз журы ацэньвала і акцёрскія дасягненні, без звыклага падзелу на лепшыя мужчынскую, жаночую і эпізадычную ролі. Былі ўручаны чатыры акцёрскія прэміі, якія атрымалі Т. Карк і К. Ора з Таліна, мінчанін А. Аржылоўскі і актрыса з Паневяжыса Л. Шульгайтэ.

Арганізатары фестывалю склалі надзвычай насычаную пазаконкурсную праграму. Госці і ўдзельнікі «Прыбалтыйскай вясны» пазнаёміліся з мастацтвам Тэатра горада Турку (Фінляндыя) і Нацыянальным тэатры Нарвегіі, убачылі новую пастаноўку Й. Вайткуса і нечаканы «палітычна-лялечны» спектакль студэнтаў кансерваторыі, сустрэліся з кіраўнікамі «Саюдзіса», а таксама «з першых рук», ад грузінскага тэатральнага педагога і крытыка атрымалі інфармацыю аб трагічных падзеях у Тбілісі. І вядома ж, адно з галоўных уражанняў сёлетняй «Прыбалтыйскай тэатральнай вясны» — гэта Вільнюс красавіка 89-га...

Свае фестывальныя нататкі я мяркую *прапанаваць* чытачам «ЛіМа» ў адным з бліжэйшых нумароў штотыднёвіка.

**А. ГАНЧАРОЎ.**

---

# «ВЕРЫМ ВА ЎДУМЛІВАГА СЛУХАЧА...»

**Гавораць удзельнікі новага ансамбля**

**Праблема развіцця эстраднага мастацтва сёння вельмі вострая. Кажуць, што час такі. Новае для дня сённяшняга заўтра патыхае ўжо нафталінам... Панаванне «відэа-і тэлеклубнічкі», жаданне ўкладальнікаў тэлепраграм ісці «паперадзе прагрэсу», высоўваючы напаказ наш савецкі музычны «авангард», *якім, да прыкладу, начыненая* яшчэ нядаўна вельмі вострая і актуальная праграма «Взгляд», — псуе нашы эстэтычныя густы.**

**За жаданнем бегчы наперад на злом галавы разам са сродкамі масавай інфармацыі, мы абмінаем часам з'явы па-сапраўднаму таленавітыя і людзей, якія ўмеюць мысліць. Уступаючы ў творчыя кааператывы, робімся «бяздушнымі каваля́мі свайго кішэннага шчасця». Бяжым і бачым, што побач гінуць дрэвы і кветкі, паміраюць людзі, нараджаюцца ўроды; бачым скрыпку, ды не чуем яе голас. Мы бяжым — і таму нам не да гэтага. *Шлях наш* засланы грашовымі знакамі рознай каштоўнасці..., Ці не гэтак выглядае ўмоўны партрэт «серадняка»-артыста і гледача?**

**«Сярэдні» глядач слухае музыку толькі для забавы, а «сярэдні» артыст *выконвае* гэтую музыку. Такі глядач абвяргае ўсё, што спрыяе не толькі адпачынку, але і одуму; яму зручна ведаць пра «зорку» ўсё са «свету інтымнага»...**

**Калі ж, нарэшце, мы навучымся *падключаць* да «цэнтра задавальнення» і «цэнтр мыслення»? Якая павінна быць сёння эстрада? Што лепш: прапаганда другаснага песеннага матэрыялу ці пошукі свайго шляху і творчага *аблічча*? Гэтыя пытанні не раз задавалі сабе ўдзельнікі новай эстраднай групы «Маскі», нядаўна створанай у Брэсцкай абласной філармоніі.**

**«Маскі». Пад гэтай назвай аб'ядналіся тры музыканты: Надзея Добрыкава (вакал, бас-гітара), Мікалай Суравоў (вакал, клавішныя, рытм-бокс) і Юрый Васіліскаў (лірэр-гітара, вакал, ён жа і кіраўнік групы).**

— Чаму — «Маскі»?

— У працы над кампазіцыяй, а гэта першае аддзяленне нашага канцэрта,—расказвае Ю. Васіліскаў, — мы знайшлі сімвал: маска Арлекіна, і пяём ад імя маскі, якую надзяём. Як гаварыў вялікі Станіслаўскі, надзяём скуру свайго персанажа, застаючыся пры гэтым самімі сабой. У сваіх песнях-маналогах «Маскі» выступаюць супраць сацыяльных недахопаў, узнімаючы праблемы некамунікабельнасці людзей, бюракратызму, п'янства, экалогіі...

— Цяпер крытыкуюць усе. А чаго хочаце вы ад грамадства і ў чым бачыце выйсце?

— Чалавек павінен ісці да іншага чалавека і шукаць кантакту, — разважае Ю. Васіліскаў. А Н. Добрыкава дадае:

— Не змагацца з ветракамі і адзін з адным, а дапамагаць.

— *Надзея, на вашу думку*, што больш выгодна выконваць: папулярную ці сваю песню?

— Я люблю эксперымент і сапраўдную працу. Зразумела, пасля таго, як песня прагучала па ЦТ у выкананні «зоркі», набыла папулярнасць, — ёсць гарантыя, што глядач пойдзе на песню, але за ёй, за песняй, застанецца вобраз таго, хто вывеў твор «у свет» упершыню. Лічу, што выкананне «чужых» песень, хай сабе нават гэта твор масцітага кампазітара, — заваёва таннай папулярнасці...

— Як вы лічыце, ці карысна часам у мастацтве паставіць усё з ног на галаву, каб адвыкнуць ад стэрэатыпаў? Ці не спрабуеце вы, шукаючы новую форму і ўводзячы ў маналогі-песні элементы тэатралізацыі, перавярнуць усё дагары нагамі?

— Не, — далучаецца да размовы М. Суравоў, — мы за авангард у добрым сэнсе. Спробы тэатралізацыі былі і да нас. Асноўная задача — не «перажоўваць» сэнс песні, а прымушаць думаць... Верым у гледача ўдумлівага.

— Як вы растлумачыце той факт, што на канцэрце «Масак» палова глядацкіх месцаў пустуе?

— Эстрадная група для Брэсцкай філармоніі, — разважае Ю. Васіліскаў, — з'ява складаная... У нас ёсць назва, ды пакуль няма імені, таму глядач да нашых канцэртаў ставіцца насцярожліва...

— Што б вы сабе пажадалі?

— Цярплівасці... цярплівасці. І навучыцца з годнасцю сустракаць няўдачы і перамогі. А галоўнае: працаваць па-сапраўднаму — у гэтым наша мэта, — сцвярджае Н. Добрыкава.

Што ж, у добры шлях, «Маскі»!

**У. ЯШЧУК.**

г. Брэст.

У складаных працэсах абнаўлення жыцця нашай краіны асаблівае месца належыць духоўнай культуры. Ад дзеячаў культуры, іх грамадзянскай пазіцыі, пачуцця патрыятызму і адказнасці, узроўню прафесійнага майстэрства ў значнай ступені залежыць ход далейшай перабудовы грамадства. Аднак і развіццё самой мастацкай культуры ў роўнай меры залежыць ад пазіцыі грамадства і дзяржавы, іх рэальнага ўкладу ў культурнае будаўніцтва. Узаемасувязь і ўзаемаабумоўленасць развіцця культуры, грамадства, дзяржавы на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва відавочны. Гэтак жа відавочна і іншае: сумна вядомы «рэшткавы прынцып» нарадзіў мноства найскладаных праблем, якія і да цяперашняга часу прыкметна тармозяць развіццё культуры, а значыць і рух па шляху сацыялістычнага будаўніцтва. Вось чаму наспела найвострая неабходнасць перагляду дзяржаўнай палітыкі ў галіне культурнага будаўніцтва. неабходнасць перабудовы ў сферы мастацкай культуры, у тым ліку і тэатральнай.

У дадзеным выпадку да месца прывесці хоць бы некалькі прыкладаў, якія характарызуюць рэальны стан спраў у тэатральным мастацтве нашай рэспублікі. Так, па забяспечанасці насельніцтва тэатрамі Беларусь займае апошняе месца сярод іншых рэспублік краіны. Забяспечанасць тэатрамі да нарматыўнага ўзроўню складае ўсяго 35 працэнтаў. Гэта азначае, што тэатральную сетку ў Беларусі неабходна пашырыць у тры разы толькі для дасягнення нарматыўнай забяспечанасці, прынятай у СССР.

Выклікае трывогу і творчы стан тэатральнага мастацтва ў рэспубліцы, ідэйна-мастацкі ўзровень большасці спектакляў, якія ствараецца сцэнічнымі калектывамі, у тым ліку і вядучымі. Адчувальна не хапае высокакваліфікаваных рэжысёрскіх кадраў, рэжысёраў-лідэраў, рэжысёраў-наватараў. Прыкметна знізілася прафесійнае майстэрства пераважнай большасці акцёраў, практычна адсутнічаюць буйныя творчыя індывідуальнасці сярод акцёраў сярэдняга і малодшага пакаленняў. Сур'ёзныя, калі не сказаць крызісныя цяжкасці адчувае беларуская нацыянальная драматургія, што звязана з яўна недастатковай колькасцю нацыянальных тэатраў, крытычным звужэннем сферы ўжывання беларускай мовы, а таксама відавочнымі тэндэнцыямі камерцыялізацыі сучаснага сцэнічнага мастацтва. Не хапае высокакваліфікаваных кадраў тэатральных прафесій — сцэнографаў, адміністратараў, бутафораў, грымёраў і інш. Адсутнічаюць умовы для плённага развіцця тэатральнай крытыкі. Парушаны творчыя сувязі паміж тэатрам прафесійным і аматарскім. Практычна адсутнічае традыцыя эстэтычнага выхавання вучнёўскай моладзі сродкамі тэатра, папулярызацыі і прапаганды сцэнічнага мастацтва сярод працоўных рэспублікі.

Дадзеныя сацыялагічных даследаванняў сведчаць, што ў Беларусі кожны жыхар у сярэднім наведвае тэатр адзін раз у тры гады. Пэўная частка насельніцтва увогуле не цікавіцца тэатрам — 11 працэнтаў ад колькасці апытаных, а рэгулярна наведваюць тэатры толькі 18 працэнтаў насельніцтва рэспублікі.

Падобныя прыклады можна было множыць. У дадзеным выпадку да месца заастрыць увагу яшчэ на адной небяспечнай тэндэнцыі, якая акрэслілася апошнім часам, — на камерцыялізацыі тэатра. Яе прыклады ўжо пачынаюць праяўляцца дастаткова адназначна і выпукла: класічная драматургія, нацыянальная, спектаклі для дзяцей у многіх тэатрах рэспублікі пакрысе «вымываюцца» драматургічнымі падзелкамі. Як справядліва ўказваюць многія даследчыкі сучаснага тэатра, небяспека камерцыялізацыі — не ў прыярытэце эканамічных каштоўнасцей, а ў панаванні самазадаволенага культурнага шырспажыву. Пад яго націскам мастацкая, асветніцкая і выхаваўчая функцыі тэатра будуць адыходзіць на другі план у параўнанні з забаўляльнай і фінансавай. Узнікае досыць абгрунтаваная трывога — ці будзе ў такім выпадку мастацтва садзейнічаць духоўнаму аздараўленню нацыі, паглыбленаму развіццю гістарычнай, патрыятычнай і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа.

Такім чынам, стратэгія і тактыка дзяржаўнай палітыкі ў сферы тэатральнага мастацтва мае патрэбу ў карэнным пераглядзе.

Міністэрства культуры і Саюза тэатральных дзеячаў БССР распрацавалі праект «Праграмы развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі» (Асноўныя напрамкі перабудовы тэатральнай справы ў рэспубліцы). Гэты дакумент прапануецца для абмеркавання работнікам тэатральнага мастацтва, усім майстрам мастацкай творчасці, мясцовым органам кіравання культурай і народнай адукацыяй. Міністэрства культуры і Саюз тэатральных дзеячаў БССР спадзяюцца на актыўны ўдзел у абмеркаванні чытачоў «Літаратуры і мастацтва», усіх, каго хвалюе лёс нацыянальнай культуры беларускага народа.

Свае водгукі, заўвагі, прапановы і іншыя матэрыялы просім дасылаць у Міністэрства культуры, СТД БССР, а таксама ў рэдакцыю «ЛіМа».

Вынікі абмеркавання Праграмы будуць падведзены ў маі г. г. на пленуме праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР сумесна з калегіяй Міністэрства культуры БССР.

*Праект*

# ПРАГРАМА РАЗВІЦЦЯ ТЭАТРАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ

*(Асноўныя напрамкі перабудовы тэатральнай справы ў рэспубліцы)*

У распрацоўцы і ажыццяўленні новай дзяржаўнай палітыкі ў сферы тэатра неабходна ў першую чаргу ўлічваць нацыянальныя і сацыяльна-дэмаграфічныя асаблівасці Беларусі, своеасаблівасць яе мастацкіх традыцый, а таксама першаступенныя і перспектыўныя задачы далейшага палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця рэспублікі ў кантэксце агульнасаюзнага працэсу будаўніцтва сацыялістычнай прававой дзяржавы.

Асноватворным прынцыпам «перабудовачнай» дзяржаўнай палітыкі ў галіне сцэнічнага мастацтва з'яўляецца прынцып неабходнасці фарміравання новых мадэляў сацыяльнага функцыяніравання тэатра, пераходу ад дзяржаўнага да грамадска-дзяржаўнага кіравання тэатральнай справай.

Важнейшымі мэтамі ў тэатральным будаўніцтве з'яўляюцца наступныя ўзаемазвязаныя і ўзаемаабумоўленыя задачы:

— радыкальнае пашырэнне тэатральнай сеткі ў рэспубліцы;

— актыўнае развіццё нацыянальнага сцэнічнага мастацтва, яго розных відаў і жанраў;

— планамернае стварэнне эканамічных, арганізацыйна-прававых, сацыяльна-бытавых і іншых умоў для паспяховай творчай працы, а таксама пошук аптымальных форм унутрытэатральнага самакіравання;

— мэтавая падрыхтоўка кадраў і прапаганда тэатральнага мастацтва, развіццё сувязей прафесійнага і аматарскага тэатра.

Вырашэнне гэтых і іншых задач павысіць эфектыўнасць разнастайных функцый тэатра ў жыцці грамадства, а таксама будзе садзейнічаць далейшаму ўдасканаленню структуры мастацкай культуры Беларусі ў цэлым.

## 1. Пашырэнне тэатральнай сеткі, умацаванне матэрыяльнай базы

Выключна важная роля ў пашырэнні тэатральнай сеткі належыць кардынальным прававым рэформам у галіне культуры. Адна з асноўных пазіцый гэтых рэформ — пашырэнне праабоў, самастойнасці і паўнамоцтваў Саветаў народных дэпутатаў па стварэнню новых тэатральных калектываў, забеспячэнню прыярытэту гэтага накірунку пры фарміраванні дзяржаўнага плана эканамічнага і сацыяльнага развіцця, а таксама ўдасканаленне іншых заканадаўчых актаў, якія рэгулююць увесь комплекс узаемаадносін горада, органаў культуры, творчых работнікаў і г.д.

Для забеспячэння эфектыўнасці і рацыянальнага выкарыстання выдаткоўваемых на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы галіны дзяржаўных капітальных укладанняў побач з будаўніцтвам новых тэатральных будынкаў значную ўвагу надаваць рэканструкцыі, пашырэнню і тэхнічнаму пераўзбраенню дзеючых тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў, прыстасаванню для гастрольных выступленняў будынкаў, якія з'яўляюцца помнікамі гісторыі і культуры.

На разгляд Саветаў народных дэпутатаў выносяцца наступныя прапановы па пашырэнні тэатральнай сеткі, умацаванні яе матэрыяльнай базы.

На першым этапе завяршыць рэканструкцыю будынка ДАВТа БССР, тэатра імя М. Горкага ў г. Мінску, Брэсцкага і Магілёўскага абласных драматычных тэатраў, ажыццявіць будаўніцтва новых будынкаў тэатра лялек і Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра БССР у г. Мінску, дзіцячага музычнага тэатра ў г. Віцебску, Полацкага драматычнага тэатра, фальклорнага тэатра «Жалейка» і тэатра лялек у г. Гомелі.

У раёне гістарычнай забудовы Верхняга горада ў г. Мінску адкрыць «Тэатр Старога горада», у адным з помнікаў архітэктуры ў г. Віцебску — тэатр лялек.

У г. Мінску на базе дзеючых палацаў і дамоў культуры з удзелам Белсаўпрофа вырашыць пытанне аб стварэнні філіялаў тэатра імя Янкі Купалы, ТЮГа, тэатра імя М. Горкага, тэатра лялек.

Усяляк садзейнічаць стварэнню эксперыментальных тэатральных лабараторый і гаспадарча-разліковых тэатраў-студый.

У Віцебскай вобласці завяршыць будаўніцтва базы адпачынку тэатра.

На другім этапе ў квартале вуліц Леніна, Кірава і К. Маркса ў г. Мінску на базе кінатэатра «Піянер», тэатра лялек, ТЮГа і Палаца піянераў стварыць Беларускі дзіцячы нацыянальны тэатральны цэнтр.

Пашырэнне сеткі тэатраў і зоны пастаяннага тэатральнага абслугоўвання ва ўказаны перыяд будзе ажыццяўляцца як за кошт будаўніцтва новых будынкаў тэатраў лялек у гг. Баранавічы і Бабруйску, шматпрофільных тэатральных будынкаў з інтэрнатамі гасцінічнага тыпу (для гастраліруючых калектываў) у гг. Лідзе і Оршы, так і за кошт стварэння на базе дзеючых палацаў культуры ў г. Барысаве філіяла Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, у г. Жодзіна — тэатральнага цэнтра тэатраў імя Янкі Купалы, імя М. Горкага і ТЮГа.

На трэцім этапе ў г. Мінску пабудаваць новы будынак для тэатра імя Янкі Купалы, міжтэатральны вытворчы камбінат, шматфункцыянальныя будынкі тэатраў у гг. Пінску, Маладзечна, тэатра музычнай камедыі ў г. Гродна. Рэспубліканскі Дом ветэранаў сцэны ў прыгарадзе г. Мінска, а таксама гасцініцу для работнікаў тэатраў і гастраліруючых калектываў у г. Мінску.

## 2. Развіццё нацыянальнага сцэнічнага мастацтва

У шэрагу пастаянных клопатаў дзяржаўных органаў культуры і творчых саюзаў—стварэнне спрыяльных умоў для пленнага развіцця беларускай нацыянальнай драматургіі і тэатра. Рашэнне гэтай задачы патрабуе комплексу мер, якія прадугледжваюць, у першую чаргу, пашырэнне сеткі нацыянальных труп і тэатраў, а таксама ўдасканаленне форм дзяржаўных і іншых заказаў на стварэнне сцэнічных твораў па п'есах беларускіх драматургаў. (У ліку заказчыкаў могуць выступаць, напрыклад, Беларускі фонд культуры, іншыя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, творчыя саюзы, асацыяцыі і г. д.).

На першым плане з улікам рэальных эканамічных, творчых і кадравых магчымасцей стварыць акцёрскія трупы ў Гродзенскім, Гомельскім абласных рускіх драматычных тэатрах, а таксама ў Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча з тым, каб частку рэпертуару іграць на беларускай мове. Стварыць беларускамоўныя групы ў Брэсцкім і Гродзенскім абласных тэатрах лялек.

Адкрыць у Мінску Эксперыментальны тэатр-лабараторыю беларускай нацыянальнай драматургіі, стварыць Беларускі фальклорны тэатр «Жалейка» на базе Гомельскай аблфілармоніі.

Актыўна садзейнічаць стварэнню беларускіх гасразліковых тэатраў-студый у Баранавічах, Лідзе, Рэчыцы, Рагачове, Пінску, Оршы, Маладзечне, а таксама ва ўсіх абласных цэнтрах — Віцебску, Магілёве, Гомелі, Гродне, Брэсце. Стварыць на базе тэатраў-студый Мазыра і Слоніма беларускія драматычныя тэатры.

На другім этапе рэарганізаваць Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча ў Беларускі тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча (г. Бабруйск).

З мэтай прапаганды беларускай паэтычнай спадчыны стварыць пры Літаратурным музеі Янкі Купалы Беларускі тэатр паэзіі.

Стварыць дадатковыя беларускамоўныя акцёрскія трупы ў Магілёўскім і Брэсцкім абласных рускіх драматычных тэатрах, а таксама ў тэатрах лялек (Магілёў, Гомель, Брэст, Бабруйск, Баранавічы).

На трэцім этапе ў Мінску стварыць Беларускі нацыянальны цэнтр сцэнічнага мастацтва. Асноўнай задачай цэнтра будзе захаванне і памнажэнне традыцый беларускай нацыянальнай тэатральнай культуры.

Пашырыць сетку беларускіх тэатраў за кошт стварэння труп — драматычных (Пінск, Орша), лялечных (Мазыр, Ліда, Маладзечна), музычных (Гродна, Віцебск).

## 3. Новыя сацыяльныя ўмовы, перабудова прынцыпаў фінансавання, кіравання і самакіравання

Гэтыя і іншыя пытанні будуць вырашацца перш за ўсё ў кантэксце ўсесаюзных прававых норм і заканадаўстваў, а таксама з улікам матэрыяльных, фінансавых магчымасцей рэспублікі, абласцей, гарадоў, своеасаблівасцей іх культурных традыцый.

Дэцэнтралізацыя механізма стварэння новых тэатраў адкрывае шырокія магчымасці для мясцовых Саветаў народных дэпутатаў у пытаннях культурнага будаўніцтва, у задавальненні эстэтычных запатрабаванняў працоўных. Такія ж магчымасці адкрываюцца і перад асобнымі дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі, прадпрыемствамі, кааператывамі і г. д.

Пошук аптымальных форм працоўных адносін тэатральных работнікаў. Неабходнасць вяртання творчай працы ў тэатры статусу «свабоднай прафесіі».

Паэтапна перавесці на прынцыпы дагаворна-кантрактнай сістэмы з органамі культуры, грамадскімі арганізацыямі, прадпрыемствамі - заснавальнікамі ўсе тэатральныя калектывы рэспублікі пры абавязковых сацыяльных гарантыях для творчых работнікаў. Прадугледзець у дагаворах абавязацельствы па ўтрыманні памяшканняў, мэтавыя творчыя заказы (на абслугоўванне гледачоў, гастролі, стварэнне спектакляў, правядзенне фестываляў, аглядаў, конкурсаў і г. д.).

Пачынаючы з 1989 года ажыццявіць пераход усіх тэатраў рэспублікі на новыя ўмовы арганізацыйна-творчай і эканамічнай дзейнасці, якія прадугледжваюць шырокае ўкараненне эканамічных метадаў кіравання, карэнныя змены сістэмы бюджэтнага фінансавання, увядзенне ў практыку стабільных нарматываў, якія стымулююць творчую і эканамічную дзейнасць тэатраў, спалучэння бюджэтнага фінансавання гэтай дзейнасці з развіццём гаспадарчай самастойнасці і ініцыятывы саміх калектываў.

Устанавіць стабільныя эканамічныя нарматывы, ліміты цэнтралізаваных капітальных укладанняў і будаўніча-мантажных работ, дыферэнцыраваныя нарматывы фінансавання абслугоўвання розных катэгорый насельніцтва (дзеці, сельскія жыхары, жыхары аддаленых раёнаў).

Ствараць новыя тэатральныя трупы на ўмовах тэрміновых працоўных дагавораў, удасканальваць сістэму пенсійнага забеспячэння.

Рэгулярна (адзін раз у тры — чатыры гады) праводзіць сацыялагічныя даследаванні глядацкай аўдыторыі і экспертны аналіз рэпертуару дзяржаўных тэатраў. Укараніць якасна-колькасныя крытэрыі іх дзейнасці, маючы на ўвазе:

— рост пастаяннай аўдыторыі тэатра;

— адпаведнасць сацыяльнай структуры аўдыторыі дзяржаўнаму заказу (нарматыўнаму фінансаванню абслугоўвання розных катэгорый гледача);

— рост глядацкай аўдыторыі спектакляў, якія атрымалі экспертную ацэнку «якасных» (г. зн. якія адпавядаюць крытэрыям мастацкай каштоўнасці і гуманістычнай накіраванасці).

Новая канцэпцыя грамадска-дзяржаўнага кіравання значна пашырае творчую і гаспадарчую самастойнасць творчых калектываў, абумоўлівае шматвобразнасць форм унутрытэатральнага самакіравання, іх узаемаадносін з дзяржаўнымі формамі кіравання і Саюзам тэатральных дзеячаў БССР.

## 4. Падрыхтоўка кадраў, прапаганда тэатральнага мастацтва

Уздым усёй тэатральнай культуры рэспублікі ў значнай ступені залежыць ад вырашэння праблемы падрыхтоўкі высокакваліфікаваных творчых і адміністрацыйных кадраў. У сувязі з гэтым неабходна далейшае ўдасканаленне форм і метадаў, падрыхтоўкі кадраў для драматычных, музычных, самадзейных тэатраў і тэатраў лялек у БДТМІ, Белдзяржкансерваторыі, Мінскім інстытуце культуры, музычных вучылішчах і культасветвучылішчах з арыентацыяй на наступную работу ў беларускамоўных творчых калектывах.

На падставе вывучэння рэальных патрэбнасцей у кадрах праводзіць мэтавыя наборы акцёрскіх курсаў для канкрэтных тэатраў. На базе акадэмічных тэатраў імя Янкі Купалы і Якуба Коласа па меры неабходнасці ствараць тэатральныя студыі для падрыхтоўкі нацыянальных акцёрскіх кадраў.

Побач з падрыхтоўкай рэжысёраў у БДТМІ і Мінскім інстытуце культуры практыкаваць мэтавыя накіраванні на стажыроўку ў тэатральныя навучальныя ўстановы Масквы да вядучых майстроў савецкага тэатра. Пашырыць стажыроўку па ўсіх творчых спецыяльнасцях на базе акадэмічных тэатраў рэспублікі.

Адкрыць у БДТМІ дзённае аддзяленне для падрыхтоўкі арганізатараў тэатральнай справы, а таксама тэатразнаўцаў-заглітаў і тэатральных крытыкаў, іншых спецыяльнасцей.

Стварыць у Мінску Беларускую рэспубліканскую школу-інтэрнат з тэатральным ухілам.

У абласных цэнтрах (Брэст, Гомель, Гродна, Магілёў, Віцебск) арганізаваць у адной з сярэдніх школ спецыяльныя класы з тэатральным ухілам.

Стварыць спрыяльныя ўмовы для прамых кантактаў тэатраў і драматургаў: праводзіць рэгулярныя творчыя семінары маладых аўтараў; конкурс на лепшы твор; выдаваць штогадовы альманах «Беларуская драматургія».

З мэтай далейшага ўдасканалення форм і метадаў прапаганды тэатральнага мастацтва, развіцця беларускай тэатральнай крытыкі:

— вывучыць пытанне аб магчымасці рэарганізацыі бюлетэня «Тэатральны Мінск» у часопіс «Беларускі тэатр»;

— адкрыць у рэспубліканскіх і абласных газетах рэгулярную штотыднёвую рубрыку «Тэатральнае мастацтва Беларусі», у якой асвятляць тэатральны працэс;

— пашырыць прапаганду сцэнічнага мастацтва сродкамі радыё і тэлебачання;

— прадаставіць магчымасць усім тэатрам рэспублікі перыядычна (1 раз у месяц) выпускаць уласныя рэкламныя выданні аб сваіх спектаклях, аб вядучых майстрах сцэны і творчай моладзі і г. д.

У Мінску стварыць Музей тэатральнага і музычнага мастацтва Беларусі. На яго базе праводзіць прапагандысцкую, асветніцкую і даследчую работу, сімпозіумы і іншыя мерапрыемствы. Мець відэатэку лепшых спектакляў.

Стварыць Асацыяцыю беларускіх тэатральных крытыкаў.

На базе БДТМІ, Белдзяржкансерваторыі, Мінскага інстытута культуры практыкаваць стварэнне міждысцыплінарных часовых творчых калектываў. У планы іх навукова-даследчых прац уключаць мэтавую тэматыку, звязаную з вывучэннем і прагназіраваннем форм тэатральнай дзейнасці; запытаў, патрэбнасцей, інтарэсаў розных груп насельніцтва ў галіне тэатральнага мастацтва; спецыфікі фарміравання і развіцця асобы, уздзеяння сцэнічнага мастацтва на асобу, ролі тэатра ў фарміраванні і развіцця асобы.

Устанавіць імянныя прэміі Міністэрства культуры БССР і Саюза тэатральных дзеячаў БССР (7 прэмій па 1,5 тыс. руб. кожная, прысуджаюцца адзін раз у тры гады) за наступныя дасягненні:

— лепшая пастаноўка беларускай п'есы (аўтар, рэжысёр, мастак). Прэмія імя Еўсцігнея Міровіча;

— лепшы музычны спектакль (стваральнікі пастаноўкі, выканаўцы цэнтральных роляў). Прэмія імя Ларысы Александроўскай;

— лепшы спектакль для дзяцей (аўтар, рэжысёр, мастак, выканаўцы галоўных роляў);

— лепшая мужчынская роля. Прэмія імя Уладзіміра Крыловіча;

— лепшая жаночая роля. Прэмія імя Лідзіі Ржэцкай;

— буйны ўклад у развіццё тэатральнай народнай творчасці (рэжысёры аматарскіх тэатраў). Прэмія імя Уладзіслава Галубка;

— буйны ўклад у развіццё і прапаганду тэатральнага мастацтва (усе творчыя работнікі).

Удасканальваць тэатральныя сувязі: унутрысаюзныя і замежныя гастролі, абмен пастановачнымі групамі і выканаўцамі цэнтральных роляў.

Садзейнічаць фарміраванню пры аддзяленнях Саюза тэатральных дзеячаў БССР творчых (прафесійных і самадзейных) калектываў, арганізацыі таварыстваў (клубаў) аматараў тэатра. На другім этапе (1990—1991 гг.) — стварэнне рэспубліканскага таварыства аматараў тэатра.

На рэгулярнай аснове праводзіць:

—штогадовыя святы тэатральнага мастацтва;

— рэспубліканскі фестываль драматычных тэатраў (1 раз у тры гады);

— рэспубліканскі фестываль тэатраў лялек (1 раз у тры гады);

— рэспубліканскі фестываль тэатраў-студый (1 раз у тры гады);

— рэспубліканскі фестываль самадзейнага драматычнага мастацтва (1 раз у тры гады).

Творчым калектывам рэспублікі прымаць удзел ва Усесаюзных аглядах творчай моладзі: Усесаюзных тыднях «Тэатр — юнацтву і дзецям»; Усесаюзных і міжнародных фестывалях і аглядах тэатральнага мастацтва («Прыбалтыйская тэатральная вясна», «Рампа дружбы» і г. д.).

●

Тэатр заклікан фарміраваць новага чалавека, новую маральную атмасферу ў грамадстве, якое стала на шлях стварэння прававой сацыялістычнай дзяржавы.

Зыходзячы з гэтых задач, тэатральная культура мае патрэбу ва ўсебаковай эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай і прававой падтрымцы дзяржавы, грамадства. Адначасова тэатральнае мастацтва мае патрэбу ў актыўнасці кожнага дзеяча тэатра. Толькі ў сумесных намаганнях усіх зацікаўленых бакоў прыйдзе поспех тэатральнай перабудовы, якая памножыць багацці мастацкай культуры беларускага народа, павялічыць яго духоўны патэнцыял.

---

**Аляксей КАРПЮК**

# І МАЕМ, ШТО МАЕМ...

**З ПІСЬМЕННІЦКАГА БЛАКНОТА**

ДАЎНО было, але помню, як аднойчы мая дачка-пяцікласніца (цяпер яна ўжо ўрач), прыйшоўшы са школы, пахвалілася:

— А мне сёння не трэба вучыць матэматыку! У нас была камісія, дык настаўніца задавала пытанні па ўроку, які мы праходзілі раней, хоць зрабіла выгляд, што расказвае ўсё гэта нам упершыню. Усім пяцёркі выставіла!

Дзяўчынка прымала хлусню настаўніцы, як належнае. Разлажэнне грамадства ў застойны перыяд ішло на ўсіх узроўнях.

У канцы шасцідзесятых нашае абласное кіраўніцтва кінулася абараняць дысертацыі. Старшыня аблвыканкома Н. Малочка, яго намеснік Я. Арэхаў, першы сакратар абкома І. Мікуловіч, сакратар абкома А. Ульяновіч палічылі, што для поўнага жыццёвага камфорту ім не хапае толькі навуковых ступеняў. Напісанне дысертацый даручылі сваім інструктарам, вызваліўшы іх ад прамых абавязкаў. Тыя не супраціўляліся. Іншым разам нават хваліліся:

— Машына ў маім распараджэнні. Калі хачу, тады і прыходжу на працу. Пасля абароны дысертацыі шэф абяцае павышэнне.

У некаторых з прэтэндэнтаў на вучонае званне не было нават пасведчанняў аб заканчэнні сярэдняй школы. Пры пед-інстытуце для іх наладзілі здачу экзаменаў экстэрнам, для чаго рэктар нават вызваліў свой кабінет.

Горад наш тады быў меншым, весткі распаўсюджваліся імгненна. Літаральна на наступны дзень пасля здачы экзамена тым жа Малочкам стала вядома, што на экзаменах ён даводзіў: вярблюдаў разводзяць на Таймыры. Яго намеснік Арэхаў на экзамене не змог адказаць ні на адно пытанне.

Нарэшце, «негры» паклалі на стол шэфам гатовыя «дысертацыі» — кампіляцыі з цытат, артыкулаў і дакладаў. І што вы думаеце? Большая частка наменклатуры неўзабаве «абступенілася». За выключэннем хіба толькі А. Ульяновіча.

...У «Известиях» быў надрукаваны артыкул пра былога Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета Узбекістана Я. С. Насрэдзінаву, якая наладзіла сыну вяселле з царскай раскошай. Грошы на вяселле, вядома, траціліся не зробленыя. Перараджэнне чыноўнай іерархіі, на жаль, ахапіла значную частку адміністрацыйнага апарату.

Вось семнаццацігадовай даўнасці запіс у маім пісьменніцкім блакноце. Гаворка ідзе аб падзеі, якая ў свой час ускалыхнула ўсё Гродна. Аднойчы прадстаўніка гарнізоннага Дома афіцэраў выклікалі тэрмінова ў абком. У кабінеце першага сакратара, акрамя гаспадара, сабраліся сакратары гаркома, работнікі гандлю і аблспажыўсаюза, якія вырашалі важнае пытанне — як на лепшым узроўні правесці вяселле дачкі першага сакратара абкома Мікуловіча. Нехта выказаў прапанову правесці вяселле ў суботу ў Доме афіцэраў. Прадстаўнік Дома афіцэраў пачаў прасіцца: «Таварышы, у нас у суботу танцавальныя вечары. Яны наша амаль асноўная крыніца даходаў...» Прысутныя дружна растлумачылі яму, што вяселле дачкі першага сакратара абкома партыі больш важнае мерапрыемства, чым нейкія там танцы.

А пасля ў кабінеце пачалося абмеркаванне, так сказаць, дэталяў будучых урачыстасцяў. Белыя машыны для вясельнага картэжу дасць намеснік старшыні аблвыканкома — у яго распараджэнні цэлы аўтапарк. Пра аркестр паклапоцяцца вайскоўцы. Абгаворана было і іншае: каму забяспечваць «мерапрыемства» каўбасой, смажанінай, салатамі, вінамі, каньякамі і напіткамі. Пагадзіліся, што гэта зробіць райспажыўсаюз. Яго старшыня тут жа запісаў на паперцы «заданне».

— Але, таварышы,— сказаў гаспадар кабінета, — хацелася б, каб усё адбылося без залішняй агалоскі. Ведаеце, колькі ў нас мяшчан, абывацеляў, якім усё трэба ведаць...

Вырашылі паклікаць начальніка абласной міліцыі генерала Судзілоўскага, які неўзабаве і з'явіўся. Сакратар папрасіў яго ў час вяселля паставіць каля Дома афіцэраў міліцэйскую ахову.

Тамадой прызначылі А. Ульяновіча.

І ў вызначаны час у гарнізонным Доме афіцэраў быў накрыты стол на 120 персон. Чаго толькі там ні было! Нягледзячы на зімовую пару, красавалася нават клубніка, не адарваць вачэй было ад пятнаццаці вялізных тортаў, якія прывезлі ў наш старажытны горад самалётам. Дальбог, губернатар Гродзенскай губерні яшчэ за царскім часам Сталыпін такой трапезы ніколі не бачыў, не кажучы пра Станіслава Аўгуста Панятоўскага — упраўляючага каралеўскага двара.

У самы разгар балявання, жонка Малочкі адазвала галоўнага адміністратара і спытала ў яго:

— А нам вы зможаце арганізаваць вяселле? Праўда, у нас багата гэтак не будзе...

І праўда, Малочкі потым праводзілі вяселле ў школе...

У Мікуловічаў гулялі да пяці раніцы. На заканчэнне «мерапрыемства» маладым уручылі ключы ад новай кватэры.

Вяртаючыся думкамі да тых падзей, я сам сабе задаю пытанне: адкуль бралася ў людзей тая начальніцкая фанабэрыя, хто выхаваў у іх пачуццё ўсёдазволенасці?

Помню, аднойчы Н. Малочка казаў мне, такому ж, як і ён, выхадцу з заходнебеларускай вёскі і амаль яго аднагодку, што я не «ўмею» жыць, раіў браць прыклад з яго. Я глядзеў яму ў вочы і думаў: жартуе ён ці кажа сур'ёзна?

Быў ён родам з беднай вёсачкі Плецянічы Зэльвенскага раёна. Пайшла яе назва, відаць, ад дзеяслова — плесці. Тут заўжды жыло шмат рыбакоў, якія плялі рыбалоўныя прылады — сеці і торбы. Але зразумець гэтыя прамудрасці Малочку было не пад сілу. Назву палічыў абразлівай. Карыстаючыся дадзенай яму народам уладай, Малочка, рашэннем выканкома назву вёскі замяніў на Чырвонае Сяло. Але ўдзячнасці ад землякоў не атрымаў. Калі неўзабаве ён прыехаў на радзіму для сустрэчы з выбаршчыкамі і з трыбуны хваліў Савецкую ўладу, якая зрабіла яго, былога батрака і пастуха, «чырвоным губернатарам», нехта з аднавяскоўцаў «у знак падзякі» за новае імя вёскі пракалоў усе чатыры колы ў «Волзе» госця...

Сёння ідзе шмат размоў пра народных дэпутатаў.

Аднойчы ехаў я з Мінска ў вагоне з нейкай маладзіцай. Неўзабаве даведаўся, што яна даярка-дэпутатка, вяртаецца з сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Я пацікавіўся:

— І што там было цікавага?

— Апельсіны ў буфеце,— пахвалілася яна і паказала на аранжавыя кругляшы ў сетцы.

Пачакаўшы хвіліну-другую, я зноў спытаўся:

— А ўсё-такі, што было на сесіі цікавага?

— Давалі кітайскія кофты ў ларку, але мне не дасталося.

Вярнуўшыся дамоў, я зайшоў да першага сакратара абкома і расказаў яму пра гэтую сустрэчу. «Што ж гэта робіцца,— кажу яму,— каго выбіраем у вышэйшы орган улады?» І. Ф. Мікуловічу мой расказ не спадабаўся, пачаў ён папракаць мяне з Быкавым (Васіль Уладзіміравіч жыў тады ў Гродне) за тое, што мы, маўляў, не туды глядзім, не тое бачым. Параіў прачытаць раман В. Кочатава «Чаго ж ты хочаш?»

— Прачытайце гэтую кніжку абодва, прачытайце!— казаў ён.— Там паказаны людзі, якія, як і вы, бачаць у нашым жыцці толькі змрочнае. Працоўны народ вас не зразумее!

Вялікім аматарам павучаць інтэлігенцыю быў і А. Ульяновіч. Не было пленума, схода, нарады, на якіх бы А. Ульяновіч не прайшоўся наконт нас з Быкавым. Помню яго выступленне на сходзе абласнога партактыву, дзе ён казаў:

— Пытаецеся, што робіць Карпюк? У містыку ўбіўся! Абклаўся бібліямі, царкоўнымі фаліянтамі і сачыняе нешта рэлігійнае. А Быкаў? Усё піша і піша пра вайну. Вядома, трэба і аб ёй пісаць, але як? Вось у «Альпійскай баладзе» савецкага афіцэра ён здае ў палон. Ну, што ж зробіш, часам здаралася — у палон траплялі нават асобныя афіцэры. Але ж як там сябе паводзіць камандзір Чырвонай Арміі? Мо ён думае, як з немцамі ваяваць? Не, ён заводзіць любоўныя шашні са смазлівай італьяначкай... Як вам падабаецца такі камандзір Чырвонай Арміі?

І самае неверагоднае тое, што, выхаваная падобнымі лектарамі, правінцыяльная аўдыторыя нашага Дома палітасветы голасна абуралася «такімі паводзінамі» пісьменніка. Дайце веры, але неўзабаве Васілю Быкаву пабілі ў кватэры вокны. Ад мяне пры сустрэчы на вуліцы сёй-той кідаўся, як ад хворага на праказу.

У Ленінакане пасля землетрасення адзін рабочы-выратавальнік гаварыў карэспандэнту:

— Разумееш, калі ў сапраўдны бетон бухнеш кувалдай, яна адразу са звонам адскоквае! А тут б'еш па панелі і кувалда правальваецца па рукаятку. Цэмент, калі будавалі, пайшоў налева. Арматура не звараная, прэнцікі — кожны сам па сабе! І вось вынік: як толькі здарылася землетрасенне, дзевяціпавярховыя дамы адразу рассыпаліся...

У часы застою і мараль нашая будавалася на каркасе, зробленым вось такім цяпам-ляпам. І таму мы зараз маем тое, што маем...

г. Гродна.

*Лісты ў рэдакцыю*

# НІ ДНЯ НЕ ЗАБЫВАЎ...

З цікавасцю чытаў у саюзным друку выступленні першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Ніла Гілевіча і вырашыў падзяліцца сваімі думкамі.

Я — радавы беларус, з пачатку вайны 16-гадовым камсамольцам пайшоў разам з гуртамі жывёлы на ўсход, ды так і не вярнуўся больш на пастаяннае жыхарства ў родную рэспубліку. На гэта былі прычыны: фронт, раненне, шпіталь, потым 35-гадовая служба ў Савецкай Арміі ў самых розных гарнізонах ад Сахаліна да Смаленска, прайшоў шлях ад салдата да палкоўніка, выкладчыка адной з ваенных акадэмій. Як пяецца ў адной з песень, «я по свету немало хаживал...»

І хачу ўсім сваім землякам-беларусам сказаць, што за ўсе гэтыя гады я ніколі не губляў сувязі з малой радзімай, ніводнага дня не забываў пра сваю родную рэспубліку, пра сваю родную мову.

Помню сахалінскую службу. У гарнізоннай бібліятэцы не было кніг на беларускай мове. Напісаў пісьмо сябрам у Віцебск, і цэлая бандэроль твораў Купалы і Коласа прыйшла ў мой дом на Сахаліне. Я не мог забыць сваю родную мову, літаратуру, да якіх далучыўся з дзіцячага ўзросту. А вось другая, руская мова, мне давалася цяжэй. І калі пасля Сахаліна давялося служыць у цэнтральных абласцях Расіі, якасць свайго радыёпрыёмніка я ацэньваў па яго здольнасці прымаць радыёстанцыі Мінска. А з якой асалодай я і мая сям'я глядзелі і слухалі па тэлебачанні на беларускай мове першую прамую трансляцыю з Мінска спектакля Янкі Купалы «Паўлінка». Дагэтуль помнім гэты цудоўны вечар, хоць мінула шмат гадоў.

Амаль штогод (за выключэннем службы на Сахаліне) свой адпачынак праводзіў у Беларусі, у Віцебскай вобласці. Не магу зразумець тых, хто спрабуе знайсці прыгажэйшыя мясціны для свайго адпачынку. Па-мойму, лепшых і прыгажэйшых, чым беларускія лясы, палі, рэкі і азёры, мясцін проста не бывае.

Я, жонка і дачка некалькі разоў былі ў Мінску, наведвалі музеі, тэатры, любаваліся прыгажосцю набярэжных ціхай Свіслачы і шырокімі, прыгожымі гарадскімі праспектамі. Адзін выпадак помніцца дагэтуль: у доме-музеі Янкі Купалы маладая экскурсавод (а магчыма, навукова супрацоўнік) вяла свой аповяд на чыстай беларускай мове. Як зачараваныя, слухалі мы яе. Потым агледзелі цудоўныя помнікі Купалу і Коласу ў Мінску, былі на плошчы Перамогі, схілілі свае галовы ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

Важнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі з'явілася выданне Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, 12 тамоў якой мне ласкава прыслалі ў Маскву па падпісцы. Наведанне кнігарань у гарадах Беларусі стала традыцыяй, вялікая частка хатняй бібліятэкі складаецца з кніг беларускіх пісьменнікаў: Куляшоў, Танк, Быкаў, Мележ, Лось, іншыя празаікі і паэты.

Чытаю артыкул Н. Гілевіча ў «Правде» і ўспамінаю далёкія гады вайны. Паўстагоддзя мінула, а з памяці не знікае 1943 год. Едзем у цяплушках на фронт. На вялікіх станцыях у гады вайны былі адкрыты агітпункты. І вось на таварнай станцыі «Чырвоная Прэсня», пад Масквой, наш цягнік затрымаўся, у добра абсталяванай, вялікай зале агітпункта было шмат розных газет і часопісаў, але я адразу ўбачыў знаёмыя словы загалоўкаў: «Советская Белоруссия», «Раздавім фашысцкую гадзіну!». З дазволу дзяжурнага я ўзяў некалькі экземпляраў. Па дарозе на фронт, у цяплушцы, я чытаў весткі з радзімы на роднай мове. А якую радасць выклікала аднойчы газета «Комсомольская правда», надрукаваўшы ўсю трэцюю паласу пад агульным загалоўкам «Беларусь жыве, Беларусь ваюе!».

Аднойчы ў баях на смаленскай зямлі, пасля выгнання фашыстаў з аднаго населенага пункта, мне на вочы трапіўся фашысцкі лісток «Мінскер цайтунг», уся газетка на нямецкай мове, але адна старонка — на беларускай. Фашысты тлумачылі нашаму народу, чаму яны «выраўніваюць» лінію фронту. Божа мой, што яны рабілі з беларускай мовай, яе граматыкай, слоўным запасам! Адкуль бралі яны выдуманыя звароты і словы? Аказваецца, як я потым даведаўся, фашысцкія прыслужнікі хацелі прымусіць беларусаў забыць сучасную літаратурную мову.

Вызваленне Мінска застала мяне ў Казані, у шпіталі. З гэтай нагоды 3 ліпеня 1944 года адбыўся мітынг, мне, як беларусу, прапанавалі выступіць на гэтым мітынгу. Я сказаў кароткую прамову на роднай мове, выклікаўшы буру апладысментаў. Мне апладзіравалі воіны розных нацыянальнасцей, беларуская мова была зразумелая без перакладчыка.

У дзень пахавання П. М. Машэрава я прыехаў у пастаяннае прадстаўніцтва БССР на вуліцу Багдана Хмяльніцкага ў Маскве з чырвонымі гваздзікамі, пастаяў у ганаровай варце ля партрэта Пятра Міронавіча з чорнай стужкай. Там было шмат масквічоў, якія прыйшлі развітацца з гэтым выдатным беларусам, настаўнікам, партызанам, а потым відным палітычным дзеячам.

Абсалютна згодны з Н. Гілевічам у тым, што другія народы нашу рэспубліку і наш народ паважаюць, з вялікай увагай ставяцца да поспехаў яе эканомікі і культуры. Працавітасць, сціпласць, гасціннасць характэрны беларусам. «Партызанская рэспубліка», «Беларусь сінявокая» і іншымі падобнымі эпітэтамі называюць нашу рэспубліку людзі іншых нацыянальнасцей.

Жывучы і працуючы апошнія 30 гадоў у Маскве, я ганаруся сваёй рэспублікай, шмат добрага чую пра беларускія аўтамабілі, тэлевізары, халадзільнікі, тавары шырспажыву, а яшчэ больш — пра наш беларускі народ.

Глыбока перакананы, што для захавання і развіцця сучаснай літаратурнай беларускай мовы трэба мець добрых, дасведчаных у сваёй справе спецыялістаў: настаўнікаў і педагогаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў, якія любяць сваю рэспубліку, яе культуру, яе мову. І, вядома, вывучаць родную мову трэба з дзіцячага сада.

**І. УХВАРОНАК,**
**старшы інспектар Міністэрства культуры РСФСР.**

г. Масква.

# ДА ГЕАГРАФІІ ДЗЯДОЎ

Як вядома, на Беларусі адзначаюцца чатыры хатнія дні, якія прысвечаны памяці продкаў. Напрыклад, на Тураўшчыне «правяць Дзяды чатыры разы ў год: у мясаед, перад пастом — памінальны тыдзень, перад пятровіцай, перад піліпаўкаю» (в. Кароцічы Столінскага раёна — Тураўскі слоўнік, т. 2, 1982, стар. 12). У гэтай мясцовасці, а таксама на Гомельшчыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне, Міншчыне адзначаецца радаўніца на могілках (у аўторак пасля Вялікадня, праз восем дзён на дзевяты), дзе пасцілаюць абрусы, ставяць ежу, пітво, запальваюць свечкі.

У час дыялекталагічных экспедыцый даводзілася быць у мясцовасцях, дзе на радаўніцу толькі прыбіраюць магілы, а абедаюць дома (в. Яскавічы Салігорскага раёна). На Палессі ёсць Наўскі Вялікдзень у чацвер пасля Вялікадня. Святкуюць яго індывідуальна.

Асенняе святкаванне Дзядоў адзначаецца ў мясцовасцях Івянца, Валожына, Маладзечна, Паставаў, каля Барысава, у Астравецкім раёне. Бывае яно «пасля пакроў» на «ўсе святыя» (2 лістапада па н. ст. згодна каталіцкаму календару), на якое папраўляюць магілы, ставяць помнікі (да гэтага дня). Удзельнічае ў ім усё сяло. Запальваюць свечкі, якіх бывае ад адной да некалькіх ці нават па краю ўсёй магілы. У гэты асенні дзень могілкі выглядаюць, як вогненны востраў сярод дрэў — відовішча незвычайнае! Напэўна, да гэтага дня і прымеркавалі памінанне ахвяр сталінскіх рэпрэсій нашы нефармалы.

У в. Засценкі Вілейскага раёна восеньскае свята Дзяды называюць Асяніны. На могілкі ідзе ўся вёска, прыносіць ежу, запальваюць свечкі. Пасля могілак памінальная вячэра працягваецца дома.

Апрача таго, у Астравецкім раёне святкуюць на могілках яшчэ родавае свята Дзяды і называецца яно, напрыклад, Яніны (па імені родапачынальніка Яна). Уся радня, увесь род збіраецца на могілкі. Трэба адзначыць, што ў каталіцкім асяроддзі не засцілаюць абрусаў, не ставяць ежы, а толькі паляць свечкі.

Святкаванне на могілках у славян адзначаецца спрадвеку (Л. Нідэрле. Славянскія старажытнасці. М., 1957, стар. 215). Аб радаўніцы ўпершыню ўпамінаецца ў IV Ноўгарадскім летапісе пад 1372 годам. Цікава, што ўжо тады гэта язычніцкае свята забаранялася царквой і дзяржаўнымі ўладамі (князямі,ураднікамі).

У сувязі з пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Аб утрыманні могілак і рабоце рытуальных службаў у рэспубліцы» (ад 10 студзеня 1989 года) нам уяўляецца, што трэба ўводзіць не адзіны дзень для памінання продкаў, а некалькі зональных з улікам мясцовых традыцый. У нас ёсць адзіны дзень памінання загінуўшых у часы Вялікай Айчыннай вайны — 9 Мая. Памінанне ж продкаў адбываецца цяпер па-ранейшаму ў традыцыйныя дні. Іх і трэба ўзаконіць юрыдычна.

**І. ЯШКІН,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.**




**З 8 ПА 14 МАЯ**

**8 мая, 13.05**

**«ШАНЦ»**

Прэм'ера і абмеркаванне дакументальнага фільма Беларускага тэлебачання.

**8 мая, 20.00**

Канцэрт ансамбля ветэранаў мінскага Дома афіцэраў.

**9 мая, 16.10**

**«ЛЕПШАЯ ПАМЯЦЬ — ЛЮБОЎ ДА ЖЫВЫХ»**

Вершы М. Танка, П. Панчанкі, А. Вялюгіна, А. Грачанікава, А. Вярцінскага, П. Макаля чытаюць артысты мінскіх тэатраў.

**9 мая, 17.25**

**СТУДЫЯ «РЭЯ»**

Святочная праграма для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

Спяваюць Э. П'еха, А. Басілашвілі, К. Шульжэнка, В. Лявонцьеў, Н. Брэгвадзе, ансамбль «Песняры», група «Сюрпрыз» і іншыя.

**9 мая, 20.00**

Канцэрт сімфанічнай музыкі.

Прагучаць творы Чайкоўскага, Гуно, Бетховена ў выкананні сімфанічнага аркестра Літоўскай ССР.

**10 мая, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Аб праблемах беларускай мовы, культуры і спадчыны вядуць размову сакратар Віцебскага абкома партыі І. А. Навумчык, рэжысёр Ю. Цвяткоў, ксёндз Я. Матусевіч і пісьменніца В. Іпатава.

**13 мая, 19.35**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Вы пачуеце вершы П. Ламана, пабываеце на фотавыстаўцы М. Шмерлінга, творчасць якога — своеасаблівы летапіс Віцебшчыны. Прагучаць новыя песні аўтара-выканаўцы В. Залескай.

Заслужаны артыст БССР М. Цішачкін пазнаёміць з маладым артыстам-коласаўцам В. Салаўёвым.

**14 мая, 15.35**

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

В. Галаўко. М. Шэлехаў. «Папялушка».

Выканаўцы В. Шэіна і В. Касенка.

**14 мая, 20.05**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы У. Някляева.

**14 мая, 23.25**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00203 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: *прыёмнай рэдакцыі* — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.